— Не слаба цябе супружніца на дарогу забяспечыла, — агледзеўшы выстаўленыя на столік прысмакі, пазайздросціў Баранаў.

— А-а-а, — хрумснуўшы салёным агурком, махнуў рукой спадарожнік. — Сала сам саліў, каўбасу таксама сам пальцам пхаў... Ты не саромейся, закусвай. Мне гэтых запасаў, — матнуў галавой у бок застаўленай сумкамі верхняй паліцы, — на ўсю шабашку хопіць.

Грышавы сумкі сапраўды ўражвалі сваімі габарытамі.

— Так кепска ў Маскве з харчамі?

— Ды не ў гэтым праблема, — Грыша зморшчыўся, быццам у яго зуб забалеў. — Мы ж там, лічы, нелегальна. Лішні раз не толькі ў магазін, у сарцір баішся выйсці, каб на мянтоў не нарвацца. «Стрыгуць» нашага брата шабашніка, — не давядзі Гасподзь. На дачу зашываемся на ўсю вахту і на вуліцу носа не высоўваем. Нашай брыгадзе яшчэ пашанцавала: гаспадар добры...

Пасля трэцяй шклянкі выйшлі ў тамбур пакурыць, але размова не спынялася. Такая ўжо славянская натура: сэнс п'янкі часцей за ўсё заключаецца не ў самім працэсе выпівання гарэлкі, а ў тым, каб пагаварыць.

— І чым жа ён такі добры, ваш гаспадар?

— Ты ведаеш, у чым галаўны боль шабашніка ў расійскай сталіцы? Галоўнае — прывезці грошы дадому, а дакладней — вывезці іх з Масквы.

— Рэкет?

— Рэкет. Толькі не бандыцкі, а міліцэйскі. Чуюць яны нас за вярсту, на Беларускім вакзале і на подступах да яго літаральна палююць на нашага брата. Трапіш ім у рукі — так абшманаюць, што дзясятаму закажаш. Добра, калі на білет дадому пакінуць... Дык вось, наш гаспадар сваіх шабашнікаў сам прывозіць на вакзал, бярэ нам білеты і чакае, пакуль у вагон сядзем. Чалавек! Далёка не кожнаму так шанцуе. А ты чаго ў Смаленск? На радзіму пацягнула? — Грыша ведаў, што Баранаў родам са Смаленшчыны і даўно там не быў.

— Цётка папрасіла наведаць, — ахвотна патлумачыў Анатоль. — Паміраць сабралася, хату хоча перапісаць. А навошта мне тая хібара? Ёй сто гадоў ужо.

— Цётцы?

— Хаце...

У Смаленск цягнік прыбываў уначы. Баранаў не стаў будзіць Грышу, ціхенька сабраўся і, прыкрыўшы дзверы купэ, выйшаў на перон. Яго стан пасля вячэрняга застолля вымушаў жадаць лепшага, і Анатоль накіраваўся ў буфет. Купіў бутэльку піва, выпіў «з гарла» залпам, не адрываючыся, але ўсё роўна было моташна. «Чыста хлебны!.. — вылаяўся, успомніўшы Грышаву пахвальбу наконт кумавага самагону. — Цукрам прыпраўлены, як піць даць!..»

Да раніцы пакемарыў у зале чакання, а на першым аўтобусе прыехаў на аўтавакзал: да Кукушкіна цягнікі не хадзілі. На вакзале высветлілася, што ў яго родную вёску ўвогуле ніякага транспарту няма, трэба дабірацца транзітнымі аўтобусамі з дзвюма перасадкамі, а потым яшчэ тэпаць кіламетраў пятнаццаць на сваіх дваіх. Настрой канчаткова сапсаваўся.

«Можа, плюнуць на ўсю гэту ідэю з паездкай ды вярнуцца?» — мільганула думка. Аднак Баранаў тут жа адагнаў яе — няма чаго баяцца першых цяжкасцей. Ды і цётцы тэлеграму даў, што прыедзе.

Апоўдні Анатоль быў ужо ў райцэнтры Мацюхіна, а яшчэ праз дзве гадзіны выйшаў на «бальшак» — успомніў, што менавіта так называлі землякі гэта месца ў пару яго юнацтва. Адсюль зараз трэба тэпаць да Кукушкіна паўтара дзясятка кіламетраў разбітым прасёлкам. Калі Баранава забіралі ў войска, да райцэнтра ён і яшчэ чацвёра хлопцаў-прызыўнікоў ехалі рэйсавым аўтобусам.

— Ты б яшчэ царскі час успомніў! — Анатоль нават не заўважыў, што вымавіў апошнюю фразу ўголас.

— А ты што, жыў тады? — пачуў раптам за сабой голас і азірнуўся.

З «бальшака» на прасёлак паварочвала сялянская падвода. Канём кіраваў, звесіўшы ногі ўбок, высокі худы дзядок у гумавых ботах і зімовай шапцы-вушанцы. «Гэта сярод лета!» — здзівіўся Баранаў.

— Тп-р-ру! — крыкнуў на каня align вознік. — Далёка едзеш, сынок?

— У Кукушкіна.

— Сядай, падвязу. Я якраз у Кукушкіна і еду. Калі мой Орлік па дарозе не здохне. Чый будзеш? Нешта не пазнаю. Ці не тутэйшы? — дзед дастаў з кішэні пачку «Беламора», прыкурыў, зацягнуўся, потым прапанаваў папяросы Баранаву. — Будзеш смаліць?

— Дзякуй, дзядуля, я лепш свае, прывык ужо, — Анатоль уладкаваўся на падводзе побач з возніка́м і закурыў сваю любімую «Прыму». — Тутэйшы я. Кукушкінскі. Не быў, праўда, у гэтых краях гадоў трыццаць. Баранава Сямёна Захаравіча сын. Анатолем зваць.

Дзед прыжмурыўся:

— Баранаўскі сынок?.. Як жа, як жа... Падобны да бацькі, падобны... Ростам не выйшаў, праўда, ды каржакаваты... Няма ўжо тваіх бацькоў у жывых. Вось жысць! А Сямён за мяне на тры гады маладзейшы быў. Яго ўжо гадоў з дзесяць як няма, а я ўсё капчу і капчу белы свет... Дзівосы твае, Госпадзі! Да Зінкі, пэўна, едзеш, да цёткі сваёй?

— Так, да яе, — пагадзіўся Анатоль, углядваючыся ў твар суразмоўцы. — А я вас успомніў. Вы — дзядзька Вася. Пахомаў. У канцы вёскі жывяце, перадапошні дом. У вас жонка яшчэ такая вясёлая са смешным імем Пелагея...

— Чаго ж тут смешнага? — спахмурнеў Пахомаў. — Імя як імя. Нармальнае. Поп выбіраў па святцах... Няма ўжо Пелагеі. Лютай смерцю загінула. Адзін я цяпер жыву. Ды вось Орлік яшчэ ў гаспадарцы.

— А чаму вы кажаце, што лютай смерцю? Што здарылася? — Баранаў заўважыў, як яшчэ больш спахмурнеў твар Пахомава, і ўжо не рады быў свайму пытанню.

Стары памаўчаў, закурыў яшчэ адну «беламорыну», падагнаў пугай Орліка:

— Н-но, скаціна! Лянуецца, зараза... Паганец у нас у вёсцы адзін завёўся, Тэрмінатарам яго людзі клічуць. І, галоўнае, не чужы, не прыблудны. Свой, дамашняй гадоўлі, аднавяскоўвец... Рэдкі гад! Ды ты яго ведаеш. Брацельнік твой стрыечны. Віцька Абухаў... Дык вось, я ў ад’ездзе быў, сыну вазіў свежаніну ў райцэнтр. Ну і заначаваў у горадзе. А калі вярнуўся... І цяпер, як успомню, калоціць усяго... Хата адчынена, вокны выбіты, а ў сенцах Пелагея ляжыць уся ў крыві і халодная ўжо. Людзі потым казалі, што Віцьку вечарам бачылі каля нашай хаты... Міліцыя, кажаш? А што міліцыя? Прыехалі, пахадзілі туды-сюды, рукамі развялі: няма, маўляў, ніякіх слядоў... Дык ці гэта першы выпадак у вёсцы?! Вось і летась, напрыклад, дзед Патап згінуў. Пайшоў быццам бы на рыбу і не вярнуўся. Зноў жа каля лодкі бачылі Абухава. Ды яго ўсё Кукушкіна баіцца, бабкі ўнукаў палохаюць. У любой хаце бярэ што хоча, грошы ў пенсіянераў адымае... Старая Вяроўкіна схавала сваю пенсію — ён, паганец, так яе збіў, што ў бальніцу трапіла ды там і памерла.

— У вас жа ўчастковы, напэўна, ёсць?! — абурыўся Баранаў. — Ён куды глядзіць? Ды і наогул неяк... Няўжо ў наш час такое можа быць?

Анатоль не паверыў, падумаў нават, што ў Пахомава з галавой не ўсё ў парадку.

— Э-э-э!.. Быў участковы, цяпер няма. З райцэнтра адзін раз на тыдзень прыязджае — што ён можа зрабіць? Ды і хто паскардзіцца на Віцьку? Філімон папрасіў аднойчы ўчастковага, каб уважліва паназіраў за Абухавым. І што ты думаеш? Назаўтра, калі міліцыянера ўжо ў вёсцы не было, Віцька збіў Філімона да крыві, сківіцу яму зламаў. У бальніцы Філімон сказаў, быццам сам аб лаўку галавой ударыўся. Такое вось жыццё ў нас, Толік, вясёлае. П'е Віцька, нідзе не працуе і ўсіх нас у сваім кулаку трымае. А праўду шукаць... Каму яна патрэбна, наша праўда?

...Так у невясёлых размовах і даехалі да Кукушкіна. Стары Пахомаў высадзіў Анатоля ля самай хаты цёткі Зіны.

Сядзіба, дарэчы, як і большасць у вёсцы, мела даволі неахайны выгляд. Нахілены, а месцамі і зусім гнілы плот, парослы пустазеллем агарод, сарваная з завес брамка валялася сярод двара... А ён жа яшчэ памятаў, якім прыгажуном выглядаў гэты дом (і агарод, і двор, і хлявы, і нават сабачая будка), калі жывы быў дзядзька Пеця. Той пастаянна нешта прыбіваў, габляваў, фарбаваў... І хоць нялёгка яму даводзілася на аднойназе (другую страціў на фронце, пры штурме Кёнігсберга), гаспадарку трымаў у поўным парадку. Цяпер, пэўна, некаму глядзець. А дзеці? Адзіны сын Валера загінуў у Афганістане ў 1991-м, літаральна за некалькі гадзін да заканчэння той неаб'яўленай вайны. Яго часць замыкала адход апошняй калоны з нейкай армейскай маёмасцю, да пагранічнага моста заставалася не больш за сотню метраў, калі ў Валеркаў «бэтээр» патрапіў душманскі снарад... Вось тады і запіў дзядзька Пеця, зламалася ў ім нешта ў сярэдзіне. Ён жыў дзеля сына, а дзеля чаго было жыць пасля яго гібелі? Па п'янцы трапіў пад машыну, і цётка Зіна засталася зусім адна. Лісты яна рэдка пісала, а фотакартак і зусім не дасылала. І Баранаў цяпер думаў, якой цётка стала, ці пазнае яе... Пастарэла, мабыць?.. Але ўяўляў яе ўсё такой жа стройнай прыгажуняй з доўгімі шаўкавістымі валасамі і добрымі цёплымі вачыма. Анатоль памятаў яе рукі — шурпатыя, абветраныя, усе ў мазалях ад нялёгкай сялянскай працы, але такія пяшчотныя, ласкавыя... Памятаў яе смех — быццам званочак звінеў...

Дом, якім Баранаў захапляўся ў дзяцінстве, змяніўся кардынальна, не пазнаць: пацямнеў, сеў усімі чатырма вугламі ў зямлю, дах дзіравы, парос зялёным мохам, дошкі на франтоне згнілі, комін амаль разваліўся... У двары — нязвыклая цішыня: ні свінячага віску, ні сабачага брэху, курэй нават не чуваць...

Дзверы ў сенцы былі прычынены, і Анатоль нерашуча пацягнуў іх на сябе. Петлі зарыпелі.

— Хто там? — пачуўся знутры сіплы ціхі голас.

Але Баранаў, не адказваючы — нешта сціснула ў грудзях, камяк падступіў да глоткі, — перайшоў ужо праз парог.

— Дзень добры, цётка Зіна. А вось і я...

— Толічак!..

У жанчыне, якая ляжала на ложку, Анатоль ледзь пазнаў цётку. Калі б сустрэў на вуліцы, прайшоў бы побач — не прызнаў. Што робіць з людзьмі час?!

— Прыехаў... А я ўжо думала, не дачакаюся. Занемагла вось... Дыхаць цяжка... Мільгае ўсё перад вачыма... Ой, божа ж мой, ты з дарогі! Есці нябошака хочаш? Зараз я ўстану, згатую што-небудзь. Дранікаў табе насмажу. Ты, памятаю, у дзяцінстве дранікі вельмі любіў... З Валеркам набегаецеся па вуліцы, а потым дранікаў гарачых просіце...

— Не трэба, цёць Зін, ляжыце. Я сам...

— Вось яшчэ што надумаў! Не такая я хворая, як прыкідваюся. Зараз устану, разыдуся... Нічога са мною не зробіцца...

Пакрэхтваючы, цётка ўзнялася з ложка і пачала сноўдацца каля печкі.

— Газ нам, бачыш, так і не правялі... У каго дзеці бліжэй, тыя паравое парабілі. А мой Пеця не паспеў. Ды і навошта тое паравое? Вунь у суседкі: калі ні зойдзеш, заўсёды холадна, быццам і не тапіла. Прорву дроў трэба, брыкету, вугалю. Печ неяк надзейней, цяплей. Раз на дзень пратаплю зімой — і добра. Цяпер, летам, толькі пліту распальваю, каб паесці згатаваць, ды і то не кожны дзень. Ці многа мне, старой, трэба? Зараз я табе дранічкаў гарачанькіх... Можа, вып'еш з дарогі? Недзе была бутэлька чырвонага прыхавана. Купіла з пенсіі ў краме, хацела агарод узараць, для трактарыста і трымала. Дык ці ж яго, праклятага, дапросішся? Кожны дзень п'яны, а на мінулым тыдні трактар у рэчцы ўтапіў, нехрысць.

Піць Баранаву не хацелася, і ён адмовіўся. Ды цётка асабліва й не настойвала — пэўна, яшчэ не страціла надзеі ўзараць агарод.

— А коні ў вёсцы засталіся?

— Якія коні?! — цётка цяжка ўздыхнула. — Ужо, бадай, гадоў пяць, як апошняга на мясакамбінат здалі. Трактар быў. Адзін на тры вёскі. Мішка Ерамееў, каб на яго трасца, з моста ў рэчку боўтнуўся. Сам вылез — што яму, алкашу, зробіцца? А людзі як цяпер? Ні агароды ўзараць, ні сена жывёліне прывезці, ні дроў на зіму...

— Дык што гэта ў вас — ад усяго калгаса адзін трактар застаўся? А дзе астатнія? Ды і коней раней, памятаю, да сотні ў канюшні стаяла.

— Эт, успомніў! Як калгас-то ліквідавалі, дык і расцягнулі хто што мог... Мішка Ерамееў механікам у гаражы працаваў, вось ён сабе трактар і прыхватызаваў... Старэнькі, праўда, на металалом хацелі здаваць... А Мішка сабе забраў. Яшчэ два, навейшыя каторыя, — старшыня з інжынерам. Дык тыя адразу і прадалі нейкаму фермеру з суседняга раёна. Адзін Мішкаў «Беларус» і застаўся. Цяпер і гэты ўтапіўся...

За гутаркай непрыкметна ляцеў час. За вакном пачынала цямнець. Цётка Зіна запаліла газнічку. Заўважыўшы здзіўлены погляд пляменніка, растлумачыла:

— Няма электрычнасці ў вёсцы. Ужо год амаль. Нейкія камерсанты правады абрэзалі. Кажуць, каляровы метал з іх здабываюць. Ці то на Украіну вязуць, ці то ў Прыбалтыку. Куды толькі ні звярталіся, каб лінію аднавілі, — ніякага выніку. Вёска наша, сам ведаеш, у глыбінцы, неперспектыўная, як зараз модна называць. Каму мы патрэбны? Прапаноўвалі, праўда, перасяляцца ў цэнтр сельсавета — у Мышкіна. Памятаеш, ты туды ў школу хадзіў?

— Чаму ж не перасяляецеся?

— За якія шышы? Гэту развалюху ці ж хто купіць? А ў Мышкіна будавацца — вялікія грошы трэба. Не ўжо, буду тут свой век дажываць. Мала засталося...

— Кінь, цёць Зіна! Ты яшчэ і мяне пераживеш.

— Цьфу на цябе! Знайшоў пра што на ноч гледзячы гаварыць. Ты яшчэ малады, жыць ды жыць. А я адной нагой у магіле стаю. Як хутка, Толік, жыццё праляцела! Не паверыш, іншы раз мне здаецца, быццам учора з маткай на сенакос хадзіла... Татка касіў, а мы ў валкі сена грэблі. Паветра чыстае-чыстае, на мяце настоенае... Потым сядалі абедаць пад капну. Малако ў гліняным збане, халоднае-халоднае... Чаму яно было такім халодным? Нічога смачнейшага ніколі не ела! Кажуць, успаміны не пахнуць... Яшчэ як пахнуць! Мятай, свежаскошанай травой і чорным хлебам...

У дзверы раптам нехта настойліва пастукаў. Гэта нават не стук быў, а самы сапраўдны грукат. Баранаў запытальна паглядзеў на цётку. Яна перахрысцілася на ікону ў куце:

— І каго гэта нячыстая сіла нясе? Няўжо Віцька пачуў пра твой прыезд?

Тэрмінатар пракляты! Жыцця ад яго, супастата, няма... Зараз адчыню, пачакайце хвілінку! Бач, не церпіцца...

У хату ўваліўся здаровы няголены мужык у кірзавых ботах і ў зашмальцаванай куфайцы. Анатоль ледзь пазнаў у ім свайго стрыечнага брата Віктара. Той з парога кінуўся абдымацца, дыхнуўшы ў твар сівушна-часночным перагарам:

— А, каго я бачу! Талян! А мне стары Пахомаў сказаў: брацельнік твой прыехаў, Баранаў, з Беларусі... Я не паверыў, столькі гадоў носа не паказваў... Як там табе жывецца? Добра выглядаеш… Касцюмчык, кашуля белая, чаравікі модныя... Інтэлігент, бач… Цётка, бутэльку нясі! Такую гістарычную сустрэчу абмыць трэба.

— Ты ўжо, я бачу, наабмываўся, — буркнула цётка Зіна.

— Цыц, не твая гэта справа! Нясі бутэльку, пакуль я добры. З брацельнікам выпіць хачу. Можа, у апошні раз...

— Ды я з дарогі, стаміўся, не да п’янкі, — пачаў няўпэўнена адмаўляцца Анатоль.

— Зазнаўся! — надзьмуўся Абухаў. — З родным, можна сказаць, братам... Ну, амаль родным. Мы ж з табой у дзяцінстве... Э-эх, Талян!

— Ладна, чаго ты, — Баранаў сумеўся. — Я што? Я не супраць. Сапраўды, даўно не бачыліся...

— Даўно б так! А то — з дарогі, не да п’янкі... І дзе толькі слоў такіх нахапаўся?

Цётка Зіна тым часам прынесла бутэльку віна, якую так берагла для трактарыста, і паставіла на стол.

— Ты што, цётка, з дуба ўпала? Хто ж гэта «чарніла» ставіць з нагоды гістарычнага прыезду любімага пляменніка? Тольку нябошака рада бачыць... Белую давай!

— Дзе я яе вазьму, белую?! З маёй пенсіі не вельмі нап’еш... Няма!

Давялося піць віно. Віктар цямнеў тварам з кожнай чаркай і злосна зыркаў на цётку. Размова не вязалася. Баранаў памкнуўся запытаць у брата пра лёс родзічаў і агульных знаёмых, сяброў дзяцінства, аднак той не быў настроены на гутарку, а калі бутэлька апусцела, цяжка зыркнуў на Анатоля:

— Можа, ты праставішся ў гонар прыезду? Віном галаву не падманеш...

Баранаў раптам раззлаваўся: не такой ён уяўляў сабе сустрэчу з радзімай. Чакаў нечага радаснага, прыемнага, хвалюючага... Толькі не застолля з мясцовым Тэрмінатарам. «І навошта я сюды прыпёрся? Сядзеў бы дома і рыбу лавіў на возеры... Рамантыкі захацелася!»

— Прабач, Віктар, але піць мы больш не будзем, — рашуча заявіў стрыечнаму брату.

Той утаропіўся ў парожнюю бутэльку, потым паволі перавёў позірк на Баранава:

— Чаго-о-о? Я не зразумеў! Ты, мля, мне павінен скрынку вадзяры выставіць. Тады я буду задаволены. Зразумеў? Прыехаў, бач, корчыць з сябе бугра... Я тут бугор, я тут камандую! Даставай бабкі і дуй у магазін.

— Нічога я табе не вінен! — Анатоль разумеў, што заводзіцца, што слоўная перапалка вельмі нават можа перайсці ў прымітыўную п’яную бойку — справа да гэтага хутка рухалася, — але не мог, а дакладней — нават чамусьці не хацеў спыняцца. Стомленасць, нервовае напружанне патрабавалі выйсця, разрадкі.

Тым часам Абухаў ускочыў з-за стала і рушыў на госця, з пагрозай размахваючы кулакамі:

— Ах ты, бульбаш недавараны! Я табе зараз пакажу, хто ў вёсцы гаспадар...

Цётка Зіна паспрабавала ўстаць на шляху пляменніка — і адразу атрымала кухталя ў грудзі. Яна адляцела да печкі, ударылася галавой аб вугал і страціла прытомнасць. Віктар нават не адрэагаваў і працягваў насоўвацца на Баранава, як сам лёс у выглядзе гэтага п’янага, падобнага да дзікай жывёліны родзіча. Што? Навошта? Анатолю здавалася, быццам гэта ўсё адбываецца не з ім, не тут. У вачах брата плёскалася нешта мутнае, незразумелае — нянавісць да навакольнага свету, алкагольны смутак, стомленасць ад людзей і ад самога жыцця, нежаданне бачыць у іншым — чалавека, да сябе падобнага... Віктар схапіў патрапіўшы пад руку кухонны нож і ўдарыў ім Баранава ў твар, у грудзі. Потым яшчэ... І яшчэ... І яшчэ... Анатоль не супраціўляўся, ды ён і не мог супраціўляцца — пасля першага ўдару быў ужо мёртвы.

Яго цела Віктар скінуў у стары калодзеж, зверху засыпаў смеццем, затым падпаліў хату. Цётка Зіна згарэла жывой. Следства прайшло надзіва хутка. На целе гаспадыні слядоў гвалтоўнай смерці не знайшлі, прычынай пажару палічылі няспраўную печ. Пра тое, што ў хаце, акрамя гаспадыні, быў нехта яшчэ, Віктар — адзіны родзіч — міліцыі, вядома ж, не паведаміў, а старому Пахомаву, які пацікавіўся, куды знік Анатоль, сказаў, што той паехаў напярэдадні вечарам назад у Беларусь. Стары, калі нават пра што і здагадваўся, дзяліцца сваімі думкамі з міліцыянерамі не стаў — сабе даражэй, а праз тыдзень і сам загадкавым чынам знік: пайшоў у лес і не вярнуўся.

Жонка Баранава, не дачакаўшыся мужа з адпачынку, напісала заяву ў міліцыю. З Расіі прыйшоў адказ, што знайсці яго не ўдалося. Так і лічыцца ў росшуку. Ні жывы, ні мёртвы.



*Галіна Бабарыка нарадзілася ў вёсцы Мачуль Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыла Магілёўскае педвучылішча, пасля — Магілёўскі педінстытут. Працуе настаўнікам пачатковых класаў Мачульскай БШ. Друкавалася ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Народная газета» і інш. Аўтар кнігі паэзіі «Давер».*

Галіна БАБАРЫКА

# СУСТРАКАЕ НАС ВОСЕНЬ…

## ПЕЙЗАЖЫ ВОСЕНІ

Страсае восень з дрэў лісты
Яшчэ нясмела і няспешна,
Паслухай... Чуеш? Ціха песню
Ў тумане шэпчуць чараты.

На ніцях — ягады-рубіны,
Імшары рдзеюць іх святлом.
Журботны вокліч. На крыло
Зноў клін узняўся жураўліны.

Ад сонца зажаўцела даль
Пад лёгкім цюлем павуціны,
На плечы стройная рабіна
Надзела каляровы шаль.

Спраўляе ў яркай прыгажосці
Прырода свой адвечны баль.
Ёй фарбаў не шкада, на жаль...
Да восені спяшаю ў госці.

Зрывае восень з дрэў лісты
І сцеле, сцеле іх паспешна.
Ты чуеш? Словы новай песні
Дыван шапоча залаты.

* * *

Здарожыўся дзень. Надвячорак
Упаў на зямлю цішынёй.
Сусвет мірыядамі зорак
Расшыў парасон над зямлёй.

Усё, што за дзень перажыта
Пясчынкамі радасці, слёз,

Здаецца, не стала нябытам —
Лягло на пpасторы нябёс.

Ляжаць каля праўды і веры
Крупінкі сумненняў, маны,
І здрады, і злосці без меры,
Дабра, што не мае цаны.

Світанак пастукае ў дзверы
З надзеяй, што мудрасць нясе…
Асыплюцца зоркі… І шэрасць
Атуліць зноў свет пакрысе.

## ПАЛЫНОВЫ СУМ

Заблудзіла дзяцінства ў тумане,
Маладосці мільгнула крыло.
І спатканне, і наша каханне
Адышло, адбалела, сплыло.

Таямнічая горыч палыну
Засталася на нашых губах,
Засталіся нам толькі ўспаміны
Аб начах, салаўях і шляхах.

А гады — нібы шпаркія коні...
Сустракае нас восень сама,
Серабрыстая нітка на скронях...
Але ж гэта яшчэ не зіма...

* * *

Васільковае неба. Маўклівае ранне.
У нябёсах раздольна малююць кругі,
Абдымаюць Радзіму буслы прад
расстаннем,
Ахінуўшыся наміткай смутку-смугі.

Мабыць, пішуць у небе бусліныя
крылы
Аб палескіх азёрах, мурожных лугах
І аб тым, што да берага сіняга Ніла
Пралягае далёкі, са стратамі шлях.

Краявід, што чакае, не мілы, не блізкі,
Непадобны на родны лясны.
Узмахнулі буслы над буслянкай-
калыскай.
У адлёт! Да вясны! Да вясны!

Васільковае неба. Бусліныя крылы.
Адлятае і лета з чародамі ў даль.
Адлятае ў мінулае, можа, у вырай
Пражытая радасць і сцішаны жаль.





Аляксей Каўко нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Міраслаўка Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў рэдактарам жабчыцкай і лунінецкай раённых газет, уласным карэспандэнтам газеты «Заря». Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Работніца і сялянка», «Вожык», «Родная прырода», у газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Беларуская ніва», «Чырвоная змена» і інш. Аўтар кніг «Смех не грэх», «Пад гоман вогнішча», «Мая сцежка».

Аляксей КАЎКО

# АСКЕПКІ ПАМЯЦІ

**Давялося папацець**

Былы наменклатурны работнік любіць пахваліцца сваімі колішнімі поспехамі.

«Значыць, выбіралі мяне тады старшынёй калгаса «Чырвоны партызан». Райком рэкамендаваў. А час быў нялёгкі — гаспадарка, можна сказаць, на лапатках ляжала. Давялося папацець… Але ж і вынік быў. Ужо на другім годзе майго старшынства калгас атрымаў прэмію… За паспяховае выкананне плана па здачы шкур…»

Ён чэша агрубелым пальцам аблыселую галаву і змаўкае, не гаворыць, што ў той жа год яму і вымову запісалі, бо палова кароў на ферме прапала ад бяскорміцы.

**Рыбацкі гонар**

З рыбалкі я ішоў у прыгнечаным настроі: за раніцу трапіла на кручок усяго некалькі печкуроў, і трэба ж — сусед сустрэўся. Глядзіць на мой улоў са з’едлівай усмешкай.

— Можа, на юшку запросіш?

І хіхікае.

Буркаю штосьці пра няўдалае надвор’е і іду ў свой двор.

А сёння — удача: некалькі добрых акунёў выцягнуў, ды яшчэ ладны шчупачок на жыўца папаўся. Нанізаў я ўлоў на лазіну і нясу, каб усе бачылі. Толькі ніхто не трапіўся. Сусед нават з хаты не паказаўся.

**Спецыяліст**

Яго доўга круцілі ў наменклатурным коле. Кіраваў райспажыўсаюзам, мясцовым радыё, потым некалькі гадоў калгасам. А калі калгас дабіў да ручкі — прызначылі кіраўніком будаўнічай арганізацыі. Было гэта зімой. Сабраў ён на нараду падначаленых:

— Згодна з планам мы сёлета павінны пабудаваць шматкватэрны жылы дом. Цягнуць з гэтым не будзем. Зараз жа і прыступім да работы.

— Дык фундамент не заліты, — падаў голас хтосьці з падначаленых.

— Нічога-нічога… Фундамент зробім вясной. А зараз сцены будзем узводзіць…

**Зімаваць засталася?**

Першыя дні студзеня. Пасля працяглай адлігі крыху падмарозіла. Ля берага Самаранкі — празрысты лёд, а

пасярэдзіне цурчыць вада. Няспешна крочу сцяжынкай па беразе. Раптам за два метры ад мяне ўзлятае дзікая качка. Яна паласкалася там, дзе з дрэн збягае вада. Няўжо зімаваць тут засталася? Няхай жа табе пашчасціць, добрая птушка!

**Сюрпрыз**

Ён хацеў зрабіць жонцы сюрпрыз — ні ліста не даслаў, ні тэлеграмай не паведаміў, што прыедзе дамоў пад Новы год. Вырашыў нечакана гэтак трапіць на святочную вячэру.

Прыехаў за некалькі хвілін да Новага года, а жонкі дома няма. Сіратліва стаіць пад ёлкай чырвананосы дзед-мароз…

Такога сюрпрыза ён не чакаў.

**Мемуарыст**

Ён лічыць сябе пісьменнікам. Праўда, увесь яго літаратурны здабытак — некалькі вершыкаў, якія ўбачылі свет у раённай газеце. Было гэта даўно, яшчэ ў юнацкія гады. Цяпер жа, калі яго чупрына значна парадзела і ўпрыгожылася сівізной, пераключыўся на мемуары — піша пра свае цікавыя сустрэчы з вядомымі людзьмі, якія ўжо знайшлі вечны спачын.

Нядаўна, праглядаючы свежыя нумары газет, я натрапіў на яго ўспаміны пра пісьменніка Б. Мемуарыст пачынае здалёк. Прыгадвае, калі першы раз убачыў Б. на літаратурнай вечарыне, пералічвае, як той быў апрануты, якое тады было надвор'е, што за пітво падавалі ў буфеце і, вядома, з захапленнем пра сваё чытанне вершаў пра каханне, як яго прымала зала. А ў заключэнне: «Пісьменнік Б. таксама ўважліва слухаў мае вершы, лагодна ўсміхнуўся, прамовіў: «М-м-да…»

**Дапякло**

Лёс даў маёй цётцы Вользе не вельмі руплівага мужыка. Не абцяжарваючы сябе клопатамі па гаспадарцы, ён днямі бадзяўся са стрэльбай па лесе. Калі ўдавалася падстрэліць якога зайца ці качку, то гэты паляўнічы здабытак неадкладна прадаваўся, а грошы ішлі на выпіўку. Ён і памёр рана, не падгадаваўшы дзяцей, пакінуў гэты клопат маёй беднай цётцы. Хапіла ёй гора, асабліва ў першыя пасляваенныя гады, калі хлеба было вобмаль. Нават дроў не хапала, каб хоць збольшага абагрэць хату ў зімовую сцюжу. Памятаю, як марозным вечарам зайшла яна да нас, захутаная ў паношаныя транты. У камінку гарэла цяпельца. Яна працягнула азяблыя рукі да агню, заплакала:

— Калі я летам скажу, што мне горача — няхай мне язык адсохне…

**У сакавіцкім лесе**

Сакавік. Снегу ўжо няма ў лесе. Шамаціць пад нагамі леташняя лістота ды пажухлы светла-жоўты папаратнік. Там-сям трапляецца цёмна-зялёны бруснічнік, аголеныя цыбуры чарнічніку. Маладзенькі дубок усё яшчэ трымае засохлае лісце.

Падыходжу да знаёмага балотца. На купінах чырванеюць журавіны. Перазімавалі, а смаку не страцілі, толькі саладзейшымі сталі. А навокал цішыня і дабратворны лясны водар. Адпачываем і душой, і целам.

**Аператар**

Сенька Дубец ужо не першы год пасе калгасных кароў, але не любіць, калі яго называюць пастухом. Пры знаёмстве рэкамендуецца:

— Аператар па выкарыстанні кармоў.

Гэтую яго слабасць добра ведаюць у вёсцы. Таму і замацавалася за ім мянушка «аператар». І Гэльку, яго жонку, што прывёз з суседняй вёскі, называюць «аператаршай».



*Марыя Кобец нарадзілася ў вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае педвучылішча, цяпер працуе дырэктарам Дома культуры. Друкавалася ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Краязнаўчая газета», «Народная газета», «Пінскі веснік» і іншых.*

Марыя КОБЕЦ

# ШЛЯХ ВОСЕНЬСКІХ АДЦЕННЯЎ

* * *

Між водараў лясных,
Бярозавых, хваёвых,
У подыхах вясны
Мне захапленне — слова.

Між зімніх завірух,
Між павадкаў вясновых,
Паміж жыццёвых скрух
Мне адпачынак — слова.

Калі ж мяне адчай
Адолее нанова,
Тады ўжо, выбачай,
Мой паратунак — слова.

* * *

Кава ды аловак…
Ноч… Амаль палова.
Келіх недапіты.
Вусны-аксаміты.
Месяца акрайчык.
Дождж па вокнах плача.
Кволая галінка
Стукае аб шклінку.
Безліч горкіх думак.
Цяжкі лёсу клунак.
Апустошу келіх,
Не пачуўшы хмелю.
З ветрам-калыханкай
Не засну да ранку.

* * *

Так раптоўна схавалася лета
За бухматаю шэрай хмарай.

Яго звонкая песня адпета,
Толькі слёзы дажджу на твары.

Завывае здаволена вецер,
Рве адзення шматкі да долу.
Напамінкі аб цёплым леце
Склала восень сабе ў падоле.

* * *

Выспелі травы мурожныя,
Верас зацвіў у лясах.
Зноў гаспадыня заможная —
Восень збірае пасаг!

Збожжам засекі напоўняцца.
Ў полі звіняць галасы.
Дзесьці каму і сваволіцца,
Ў вёсцы ж — цяжкія часы.

Прымаўку гэту з вякамі
Продак пакінуць здалеў:
«Ўвосень ляжыць пад нагамі,
Ўзімку стаіць на стале!»

* * *

> Прыедзь у край мой ціхі,
> Тут продкаў галасы,
> Тут белыя бусліхі
> І мудрыя лясы…
>
> *Я. Янішчыц*

Ты вельмі шчыра запрашала.
Сама я мроіла даўно,
Хоць на крыху, ўсё часу мала,
Наведаць Жэніна сяло.

Ў той край, дзе травы лугавыя
Са звонам летніх буйных рос.
Дзе туманы стаяць сівыя
Над рэчкай Ясельдай наўскос.

Дзе сонца ўсходзіць паміж лозаў
Бліскучай стужкай на вадзе.
У край, дзе між лугоў-пракосаў
Духмяны пах наўкол ідзе.

І ў адгалосках лёгкіх рэха,
І ў думе вербы над вадой,
І ў клёкаце буслоў са стрэхаў
Яшчэ чутны і голас твой.

Нарэшце спраўдзілася мара.
І захапленне — сябра мой.
Нібы размову атрымала
З палескай зоркаю маёй.

* * *

Дазвольце ёй палетуценіць,
Маёй пакутніцы-душы.
Мой шлях у восеньскіх адценнях,
О творца, болей не пішы.
Дазвольце мне свой колер змрочны
Змяніць на колер веснавы,
Змахнуць слязу з шчакі жаночай,
Ўдыхнуўшы пах дурман-травы.
І каб у мройных спаталеннях
Буслы прыселі на страху!..
Дазвольце мне палетуценіць!
Зусім крыху! Зусім крыху!

* * *

На святло лячу здалёк,
У крылах не чую стомы.
Я, нібыта матылёк,
Толькі іншы, невядомы.
Я сябе не берагу,
На агні спалю я крылы.
Хоць у ім згарэць магу,
Новыя набуду сілы.

* * *

Ластаўка, дзіўная птушка!
Можа, навучыш мяне?
Можа, шапнеш мне на вушка
Ці прашчабечаш у сне?

Ты адкажы мне, будзь ласка,
Край чараўнічы дзе ёсць?
Там, дзе жыццё быццам казка.
Я там — няпрошаны госць.

Вольная ты, нібы вецер.
Ведаеш ты наш адказ.
Ведаеш, дзе ў гэтым свеце
Шчасцейка ёсць і для нас?..



*Анатоль Брытун нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Баранцы Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Навучаўся ў Пінскім гідрамеліярацыйным тэхнікуме, Беларускай сельгасакадэміі, Брэсцкім педагагічным інстытуце. Працаваў інжынерам у «Галоўпалессеводбудзе», гідам-перакладчыкам у «Інтурбюро». Цяпер старшы інспектар Брэсцкай мытні. Друкаваўся ў газетах «Заря» і «Народная трыбуна».*

Анатоль БРЫТУН

# АШУКАНАЯ ГАНАРЫСТАСЦЬ ВІКІНГА

## *Легенда*

**На ўзбярэжжы Варажскага мора,** сярод то голых, то апранутых суровым цёмным лесам узвышшаў, размясцілася невялікае скандынаўскае паселішча. Пад двухсхільнай страхой вялікай камяніцы, якая стаяла на высокім беразе зручнай бухты фіёрда, жыў знакаміты нарманскі вікінг па мянушцы Жорсткі.

У былыя гады яго птушкападобныя ладдзі пабывалі ў еўрапейскіх краінах і нават дасягнулі далёкай, але вельмі багатай Візантыі. Таролъв, што называецца, дзейнічаў заўсёды напэўна. Усяго з некалькімі сотнямі вікінгаў ён не баяўся нападаць на гарады кельтаў, готаў, саксаў, англаў, русаў. Яго драккары, нагружаныя здабычай і палоннымі, заўсёды вярталіся дахаты, або, дакладней сказаць, амаль заўсёды...

Падчас рызыкоўных вандраванняў часта гінулі яго сябры, але яму шанцавала. Вярнуўшыся з апошняга паходу, ён нібыта адчуў, што нельга больш выпрабоўваць лёс, і, прыкінуўшыся хваравітым, застаўся на беразе. Спаласаваны шнарамі твар з адным вокам даваў права жыць у супакоі. За гады сваіх падарожжаў адважны вікінг назапасіў вялікія сродкі. Таролъв выгадна збываў свае тавары. Ён вёў гандаль лепш за іншых, ахвотна даваў золата і срэбра пад добрыя заклады, якія заўсёды заставаліся на яго карысць. Дасведчаны ярл шчодра плаціў сваім вікінгам. Вікінгі Таролъва былі багацейшыя за многіх і многіх, перад імі паддобрываліся тыя, у каго кішэні былі пустыя...

Акрамя таго, Таролъв добра ведаў законы вікінгаў і валодаў дарам красамоўства. Дзякуючы гэтаму вікінгі абралі яго сваім конунгам. Пакуль яны знаходзіліся ў далёкіх паходах, даручалі яму захоўваць іх маёмасць. Таролъв прымаў удзел у з’ездзе «магутных бондаў» на выспе Брэннэ’яр, куды кожныя тры гады збіраліся конунгі суседніх зямель, каб між сабою абвясціць мір. Ён меў лепшыя карты, на якія былі нанесеныя гарады, рэкі, азёры, пратокі і сістэмы волакаў, па якіх нарманы перацягвалі волакам судна паміж судаходнымі рэкамі. З усяго ўзбярэжжа да яго прыходзілі вікінгі, і ён забяспечваў іх копіямі дакладных

карт. Вяртаючыся з далёкіх паходаў, яны не забывалі сівагаловага Тарольва і дзяліліся з ім часткай здабычы. З кожным годам яго вялізная хата напаўнялася багаццем і новымі рабамі.

Набліжаліся доўгія дні лета, калі на Варажскім моры амаль не бывае начной цемры. Гэты час быў і заўсёды будзе самым зручным для імклівага паходу. Яго ўлюбёнец, старэйшы сын Зігрыд, вырас, і паводле звычаю, як толькі веснавей адгоніць з фіёрда лёд, ён павінен адплысці па здабычу. Такім быў суровы закон вікінгаў. Усе думкі сівога нармана былі занятыя падарожжам спадкаемца, якое мела адбыцца.

На беразе фіёрда чакалі выхаду ў мора новенькія дракары, зробленыя майстрамі-суднабудаўнікамі. Прачуўшы пра паход сына конунга, што меў адбыцца, з набліжэннем вясны з’явіліся госці — чужыя вікінгі, гатовыя служыць багатаму ярлу. Яны прыходзілі групамі і паасобку. Тарольв кожнага сустракаў гасцінна, для іх не шкадавалі моцнага піва.

Дні ўжо перамагалі ночы, набліжалася сярэдзіна вясны. За акном маркотна скуголіў сівер, але ля цёплага агменю было ўтульна. Тарольв пражыў даволі багатае на прыгоды вандроўнае жыццё. У маладосці ярл любіў марскі вецер, але цяпер яго стала цягнула да цяпла. Водбліскі яркага полымя зіхацелі на зброі, развешанай на сценах. У ног адважнага ярла ляжаў вялізны ваўкарэз.

Парывы ветру за акном узмацніліся, і пачуўся гучны трэск. Мужны нарман здрыгануўся: гук за акном выразна гаварыў, што ўжо зусім хутка сын абавязаны пакінуць бацькоўскую хату. Вікінг смутна апусціў галаву, праз хвіліну ён зноў здрыгануўся.

На парозе стаяў Зігрыд.

— Тата! Ты чуеш, лёд сыходзіць, — радасна крычаў юнак.

Было відаць, што малады вікінг прагнуў вайсковых прыгод. Яму мроіліся будучыя пагоні, лютыя сутычкі, пра якія ён часта чуў ад бацькі.

Сівы Тарольв млява ўсміхнуўся, толькі таму, што ўспомніў, як радаваўся сам, калі адпраўляўся ў першы паход. Ён кіўнуў Зігрыду, паказваючы, каб ён прысеў побач. Сын паслухмяна апусціўся ў крэсла, пакрытае шкурай белага мядзведзя.

— Мой хлопчык, давай яшчэ раз удакладнім твой шлях.

Конунг паклаў на стол карты, выробленыя з валовых скур.

— Як даплысці да Ільмені, ты ўжо ведаеш. Па Ловаці можна дабрацца ў Дзвіну, а праз Касплянскае возера і сістэмай волакаў каля Гнездава патрапіш у Днепр. Раю ў Гнездаве даць адпачынак людзям. Там аселі шматлікія вікінгі, і яны заўсёды дапамогуць табе.

Конунг змяніў карту.

— Ну, а па Дняпры ты зможаш трапіць у багатыя гарады Кіеў, Чарнігаў. Моцна не завіхайся. Багацця ў нас досыць. Буйныя гарады не чапай, выбірай што прасцей. Гэтым жа шляхам вернешся назад.

— Тата, — ажывіўся юнак і пачаў вадзіць пальцам па карце. — Навошта рабіць крук і рухацца супраць плыні? Можна з Дняпра патрапіць у Буг і па плыні спусціцца ў Замор’е.

— Не! — нечакана гучна крыкнуў конунг. — Я забараняю табе ісці гэтым шляхам.

— Чаму? — здзівіўся юнак.

— Сын, — змякчыў тон адважны вікінг. — Гэта небяспечны шлях. Па берагах Буга жывуць плямёны, якія не саступаюць нам у адвазе. Вось тут, — Тарольв паказаў на карту, — знаходзіцца таямнічая зямля Ятва. Усе, хто жыве вакол, са страхам гавораць аб яцвягах. Нават не набліжайцеся да яцвяжскай зямлі. Тут вы не знойдзеце воінскай славы, золата, срэбра, футраў, а вас спасцігне няўдача і расчараванне. На

кожным кроку вас будзе чакаць смерць. Яцвягі — гэта храбрацы, падобныя на нас, толькі з чорнымі як смоль валасамі. Прашу цябе, не шукай сустрэч з імі. Шматлікія вікінгі спрабавалі пракрасціся ў таямнічы лес, але большасць з іх згінула. А тыя, хто здолеў вырвацца жывым, больш ніколі туды не вяртаюцца, — змрочна гаварыў сівагаловы нарман.

— Ты там быў? — спытаў Зігрыд і пільна паглядзеў на бацьку.

Таральв некаторы час маўчаў, затым падняў адзінае вока на сына.

— Быў, — цяжка ўздыхнуў сівы вікінг. — Быў і ледзьве ўратаваўся. Там я пакінуў дзве лепшыя ладдзі, вока і добрую палову багацця. Мой хлопчык, там людзі дужыя, як мядзведзі, і ваяўнічыя, як богі вайны. Прашу цябе, абыходзь яцвяжскую зямлю.

— Чаму ты мне ніколі не распавядаў пра яцвягаў? — здзіўлена спытаў юнак.

— Не распавядаў і не распавяду, — працадзіў скрозь зубы адважны Таральв.

Перад пачаткам паходу сівы конунг сабраў вікінгаў у вялікай зале. Таральв прадставіў чатыром сотням вольных вікінгаў свайго старэйшага сына.

— Вось ваш ярл! — гучна і ганарліва сказаў Таральв.

Яны ўкладвалі ў рукі Зігрыда свае рукі ў знак паслушэнства і пэўнасці і кляліся вялікімі багамі. Адважныя ваяры ўручалі сыну знакамітага конунга свае мячы. Малады ярл вяртаў зброю і кляўся выконваць інтарэсы вікінгаў, якія перайшлі на службу да яго.

Прыносілі вёслы драккараў, паўтаралі з імі той жа абрад.

Прысутныя суправаджалі абрад воклічамі ўрачыстых абяцанняў, ударамі ў шчыты і крыкамі:

— Мы чулі! Мы бачылі! Клятва! Клятва!

Праз тры дні лёд вызваліў вусце фіёрда, і рабы сцягнулі баявыя драккары на ваду. Пад пільным вокам Таральва на ладдзі пагрузілі карабельныя ліны, плеценыя з кашалотавай скуры, бочкі топленага сала, вэнджанае і вяленае мяса, зброю, даспехі, драўляны посуд і маржовыя іклы. Цюкі і скрыні ўкладваліся шчыльна і правільна, не парушаючы раўнавагі драккара.

На карме драккараў былі ўладкаваныя адмысловыя паглыбленні — чарпальні для збору вады. Поруч іх сядзелі прыкаваныя за нагу ланцугом рабы з глыбокімі каўшамі на доўгай дзяржальні. Яны спрытна, не губляючы ні кроплі, выплюхвалі за борт ваду і бруд.

Караван з шасці драккараў, з пысамі страшных акул на насах, выйшаў у мора. Па бартах з кожнага боку было ўмацавана па дванаццаць доўгіх вёсел. Весляры сядзелі на папярочных услонах так нізка, што іх галовы не былі бачныя над бартамі. Тры вялікія драккары скуранымі лінамі, таўшчынёй з руку чалавека, цягнулі за сабою па адной напалову меншай ладдзі. Сплеценыя з кашалотавай скуры, гэтыя ліны былі мацнейшыя і надзейнейшыя за жалезныя ланцугі.

Сівер каціў стромкую хвалю, зрываў грабяні, бяліў мора. На драккарах паднялі ветразі. Вікінгі веславалі змяняючыся. Яны ніколі не davручалі гэтую справу рабам, ведаючы, што ў рашучую хвіліну раб не будзе веславаць да апошняга ўздыху. Невялікі караван узяў кірунак на поўдзень, да славянскіх берагоў. Па начах, каб не страціць адзін аднаго, на драккарах запальвалі паходні з кітовага тлушчу.

Зігрыд ішоў на «Залатой акуле». Быстраходная баявая ладдзя шырокім кілем жвава рэзала марскую хвалю.

Ярлу падабалася стаяць на палубе пад пырскамі салёнай вады. Побач з ім падымалася, па-майстэрску выразаная, пазалочаная галава драпежнай акулы. Баявая ладдзя пахла хваёвай смалой і ёлкім маржовым тлушчам. Сівер церабіў русыя валасы, а сэрца маладога ярла радасна трапятала ў прадчуванні перамог, славы і

багатай здабычы. Для паспяховага плавання яго бацька, як дасведчаны мараплаўца, прадугледзеў усё: пабудаваў новыя ладдзі, падрыхтаваў правіянт, зброю, навучыў людзей, забяспечыў сына дасведчанымі стырнікамі.

Неўзабаве ўпартыя вікінгі дасягнулі сваёй мэты. Іх новыя караблі спускаліся па рэчышчы Дняпра.

У тыя далёкія часы захоп рабоў быў важнай мэтай вайсковых паходаў і набегаў вікінгаў. Вось гэтым якраз і заняўся малады вікінг. Яго меншыя ладдзі заплывалі ў вусці невялікіх рэк і знаходзілі паселішчы. Нарманскія ваяры ў поўным узбраенні пакідалі ладдзі. Яны рухаліся шырокім крокам; яго зваліваўчыным крокам вікінга. Ваяры Зігрыда нечакана і хутка атачалі паселішча. Без усякага спачування нарманы палілі хаты, забівалі мужчын і паланілі маладзіц. Мірныя сяляне, хапаючы мужыцкія сякеры, не маглі аказаць годнага супраціўлення добра ўзброеным ваярам. Сілай зброі вікінгі адбіралі футра, золата, срэбра, тканіны, скуры, вопратку, правіянт і жалеза. Ім падыходзіла ўсё, а жалеза высока цанілася ў продажы.

Нагружаныя ладдзі хутка сыходзілі ўніз па плыні да вялікіх драккараў, і вікінгі паспешна знікалі. Беспакаранасць кружыла галовы нарманам і падбухторвала іх да ўсё больш рызыкоўных учынкаў. Але, памятаючы наказ бацькі, Зігрыд пазбягаў нападаць на вялікія і ўмацаваныя гарады.

Нарэшце яны скончылі крывавую справу, іх ладдзі былі даверху запоўненыя жывым таварам. Праз некалькі месяцаў шляху вікінгі дасягнулі Чорнага мора, а морам — багатую Візантыю, дзе меліся вялікія рынкі рабоў. У порце яны змянілі воінскія даспехі на кафтаны і заняліся продажам жывога тавару.

Зранку славянскія маладзіцы, грукочучы ланцугамі, пляліся да рабаўладальніцкага рынку. У першы дзень з вялікай выгадай Зігрыд прадаў арабскім халіфам тузін славянскіх маладзіц. Апоўдні ён вяртаўся на драккар з мяшэчкам хадавых манет з чыстага срэбра і золата. Ён задаволена аглядзеў вялізную прыстань.

Мітусня ў гавані нагадвала разварушаны мурашнік. Тут было безліч народу. Адны неслі на плячах цюкі з таварам, іншыя запрагаліся ў калёсы і дастаўлялі на караблі бочкі з віном і правіянтам. Конюхі не без цяжкасці заганялі на ладдзі арабскіх скакуноў. Трывожнае конскае ржанне, музыка і чалавечыя галасы напаўнялі марское паветра.

Раптам юнак спыніўся, нібыта працяты маланкай. Непадалёк стаялі дзве вялізныя ладдзі, упрыгожаныя галовамі драконаў. Нешта знаёмае было ў абрысах гэтых караблёў. Здзіўлены Зігрыд не мог адарваць вачэй ад суднаў, падобных на бацькаўскія драккары. Нібыта прачнуўшыся, ён працягнуў мяшэчак з манетамі старому стырніку і хмурна сказаў:

— Латольд, аднясі грошы на карабель, а я прагуляюся па прыстані. — Звярнуўся да аховы: — Вы таксама ідзіце адпачываць.

Вікінгі здзіўлена пераглянуліся, але спрачацца не сталі. Слова гаспадара было для іх законам.

Калі яны сышлі, Зігрыд накіраваўся ўздоўж прыстані. Моцна хвалюючыся, юнак наблізіўся да ладдзей.

Сумненні рассеяліся, гэта былі драккары яго бацькі, хвалебнага Тарольва. Падлеткам ён аблазіў кожны куток гэтых судоў і ведаў іх як свае пяць пальцаў. Апошні раз яго бацька вярнуўся з далёкага паходу на адзінай ладдзі. З таго часу яго нібыта падмянілі, але аб тым, што здарылася, бацька распавядаць адмаўляўся і ўпарта маўчаў.

З драккараў даносіліся шум, рогат і гучныя гутаркі. Юнак разглядаў людзей, якія спакойна хадзілі туды-сюды па палубах. Нягледзячы на спякоту, усе яны былі ў вопратцы з ваўчыных і мядзведжых скур. У многіх на паясах віселі кароткія мячы

або вялізныя баявыя сякеры. Было відаць, што гэтыя хлопцы загартаваныя ў баях. Ваяры былі рослыя, дужыя і як адзін з чорнымі, нібы крыло крумкача, валасамі.

Зігрыд уважліва разглядаў чужынцаў. Ён ужо зразумеў, што гэта і ёсць загадкавыя яцвягі, пра якіх так скупа распавёў яму бацька. Думкі маладога вікінга перапыніў ваяр з сівой барадой. Нечакана з'явіўшыся, ён стаў за два крокі, абапіраючыся на вялізную сякеру. Чужынец быў на галаву вышэй за Зігрыда. Грозна бліпічалі яго вочы, а густы бас быў больш падобны на рык мядзведзя.

Пра што пытаў ваяр-асілак, Зігрыд не зразумеў, але ад грознага вокрыку ў юнака адразу пабеглі па спіне мурашкі. Малады ярл прыклаў руку брылём, нібы спрабуючы схаваць вочы ад яркага сонца, зрабіў невялічкі паклон і павольна адышоў. Азірнуўшыся, ён убачыў, як рослы яцвяг падымаецца па трапе на драккар яго бацькі.

Юнак адчуў, як гучна стукае яго сэрца, а па жылах бурліць гарачая кроў. Спадкаемца бацькавай ганарыстасці і цвёрдасці духу, ён змрочна глядзеў на драккары.

У гэты момант з'явіліся дзве арбы, запрэжаныя парай валоў, і рослыя ваяры ў звярыных шкурах пачалі цягаць харчы на борт. Яны з лёгкасцю закідвалі на спіны бочкі з саланінай, неслі па некалькі курдзюкоў з прэснай вадой і віном. Калі арбы ад'ехалі, малады вікінг вырашыў вярнуцца да сваіх судоў. Толькі ён падышоў, як убачыў двух вершнікаў у багатай вопратцы. Следам за імі рушылі два дзясяткі ўзброеных коннікаў. Палова з іх была ў вопратцы са звярыных скур, палова — у кальчугах. Вершнікі спыніліся насупраць бацькавых караблёў, і ваяры падняліся на палубы.

Зігрыд пачуў славянскую мову, якую трохі разумеў. Ён падышоў да двух незнаёмцаў і, паказваючы на ладдзі, спытаў:

— Чые гэта караблі?

Мужчыны пераглянуліся, і адзін адказаў:

— З драконамі на носе — гэта ладдзі яцвяжскага князя Гунара, а тыя, што побач, — кіеўскага.

— Даўно яны тут стаяць? — усміхнуўся вікінг.

— З тыдзень, — пацiснуў плячамі мужчына.

Вікінг пакланіўся незнаёмцам і паспешна адышоў.

У гэты вечар ён не падзяліў з вікінгамі агульную радасць удалага гандлю, як таго патрабаваў звычай. Зачыніўся ў сваёй каюце і да паўночы піў віно. Малады варвар скрыгатаў зубамі, а на вачах блішчалі слёзы роспачы і крыўды. Падавалася, увесь несправядлівы свет абрынуўся на яго плечы. Маладое сэрца патрабавала аднаўлення справядлівасці і абавязковай помсты за крыўду, нанесеную ягонаму бацьку. Зігрыд ведаў, што для вікінга самым каштоўным з'яўляецца яго драккар. Толькі пад раніцу ён змог заснуць, з цвёрдым намерам вярнуць бацькавы ладдзі.

Вось ужо сапраўды, дзіўная істота чалавек. Злодзей, які рабуе і забівае іншых, лічыць гэта цалкам нармальным, але калі раптам хтосьці выкрадзе ў яго нават малаважную рэч, ён крыўдзіцца на ўвесь свет і гатовы нават знішчыць усё чалавецтва.

Раніцай другога дня, да свайго жаху, Зігрыд не знайшоў бацькаўскія драккары. Там, дзе стаялі вялізныя ладдзі, быў пусты прычал, спакойна плёскалася мора. Ён хутка вярнуўся да сваіх драккараў з цвёрдым намерам нагнаць бацькавы ладдзі ў моры.

Аднак, гледзячы на нявольніц, Зігрыд перамяніў рашэнне: з такой колькасцю жывога тавару нельга было нават і марыць пра бітву. Астыўшы, ён адправіўся на нявольніцкі рынак. За два тыдні з вялікай выгадай вікінгі прадалі ўсіх рабоў. На нарманскія караблі загрузілі ўсходні тавар, усё тое, што можна было з лёгкасцю прадаць у скандынаўскіх паселішчах.

Ладдзі спешна паднялі якары і адправіліся на поўнач. Шлях быў доўгім, бо цяпер даводзілася рухацца супраць плыні. Хоць адважныя вікінгі шчыра радаваліся вяртанню дахаты, але яны звярнулі ўвагу, што іх гаспадар задуменна ходзіць па палубе і часта замыкаецца ў сваёй каюце.

На працягу ўсяго шляху Зігрыда адольвала адна і тая ж думка: як вярнуць бацькавы ладдзі? Ён лічыў сябе абражаным, і гэтае пачуццё засланяла перад ім змрочную карціну магчымых наступстваў. Будучыня мроілася яму толькі ў асляпляльным святле помсты і яркай славы, перамогі з першага ж паходу. Нават у снах ён выразна бачыў, як узрадуецца бацька такому падарунку.

Пасля таго як мінулі Кіеў, Зігрыд запрасіў дасведчанага стырніка на карму, дзе на стале былі раскладзеныя карты.

Апаражніўшы кубак з віном, юнак сказаў:

— Латольд, нам неабходна змяніць маршрут і вярнуцца па рацэ Буг. Па ёй мы спусцімся да нашага мора.

— Я ніколі не хадзіў гэтым шляхам, — няўпэўнена адказаў сівы стырнік і дадаў: — Але чуў ад іншых, што ён небяспечны.

— Не хвалюйся, усё будзе ў парадку, — упэўнена сказаў Зігрыд.

Запярэчыць стырнік не мог, бо вікінгі з дзяцінства былі прывучаны слепа падпарадкоўвацца свайму ярлу.

Неўзабаве драккары звярнулі з рэчышча Дняпра і ўвайшлі ў вусце ракі Прыпяць. Вочы вікінгаў прывыкалі да новай ракі і яе берагоў. Часцей траплялiся доўгія пясчаныя косы, белыя, быццам выгаралыя на сонцы. То адзін, то другі бераг кучаравіўся непралазнымі зараснікамі вербалозу. Іх позіркам адкрылася нізіна, месцамі да небакраю залітая цёмнымі водамі палескіх балот.

Павольна прасоўваючыся наперад, яны знайшлі месца, дзе было выразна бачна, што яшчэ зусім нядаўна тут волакам перацягвалі ладдзі па сушы. Толькі дзесяць дзён спатрэбілася ўпартым вікінгам, каб перацягнуць шэсць караблёў да ракі Буг. Караван драккараў пачаў асцярожна спускацца ўніз па плыні. Хоць плаванне было адносна спакойным, але меры засцярогі падарожнікамі ўсё роўна выконваліся. Зігрыд падвоіў каравул, у поўным узбраенні вікінгі стаіліся ўздоўж бартоў. Па палубе можна было хадзіць толькі ў купецкіх кафтанах і без зброі.

У бліжэйшым паселішчы яны спыніліся, і Зігрыд сышоў на бераг. Яго людзі купілі правіянт і загрузілі на борт.

Убачыўшы мужчыну, які з цікавасцю глядзеў на ладдзі, Зігрыд падышоў да яго і спытаў:

— Колькі дзён нам плыць да Ятвы?

Мужчына здзіўлена ўскінуў бровы.

— Навошта вам яцвягі?

— Мы гандляры і хочам купіць у яцвяжскага князя Гунара футра, — як мага спакайней адказаў Зігрыд.

— Праз тры дні шляху вы ўбачыце іх горад Драгічын. Там жыве яцвяжскі князь Гунар, — растлумачыў незнаёмец.

— Дзякую! — з паклонам сказаў вікінг і працягнуў мужчыну срэбную манету.

Незнаёмец хацеў яшчэ нешта сказаць, але Зігрыд таропка крочыў да драккараў. Мужчына пацiснуў плячамі.

Праз два дні шляху краявід рэзка змяніўся. Замест балот — стромкі бераг, пакрыты дубровамі. Тры вялікія і тры малыя ладдзі дасягнулі яцвяжскай зямлі.

Зігрыд стаяў на невялічкай палубцы пярэдняй ладдзі, калі на галаву «Залатой акулы» апусціўся чорны крумкач і, нібы папярэджваючы пра нешта, злавесна закрумкаў. Малады ярл узмахнуў рукой, і птушка рэзка ўзнялася ў паветра.

Зігрыд уважліва глядзеў па баках, каб адшукаць месца, дзе можна было б паставіць караблі. Неўзабаве ён убачыў прыток. Нагружаныя ладдзі звярнулі з рэчышча Буга і неўзабаве спыніліся. З двух бакоў іх шчыльна абступілі вялізныя дрэвы. Невялічкі плёс дазваляў драккарам развярнуцца, што і было неадкладна зроблена. З першымі промнямі сонца тры меншыя ладдзі вярнуліся на раку Буг і працягнулі рух уніз па рацэ. Апоўдні вікінгі ўбачылі бярвеністы насціл доўгай прыстані, затым позірку вікінгаў адкрыўся і сам яцвяжскі горад.

Зігрыд і яго спадарожнікі не маглі паверыць сваім вачам. Сталіца яцвяжскага княства распасціралася ўздоўж берага на паўвярсты. Горад не меў ніякіх агароджаў, ніякіх умацаванняў, ні равоў, ні валоў, ні каменных сцен, ні драўлянага частаколу. Гэтая акалічнасць, мабыць, больш за ўсё і збянтэжыла вікінгаў. Яны ўпершыню ў жыцці бачылі горад, жыхары якога не дапускалі нават верагоднасці таго, што хтосьці можа на іх напасці і ім прыйдзецца трымаць аблогу. Гэта было нешта большае, чым саманадзейнасць, тут адчувалася пагарда да ўсіх жорсткіх і моцных заваёўнікаў.

Ля прыстані стаялі невялічкія лодкі з прыспушчанымі белымі ветразямі. А за імі калыхаліся два драккары, уласнасць Таральва, з разьбянымі галовамі драконаў.

Тры невялікія ладдзі наблізіліся да рачной прыстані. Яцвягі з цікаўнасцю глядзелі на бялявых людзей, але чамусці ніхто блізка не падыходзіў і не цікавіўся, адкуль яны, навошта прысталі да іх берага і куды далей трымаюць шлях.

Прачакаўшы некаторы час, вікінгі вырашыліся сысці на бераг самі. Пакуль яго падданыя раскладвалі разнастайныя тавары, Зігрыд уважліва разглядаў яцвяжскую сталіцу.

Ад прыстані стромка падымаўся бераг, на якім было складзенае тоўстае бярвенне, мабыць, прыгатаванае для сплаву па рацэ, віднеліся зрубы хат. Падавалася, што горад знаходзіцца ў дрымучым лесе. Асабліва вылучаўся дуб-волат, ствол якога не абняць і ўшасцёх. Калі малады ярл пачаў уважліва разглядаць крону, то ад здзіўлення раскрыў рот. На тоўстых галінах віднеўся частакол па-майстэрску складзенай крэпасці. Нябачанае дагэтуль відовішча зрушыла Зігрыда. «Няма чаго і марыць аб нападзе на гэты горад», — пранеслася ў яго галаве.

Ён адарваў позірк ад казачнай крэпасці і паглядзеў на бацькавы драккары. Затым зірнуў на гандлёвы шэраг, там ужо мітусіўся натоўп. Зігрыд уважліва разглядаў лясных людзей.

Усе як адзін жыхары горада былі ў вопратцы са звярыных шкур, на галовах насілі шэрыя ваўчыныя шапкі з заломам на левае вуха. На паясах віселі шырокія нажы з крывымі дзяржальнямі з рагоў тура і зубра. Многія з іх трымалі ў руках звязкі шкурак выдр і куніц. Некаторыя мелі ваўчыныя і мядзведжыя шкуры, але асабліва вылучаліся бабровыя. Было відаць, што яцвягі ведалі ў іх толк, бо мех быў дбайна падабраны і адліваў аднолькавым адценнем.

Яцвяжскія паляўнічыя здзіўлена разглядалі заморскія тавары і прапаноўвалі менавы гандаль.

Маладога ярла здзіўляла яшчэ адна акалічнасць. Ва ўсіх гарадах, на ўсіх прыстанях да ладдзей падыходзілі людзі і патрабавалі плату за дазвол гандляваць. А тут яны нікога не цікавілі.

Раніцай другога дня вікінгі працягнулі гандаль. Зігрыд застаўся на ладдзі і з яе борта ўважліва разглядаў берагі, раку і яцвяжскі горад. Ён звярнуў увагу, што перад світанкам прыкметна халадае. Наваколле засцілала смуга.

Зябка пацепваючы плячамі, малады ярл зіркаў уверх, па баках. Так прайшла гадзіна, другая. Было няясна, ці ўстала ўжо сонца, і калі ўстала, то як высока паднялося. Але смуга, здавалася, яшчэ больш гусцела. Нарэшце маленькая светлая

пляма імклівa прадзерлася скрозь лахманы імглы і заліла рэчышча ракі і берагі яркім святлом. Імгла знікла неяк ураз, невядома куды. Аказваецца, яно, сонца, было ўжо вунь як высока.

Зігрыд зажмурыўся, яго абветраны твар ласкава саграваалі цёплыя промні. У галаве маладога вікінга імгненна саспеў план нечаканага нападу. Ён расплюшчыў вочы і з драпежнай усмешкай паглядзеў на горад, затым перавёў позірк на бацькавы караблі. Дзве вялізныя ладдзі мірна калыхаліся ля прыстані. Другі дзень побач з імі ані чалавека.

Зігрыд загадаў працягваць гандаль, а сам на адной ладдзі адправіўся ўверх па плыні.

Малады ярл не ведаў, што яшчэ напярэдадні ўвечары яцвяжскія паляўнічыя распавялі князю Гунару пра з'яўленне трох вялізных караблёў, поўных узброеных людзей. Яцвяжскі князь адразу ж выслаў атрад для назірання за ворагам. Акрамя таго, ён загадаў рыхтавацца да нападу і частку ваяроў накіраваў на процілеглы бераг. За купцамі і іх суднамі вялося пільнае назіранне.

Пасля поўдня Зігрыд сабраў вікінгаў на беразе і выказаў свой план нападу. Адважныя варвары пагадзіліся з гаспадаром, бо гарачыя сэрцы вікінгаў былі поўныя рашучасці вярнуць тое, што, па іх меркаванні, безумоўна належала знакамітаму Тарольву.

Надвячоркам невялікая ладдзя Зігрыда ўжо зноўку стаяла ля яцвяжскай прыстані. Малады вікінг пацірaў рукі, чакаючы раніцы. Бесклапотны і вельмі багаты горад стаяў ля яго ног, зусім не падазраючы, што яго чакае.

Нядзельнай раніцай скандынавы голасна запрашалі гараджан на ніколі не бачанае імі гледзішча. Неўзабаве натоўп гарадскіх жыхароў сабраўся на беразе ракі.

З ладдзі выходзілі вікінгі ў даспехах і ваявалі паміж сабою. Паступова іх лік павялічваўся.

Зігрыд уважліва пазіраў на раку, пакрытую шчыльнай смугой. Вось-вось павінны з'явіцца яго баявыя драккары. Каб дачакацца іх і адцягнуць увагу людзей, ён прапанаваў гараджанам выпрабаваць сябе і пазмагацца адзін на адзін.

Статны вікінг выйшаў наперад і пакланіўся гараджанам. Адразу ж знайшоўся ахвотнік. Яцвяжскі юнак падняў руку з кароткім мячом.

Малады ярл ветліва яму ўсміхнуўся.

— На лік тры пачынаеце ваяваць, — растлумачыў Зігрыд правілы сутычкі.

Бачачы, што яцвяжскі храбрэц кіўнуў, ён адышоў убок і падняў руку.

— Раз… — гучна крыкнуў нарман і ўбачыў, як бясшумна выплывае з густой смугі драпежны нос «Залатой акулы».

У той жа час яцвяжскі юнак па-звярынаму скокнуў наперад, бліснула лязо мяча, і статны вікінг зваліўся на зямлю.

Яцвяжскі юнак пераможна падняў меч і гучна крыкнуў:

— А-ой!

— А-ой! — зараз жа зароў натоўп гараджан, выцягваючы з-пад вопраткі мячы.

Ладдзя хутка павярнула да берага і гучна прышвартавалася. За ёй другая і трэцяя ладдзі ўрэзаліся насамі ў невялікія яцвяжскія байды і, ламаючы іх, прысталі да берага. На прыстань спешна скакалі вікінгі з мячамі і сякерамі напагатове. Яны былі ў кальчугах з жалезнымі спадніцамі, надзетымі на скураныя кафтаны, усе ў простых або ў рагатых шлемах.

Яцвягі адчайна ўцякалі прэч у напрамку горада. Вікінгі беглі следам, але іх спыніў крык Зігрыда. Трымаючы ў моцных руках мячы і сякеры, яны затрымаліся крокаў за сто ад прыстані. Тым часам паўсотні нарманскіх ваяроў ваўчыным крокам спяшаліся да ладдзяў Тарольва. Усё ішло выдатна, нават лепш, чым запланаваў малады ярл. Зігрыд спакойна павярнуўся ў напрамку «Залатой акулы».

Раптам пачуўся гучны трэск. Малады ярл азірнуўся, і жах застыў на адважным твары. Вялізныя бярвенні, складзеныя на беразе, імкліва каціліся ўніз на прыстань. Вікінгі кінуліся да ладдзей, але дзясяткі бярвёнаў ляцелі хутчэй. Ствалы падскоквалі, нечакана змянялі кірунак і няўмольна наганялі людзей. Тыя паспявалі толькі крыкнуць і, недарэчна ўзмахнуўшы рукамі, знікалі пад тоўстымі калодамі.

Зігрыд кінуўся да трапа і ўжо занёс нагу, каб скокнуць на ладдзю, як таўшчэзнае бервяно стала тарчма і стукнула ў нос судна. Трап рэзка сышоў убок, а нага ярла слізганула паблізу борта. Нязграбна ўзмахнуўшы рукамі, Зігрыд паваліўся ў ваду. Ад магутнага штуршка драккар рэзка разгарнула, і з яго гарохам сыпанулі ваяры за борт. Апынуўшыся ў вадзе, Зігрыд нырнуў пад прыстань і абхапіў аберуч дубовую апору. Над галавой стаяў жудасны грукат. Адно за другім бярвёны бязлітасна білі аб барты драккараў і, ламаючы вёслы, гучна пляскаліся ў ваду.

На вачах Зігрыда яго тры ладдзі круціла, як трэскі, і несла да процілеглага берага. Па баках драккараў тырчалі абломкі вёслаў, на палубах — ані жывой душы. Ад магутных удараў бярвення ніхто не змог устаяць на нагах. Як толькі караблі ткнуліся насамі ў процілеглы бераг, лес нібы ажыў. Ваяры ў звярыных шкурах, грозна махаючы мячамі і дзідамі, скакалі з стромкага берага і спрытна караскаліся на борты драккараў. Гэта было жахліва. Там адразу завязалася жорсткая, але кароткая сутычка. Яцвяжскія ваяры, як бараноў, рэзалі вікінгаў.

Зігрыд з надзеяй глянуў у бок бацькавых караблёў, але тое, што ён убачыў, зусім яго збянтэжыла.

Дзве ладдзі Тарольва знаходзіліся на вадзе, а па бартах стаялі яцвяжскія ваяры са зброяй у руках. Яны крычалі нешта — відаць, здзеклівае, гігікалі, свісталі па-разбойніцку і гучна рагаталі.

Малады ярл цяжка застагнаў і ўсхліпнуў, як дзіця, у якога толькі што адабралі любімую цацку.

Над галавой пачуліся цяжкія крокі, спачатку звесілася тоўстая рука з вялізнай сякерай, затым паказалася кудлатая галава. Зігрыд пазнаў яцвяга, якога сустрэў на прыстані ў Візантыі.

Той усміхнуўся яму, як добраму знаёмаму, і сказаў густым басам:

— А, гэта зноўку ты?

Зігрыд нічога не адказаў.

— Вылезь адтуль, а то… — яцвяг выразна правёў лязом сякеры па сваёй сівой барадзе.

Адважнага і бязлітаснага ярла цяпер ужо трэсла не ад злосці, а ад страху.

Шчыльная смуга рассеялася, і яркае сонца заліло асляпляльным святлом рэчышча і берагі. Зігрыд яшчэ раз, з апошняй надзеяй, зірнуў на свае ладдзі, але ўбачаная карціна зусім не радавала. На яго драккарах гаспадарылі ваяры ў звярыных шкурах. Яны дабівалі раненых, дзелавіта распраналі забітых і іх трупы кідалі за борт.

«Гэта канец», — зразумеў малады ярл. Ён затрымцеў ад жаху, перад вачыма, нібыта ў страшным сне, пачало ўсё зыбацца.

Са здранцвення яго вывеў голас асілка.

— Вылезь! — грозна нахмурыў бровы яцвяжскі ваяр і замахнуўся сякерай.

Зігрыд паспешна адарваў рукі ад апоры прыстані і падняў іх уверх. Зрабіў некалькі крокаў наперад і выпрастаўся. Валасатая рука схапіла за каўнер, рыўком выцягнула яго з вады і паставіла на зламаную прыстань.

Зігрыд агледзеўся. На беразе шчыльна стаялі сотні яцвягаў з мячамі, дзідамі і сякерамі ў руках. Крокаў за сто згрудзілася жменька яго ваяроў.

Трымаючы за каўнер Зігрыда, яцвяжскі асілак з лянівай паблажлівасцю крыкнуў вікінгам:

— Кідайце зброю, ці што.

Адважныя нарманы нервова сціскалі дзяржальні, добра разумеючы, што выйсця з пасткі няма.

Асілак страсянуў Зігрыда за каўнер і здзекліва прагыркаў:

— Сябра! Скажы сваім рабам, хай не жартуюць, а то я раззлуюся і ўраз іх пакладу. Загадай ім скласці зброю.

Зігрыд спалохана замахаў рукамі і дрыготкім голасам сказаў:

— Гэта канец, не рызыкуйце.

Вікінгі паспешна кідалі мячы, сякеры і падымалі рукі. Праз нейкі час адважныя ваяры стаялі ўжо са звязанымі рукамі.

Бярвенне ўпярэмежку з голымі трупамі плынь знесла ўніз па рацэ. Яцвягі перацягнулі драккары да зламанай прыстані. Горка было Зігрыду глядзець, як яцвягі разгружалі караблі і складалі ягоныя тавары на беразе, нібы ўласныя. На пясок паклалі шкуру белага мядзведзя, якая адразу ж выклікала цікавасць у яцвяжскіх ваяроў. На белую шкуру паклалі карты, намаляваныя на валовых скурах, і мяшэчкі з манетамі. На прыстань выводзілі ў ланцугах рабоў. Тыя жмурыліся ад яркага святла.

Яцвяжскія ваяры раскоўвалі ланцугі палонным.

Асілак гучна крыкнуў:

— Хлопцы, ныpайце ў ваду і збірайце зброю.

Вызваленыя рабы скакалі ў ваду і складалі на прыстані паднятыя з дна ракі дзіды, мячы і сякеры.

Раптам у натоўпе прабег прыглушаны шум. Ваяры расступіліся і паважна схілілі галовы.

Яцвяжскі князь Гунар прайшоў да прыстані. Яго твар быў спакойны, погляд строгі. Гунар моўчкі агледзеў тавары і палонных. Побач з ім неадступна тупаў ваяр-асілак. Ціха размаўляючы, ён паказаў рукой на Зігрыда.

Гунар кіўнуў галавой і падышоў да маладога вікінга. Яцвяжскі князь грозна нахмурыў бровы і спытаў:

— Навошта завіталі?

— Мы прыплылі гандляваць, — няўпэўнена прамямліў Зігрыд.

Яцвяжскі князь усміхнуўся і сказаў:

— Я добра ведаю вашу звычку лёгка змяняць гандаль на рабаванне. Вікінгі бываюць паслухмянымі толькі тады, калі бачаць сілу. Гавары праўду, а то пасаджу на кол.

— Я хацеў забраць караблі майго бацькі, — рашуча выпаліў малады вікінг, разумеючы, што выкруціцца не атрымаецца.

— Няўжо-о? Во-ой! Цяпер усё зразумела, — здзіўлена ўскінуў бровы Гунар і дадаў: — Значыцца, гэта караблі твайго бацькі. Толькі я моцна сумняваюся, што ён цябе сюды паслаў. Хіба што пазбавіцца ад цябе хацеў.

— Не! Ён не пасылаў. Я сам вырашыў, — адважна гледзячы ў вочы князю, адказаў вікінг.

— Эх, не пашанцавала табе, хлопча. Твой бацька даў драпака адгэтуль, так, што дагнаць не змаглі. Мяркую, ён дзясятаму кажа сюды не з'яўляцца. Гэта вам не бяззбройных рабаваць ды гандляваць рабамі. Ну дык добра атрымалася. Цяпер нават прывітанне перадаць твайму бацьку не будзе каму. Гэтым разам ні адзін з вашых не вышмыгнуў. Трэба прызнаць, твой бацька спрытнейшы быў, хоць адзін карабель ды сваю шкуру выратаваў, а ў цябе, хлопча, справы дрэнь.

Яцвяжскі князь страціў цікавасць да маладога ярла, адышоў ад яго і сеў на прынесенае крэсла.

— Чаму спынілі паядынкі? Да нас так рэдка хто прыязджае, і так мала забаў.

Князь павярнуўся да ваяра-асілка і сказаў:

— Адбяры некалькіх чалавек, хай напрыканцы пацешаць нас.

Яцвягі імгненна адабралі дзясятак скалечаных вёсламі ваяроў і далі ім мячы. Сярод іх быў і стары стырнік.

Латольд схіліў галаву ў бок яцвяжскага князя і сказаў:

— Я стырнік і ведаю рэчышчы ўсіх рэк і мораў. Не забівайце мяне, я магу вам спатрэбіцца.

— У нас здраднікаў не любяць, не да твару гэта ваяру, — з пагардлівай усмешкай сказаў Гунар і дадаў: — Хай ён пачынае першым і пакажа, на што здольны.

Зігрыд стараўся не глядзець, як яго адважныя ваяры ў рукапашнай сутычцы забіваюць адзін аднаго. Малады ярл усвядоміў, што ў тым, што адбываецца, вінаваты ён. Гэта ён мог прачытаць у вачах сяброў, якія з суровым дакорам кідалі апошні погляд у яго бок. Адважны юнак, які яшчэ нядаўна слухаў радасныя крыкі сваіх ваяроў і яшчэ з раніцы трымаў у руках славу, якая раптам выслізнула, хаваў вочы. Ганебны канец! Ды і ці мог ён быць іншым? Перад вачамі юнака раптам усплыў вобраз бацькі. У вушах застыглі словы сівога Таролвьва: «Мой хлопчык, не шукай сустрэчы з яцвягамі, там цябе на кожным кроку чакае смерць».

Калі апошні ваяр, адабраны для паядынкаў, зваліўся, яцвяжскі князь Гунар падышоў да Зігрыда і сказаў:

— Не хвалюйся і прызнай сумленнасць бою. Ты рабаваў і забіваў, цябе абрабавалі і заб'юць — перамагае мацнейшы. Ты хацеў свае караблі — і ты іх атрымаеш. Я чуў, што вікінгі — выдатныя вясляры.

Зігрыд азірнуўся і ўбачыў скажоныя страхам твары сваіх вікінгаў. Мужнасць пакінула іх, і яны не саромеліся гэтага. Нарманаў закавалі ў ланцугі, павялі на іх жа караблі. З гэтай пары яны сталі паслухмянымі вяслярамі на яцвяжскіх ладдзях.

Так адважны нарманскі юнак дасягнуў сваёй мэты і ўсё-такі трапіў на бацькаў драккар. Ён быў прыкаваны за нагу да борта, у яго абавязкі ўваходзіла чэрпаць ваду і бруд каўшом на доўгай дзяржальні. Ад гэтага моманту вадкасць стала халадзіла яго босыя ногі. Спачатку ён спрабаваў сцягнуць з нагі жалезны абруч і выдраць ланцуг з моцнага дрэва. Але паступова Зігрыд ператвараўся ў звера, забыў сваё імя, высакароднасць крыві і ранейшае становішча. Калі ён заставаўся адзін на драккары, то мог выпаўзаць на палубу і бачыць вяршаліны дрэў і неба. Гэта было адзінай забавай. Зірнуць за борт ён не мог — бракавала даўжыні ланцуга. Ён паступова страчваў розум, сядзеў на кукішках і нешта няскладнае мармытаў. Праз дзесяць гадоў прыкрытае лахманамі мёртвае цела чарпальшчыка, як зламанае вясло, было выкінута за борт.

## ЭПІЛОГ

Некалькі гадоў чакаў свайго сына сівы Таролвьв. Як толькі сыходзіў лёд, ён падоўгу ўзіраўся ўдалячынь. Канчаткова страціўшы надзею на вяртанне сына, на шосты год на беразе з'явіўся памінальны камень з надпісам: «Таролвьв усталяваў гэты камень па Зігрыдзе, сваім сыне. Ён загінуў у Ятве…»

Васіль ЖУКОВІЧ



*Васіль Жуковіч нарадзіўся ў 1940 годзе на хутары Забалацце Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны педінстытут імя А. С. Пушкіна. Працаваў у будаўнічым трэсце № 8 г. Брэста, на абласной студыі тэлебачання, у рэдакцыях газет «Заря над Бугом» і «Знамя юности», у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей, часопісе «Полымя». Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, сярод якіх «Мелодыя святла», «У храме храства і смутку», «Каханне радасці й пакуты» і інш.*

# СВЕТУ БЕЛАГА ЦУД НАЙВЯЛІКШЫ

**МАЦІ**

Хто адкрыў нам свет,
　　　поўны храства таямніц? Мама!
Хто яшчэ ўмее так, як яна,
　　　ціха тужыць у адзіноце,
Чакаючы дзяцей з далёкіх краёў,
Радавацца дочкам і сынам,
Дзяліцца з імі ўсім нажытым,
Дараваць за няўвагу?..
І як бы ні пасталелі дзеці
І як бы далёка ні адышлі ад родных мясцін,
Яна застаецца той жа матуляй —
Добрай, спагадлівай, строгай.

　　　Маміна сэрца,
　　　Маміны вочы,
　　　Маміны вусны
　　　Не носяць зла.
　　　Мабыць, ад неба, мабыць, ад сонца,
　　　Ад Маці Боскай
　　　Мама ўзяла гэтак многа святла!

Ад Боскай Маці, ад святой Марыі
Ёсць, мабыць, нешта ў сутнасці матуль,
Інакш адкуль пачуцці іх святыя,
Надзея, вера і любоў адкуль?

З чым параўнаць самаахвярнасць маці,
Яе любоў з чым можна параўнаць,
Калі за шчасце роднага дзіцяці
Не знае шчасця большага яна?

Ёй пасылае Бог, дае Прырода
Высокі подзвіг — нарадзіць дзіця.
І гэта ёсць за ўсё ўзнагарода

Навек
зямной мадонне
ад жыцця.

Маці, на зямлі твой неўміручы подзвіг.
Свяціся імя тваё!

### НЕ ТОЛЬКІ ПРА ШАХМАТЫ…

Сын мой, як адной сям'ёй жылі,
Шахматы ў пашане ў нас былі.

Хатнія азартныя майстры,
Мы з табой гамбітаў процьму знали.
Востра каралёў атакавалі…
Шмат гадоў сплыло з тае пары.

Рэдкія сустрэчаў святы сталі.
Пат перажывае твой настаўнік.

### БЕЛЫ ВЕРШ

Я люблю чысціню.
І таму заміраю
Перад сонечнаю чысцінёю,
Перад зоркаваю, нябёснай,
Чысцінёй жаўруковых мелодый,
Зары вечаровай,
Чысцінёй буйных росаў світальных,
Васількоў і рамонкаў, —
Мне падоранаю чысцінёй.

Чысціня тваіх мілых вачэй
І пялёсткаў абуджаных веек,
Чысціня тваёй шчырасці поўнай,
Тваёй добрай усмешкі,
Пацалункаў салодкіх, з гарчынкай,
І тваёй эмацыйнай слязы, —
Свету белага цуд найвялікшы!

Я люблю чысціню.

* * *

Ад сонца любові,
Ціхмяна-сардэчнай,
Вясёлкамі ззяе
Прастора сустрэчаў.

У моры любові
Патоне, растане
І ліха любое,
І смутак расстання…

### МАЙСТАР СЛОВА

*Акраверш*

**Б**ог паслаў нам віртуоза ў слове —
**А**куліны сына ў добрай славе.
**Р**адуйся, паэзій лад сусветны:
**А**д Ушачаў родна-запаветных
**Д**а біблійна-ўзвышаных матываў
**У** паэта ўсё жыве шчасліва.
**Л**юбіць ён высокае тварэнне
**І** натхняе творцаў пакаленні
**Н**а актыўна-шчодрыя здзяйсненні.

### ПОМНЫ ЎЗЛЁТ

Сэрца
чуццёвыя мела
Бела-ружовыя крылы
Мроі і чысціні.
Ў неба памкнулася смела —
Крылы сабе апаліла
Ў сонечнай вышыні.

Розуму сэрца не слухала.
Можа, ахоплена скрухаю?
Не! Пра мінулае марыць,
Згадвае долю Ікара,
Ўласны акрылены лёс,
Згадвае неба свабоды —
Помную ўзнагароду —
Свой над падзеннем узлёт.




# ЛІСТАПАД

**1**

*85 гадоў з дня нараджэння Каліны (сапр. Капелян, дзяв. Лукашэвіч) Клаўдзіі Канстанцінаўны (1925—1994), беларускага празаіка.*

**2**

*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Баршчэўскага Аляксандра Андрэевіча (псеўд. Алесь Барскі), беларускага паэта, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка, фальклароста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча. Жыве ў Польшчы.*

**2**

*50 гадоў з дня нараджэння (1960) Наварыча Алеся (сапр. Трушко Аляксандр Іванавіч), беларускага празаіка.*

**7**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Жуковіча Васіля Аляксеевіча, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.*

**8**

*120 гадоў з дня нараджэння Пачопкі Янкі (Івана Пятровіча; 1890—1977), беларускага паэта, празаіка, фальклароста.*

**11**

*135 гадоў з дня нараджэння Паўловіча Альберта Францавіча (1875—1951), беларускага паэта-гумарыста, драматурга.*

**12**

*125 гадоў з дня нараджэння Грамыкі Міхайлы (Міхаіла Аляксандравіча; 1885—1969), беларускага празаіка, драматурга, вучонага.*

**12**

*90 гадоў з дня нараджэння Макаёнка Андрэя Ягоравіча (1920—1982), беларускага драматурга, народнага пісьменніка БССР.*

**14**

*110 гадоў з дня нараджэння Чарнушэвіча Нічыпара Фёдаравіча (1900—1967), беларускага паэта, перакладчыка, драматурга.*

**14**

*105 гадоў з дня нараджэння Васілька Міхася (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч; 1905—1960), беларускага паэта.*

**16**

*105 гадоў з дня нараджэння Скрыгана Яна (Івана Аляксеевіча; 1905—1992), беларускага празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

**17**

*85 гадоў з дня нараджэння Ясючэні Уладзіміра Мікалаевіча (1925—1945), беларускага паэта.*

**20**

*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Ігнаценкі Рыгора Канстанцінавіча, беларускага празаіка.*

**23**

*100 гадоў з дня нараджэння Астапенкі Змітрака (Дзмітрыя Емяльянавіча; 1910—1944), беларускага паэта.*

**23**

*100 гадоў з дня нараджэння Міронава Аляксандра Яўгенавіча (1910—1992), беларускага празаіка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь. Пісаў на рускай мове.*

**26**

*80 гадоў з дня нараджэння Караткевіча Уладзіміра Сямёнавіча (1930—1984), беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.*

# «О, як глядзяцца



***Г**эты здымак ужо можна лічыць гістарычным: фота на памяць — са старшынёй Брэсцкага аблвыканкама Канстанцінам Андрэевічам Сумарам. І, думаю, не памылюся, калі скажу, што для пісьменнікаў Берасцейшчыны ён не проста кіраўнік вобласці, ён той Чалавек, што рупіцца, дбае і моцна хоча, каб берасцейская зямля была слаўная не толькі сваёй прамысловасцю ды заможна-магутнымі гаспадаркамі, а і такім водарным, глыбокім, спеўным мастацкім словам — творамі, якія данясуць далёкім нашчадкам славу Берасцейшчыны сённяшняй.*

*Узіраюся ў знаёмыя, блізкія твары Ніны Мацяш (мы якраз тым днём дамаўляліся сустрэцца з ёю летам у Белаазёрску, і тая наша размова аказалася апошняй… ), Зіны Дудзюк, Анатоля Крэйдзіча, Алеся Каско, Марыі Ляшук, Анатоля Шушко, Андрэя Мазько… А побач з імі шмат творчай моладзі, хто толькі-толькі далучаецца да*

# *гожа берасцейцы!..»*



*«Берасцейскага вогнішча», з якога шмат іскрынак узнеслася ў вышыню, у неба нашай літаратуры і там заззяла яркімі прамяністымі зоркамі…*

*Непаўторная Жэня Янішчыц!.. Ластаўкай Палесся цяпер называюць яе. Тым днём усіх нас у Пінску ў памяшканні Палескага тэатра якраз сабрала свята — шасцідзесяцігоддзе з дня яе нараджэння. Слаўся лёгкі туман на пінскіх ускраінах, неба кранула позняя восень 2008 года, а на донцы душы ўжо спелі яшчэ не напісаныя тады радкі: «Зайграе ранак на сваёй жалейцы, узыдзе промняў сонечная рась, о, як глядзяцца гожа берасцейцы, і гэтае красы ў іх не адняць!..»*

*Красуецца край Берасцейскі, красуюцца людзі гэтага краю, ствараюцца, пішуцца радкі новых вершаў… Гэтак яно ёсць, і няхай так будзе заўсёды!*

*Раіса* БАРАВІКОВА



*Мая прафесія*

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ТАМ, ДЗЕ АКРЫЛЯЮЦЬ ТАЛЕНТЫ

***Як адміністрацыйную адзінку на карце Беларусі вы ніколі не знойдзеце Палессе. Тым не менш кожны беларус скажа вам, што яно існуе і нават мае сваю некаранаваную сталіцу — Пінск. Тут, на мяжы Польшчы, Украіны і Беларусі, жыве народ, не падобны ні на які іншы, са сваімі культурнымі традыцыямі, звычаямі, гутаркай. Тут ёсць свой універсітэт, каледжы і іншыя навучальныя ўстановы. Іх выпускнікам неабавязкова ехаць у вялікі свет. Яны маюць магчымасць рэалізаваць сябе на сваёй малой радзіме. Нават у такіх экзатычных прафесіях, як артыст, харэограф, рэжысёр, дырыжор…***

***Сёння мы раскажам пра Пінскае дзяржаўнае вучылішча мастацтваў, дзе якраз і навучаюць гэтым прафесіям.***

## ЗАЎСЁДЫ НА СВАІМ МЕСЦЫ

Каб зразумець тую ці іншую навучальную ўстанову, адчуць яе рытм, тое, чым яна жыве, трэба пазнаёміцца з яе кіраўніком. **Таццяна Паўлаўна Дзем'янец** ураджэнка Піншчыны і шчыры яе патрыёт. Пасля паспяховага заканчэння ўніверсітэта культуры і мастацтваў яе размеркавалі на працу ў сталіцу. Але яна выбрала Пінск і прысвяціла сябе вывучэнню, прапагандзе і захаванню культурных традыцый гэтага рэгіёна. Таццяна Паўлаўна прайшла складаны і плённы шлях ад метадыста Пінскага раённага аддзела культуры да яго начальніка. На пасадзе дырэктара вучылішча працуе з 2006 года.

Ці складана сёння Таццяне Дзем'янец адчуваць сябе ў ролі педагога, несці адказнасць за навучальную ўстанову і яе навучэнцаў? Цяпер яна шчыра прызнаецца, што на самой справе заўсёды марыла стаць педагогам, яшчэ з дзяцінства. Але так склаўся лёс, што прафесійную дзейнасць пачала з працы ў клубнай установе. Тады, у 1980-я гады, клуб наведвала ў асноўным моладзь, з якой яна хутка знайшла кантакт. Потым працавала загадчыцай аўтаклуба ў Пінскім аддзеле культуры. Разам з калегамі з агітбрыгады яны ездзілі па тых населеных пунктах, дзе не было стацыянарных клубаў, ладзілі там канцэрты, ушаноўвалі лепшых людзей працы, праводзілі дні культуры, рэгіянальныя святы вёсак. Падчас паездак яна бліжэй пазнаёмілася з культурай і традыцыямі Пінскага краю, палюбіла іх за непаўторнасць і самабытнасць. Зразумела, што патрэбна менавіта тут, на сваім месцы. Таму і засталася пасля вучобы на малой радзіме, працягвала і надалей арганізоўваць масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя народным святам, ладзіць іх тэатралізаваныя пастаноўкі, ствараць і падтрымліваць існуючыя калектывы мастацкай самадзейнасці.

Калі ж Таццяна Паўлаўна атрымала прапанову заняць пасаду дырэктара вучылішча мастацтваў, вагалася цэлы месяц. Усё ж такі 20 гадоў працы аддадзена аддзелу культуры,

было цяжка мяняць сферу дзейнасці. Ды яшчэ старшыня райвыканкама не хацеў адпускаць яе. Але яна наважылася: вабілі новыя далягляды. Цяпер Таццяна Дзем'янец не шкадуе пра свой выбар. А ранейшая праца ў аддзеле культуры вельмі прыдалася і на яе цяперашняй пасадзе. Яна нават выкладае такую дысцыпліну, як «Сацыяльна-культурная дзейнасць па арганізацыі вольнага часу». Ёй падабаецца быць выкладчыкам і педагогам, кантактаваць з навучэнцамі, асабліва з завочнікамі. Яны ўжо маюць пэўную практыку, і ў іх сваё бачанне працы ў галіне культуры, ад іх зыходзіць шмат інавацыйных праектаў. І сёння, нягледзячы на недахоп часу, які дырэктар максімальна прысвячае сваім прафесійным абавязкам, Таццяна Паўлаўна не збіраецца спыняцца на дасягнутым, яна заканчвае аспірантуру мінскага універсітэта культуры.



*Дырэктар вучылішча Таццяна Паўлаўна Дзем'янец.*

Дзякуючы намаганням дырэктара будынкі, дзе месціцца навучальная ўстанова, заўсёды дагледжаныя і адрамантаваныя. Адзін з іх — галоўны, дастаўся ў спадчыну ад гаркама партыі, які размяшчаўся тут яшчэ ў канцы 1980-х гадоў. Зразумела, што гэты будынак, узведзены яшчэ «за польскім часам», не быў прызначаны пад навучальную ўстанову, таму патрабаваліся змены і перапланіроўка. Другі корпус вучылішча — гістарычны будынак 1939 года — таксама патрабаваў сур'ёзнага рамонту. І з таго часу, як Таццяна Паўлаўна пачала выконваць свае прафесійныя абавязкі, у гэтых двух будынках не спыняюцца рамонтныя работы. Мяняюцца і інтэр'еры вучэбных аўдыторый, закупляецца новая мэбля, паўсюль камп'ютары і сучаснае абсталяванне. Для творчых калектываў вучылішча набываюцца неабходныя музычныя інструменты, шыюцца касцюмы...

Ва ўсіх гэтых клопатах ёй дапамагае зладжаны і дасведчаны працоўны калектыў вучылішча. У першую чаргу гэта намеснікі дырэктара: па ідэйна-выхаваўчай рабоце — **Таццяна Мікалаеўна Крыштопчык**, па вучэбнай — **Алена Аляксандраўна Казак**, загадчыца гаспадаркі — **Тамара Паўлаўна Пекун**. Дарэчы, гэтыя жанчыны таксама пінчанкі, якія любяць свой горад і ганарацца яго гісторыяй і культурай. Яны ўсё робяць для таго, каб наладжаныя вучэбныя і творчыя працэсы ў вучылішчы ніколі не перапыняліся, каб з яго сцен выйшлі дастойныя і прафесійныя кадры ў галіне культуры і мастацтва. Дзеля гэтага ладзяцца шматлікія конкурсы і фестывалі, навукова-практычныя канферэнцыі і спартыўныя мерапрыемствы, пастаянна вядзецца канцэртная дзейнасць. Творчыя калектывы вучылішча і яго выпускнікі штогадовымі перамогамі і ўзнагародамі, прызамі і дыпломамі давялі, што іх навучальная ўстанова адна з лепшых на Берасцейшчыне. Гэта відаць і па наборы абітурыентаў. Яны з'язджаюцца сюды на вучобу з усёй Беларусі.

## ЖЫЦЦЁ, ПРЫСВЕЧАНАЕ ТАНЦУ

Сёлета ў вучылішча юбілей — дваццаць гадоў. У 1990 годзе на базе адной спецыяльнасці — харэаграфіі — была створана гэтая навучальная ўстанова. Дагэтуль у Пінску нічога падобнага не існавала. Тады адкрыццё вучылішча стала святам для тых, хто любіць танцавальнае мастацтва. Пасля сур'ёзнага конкурсу навучэнцамі сталі 60 маладых людзей. У 1993 годзе быў першы выпуск харэографаў, шаснаццаць з іх сталі кваліфікаванымі спецыялістамі, трое засталіся працаваць у роднай установе. Ужо на наступны год пасля адкрыцця аддзялення на адно месца прэтэндавалі тры абітурыенты. Цяпер адзяленне харэаграфічнага мастацтва самае вялікае ў вучылішчы і самае папулярнае. Тут вывучаюць асновы народнага, бальнага і эстраднага танцаў.



*Народны фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Пінская шляхта».*

На харэаграфічным аддзяленні працуе шмат таленавітых і адметных педагогаў. Кожны з іх мае свой курс, сваіх навучэнцаў. Хочацца асобна адзначыць легенду вучылішча — **Валянціну Канстанцінаўну Бубнову**, майстра спорту па спартыўнай гімнастыцы. Нягледзячы на паважаны ўзрост жанчыны, педагагічны калектыў не можа абысціся без яе досведу і ўмення ў выхаванні будучых танцораў. Усе сямнаццаць гадоў, якія працуе тут Валянціна Канстанцінаўна, яе няспынная энергія і бадзёрасць духу перадаецца выхаванцам. А тыя своеасаблівыя практыкаванні, якія яна распрацавала спецыяльна для сваіх вучняў, зрабілі іх адмысловымі «скакунамі» з гнуткімі постацямі. Што дапамагае ім рабіць унікальныя харэаграфічныя трукі, пасля якіх на канцэртах заўсёды выклікаюць на «біс».

Дзякуючы цяжкай працы і намаганням педагогі вучылішча могуць ганарыцца сваімі выпускнікамі, якія паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі і Расіі. Многія з іх сталі артыстамі такіх прафесійных і заслужаных калектываў Беларусі, як дзяржаўны ансамбль танца «Харошкі», ансамбль песні, музыкі і танца «Белыя Росы» Гродзенскай абласной філармоніі, акадэмічны хор імя Цітовіча. Іншыя паспяхова выкладаюць у харэаграфічных школах, кіруюць гурткамі і студыямі.

Гонарам усяго вучылішча мастацтваў з'яўляецца народны фальклорна-харэаграфічны ансамбль **«Пінская шляхта»,** у склад якога ўваходзяць лепшыя навучэнцы харэаграфічнага аддзялення. Ён быў створаны яшчэ ў 1992 годзе з мэтай адраджэння танцавальных традыцый Палесся. Яго заснавальнік і пастаноўшчык танцаў — **Валерый Віктаравіч Жыльцоў**. У 1994 годзе ансамблю нададзена званне «народны». Цяпер мастацкім кіраўніком з'яўляецца **Наталля Станіславаўна Вайсковіч**. У рэпертуары ансамбля рэгіянальныя танцы Заходняга Палесся. Гэта палескія кадрылі, полькі, хараводы, народныя і гарадскія бытавыя танцы... Асаблівы каларыт ансамблю надае тое, што ў беларускі народны танец уключаны элементы культуры іншых народаў — суседзяў Палескага краю. Ансамбль не раз атрымоўваў пачэснае званне лаўрэата і дыпламанта міжнародных, рэспубліканскіх і абласных конкурсаў, фестываляў, чым набыў вядомасць і папулярнасць не толькі ў родным горадзе, але і па ўсёй краіне, за яе межамі.

Адметнасцю вучылішча з'яўляецца і тое, што пры харэаграфічным аддзяленні створаны сектар педагагічнай практыкі. Там навучэнцы пасля дзённых заняткаў

праходзяць педагагічную практыку. Свае веды, уменні і навыкі будучыя харэографы перадаюць таленавітым дзецям Піншчыны. Назіраючы за гэтымі дзецьмі, узрост якіх вагаецца ад 6 да 15 гадоў, педагогі вучылішча адбіраюць з іх самых таленавітых і адораных, яны бачаць у іх сваіх будучых абітурыентаў, а потым і навучэнцаў. З ліку такіх дзяцей і быў створаны яшчэ адзін знакаміты харэаграфічны ансамбль — **«Гарэзлівыя шляхцюкі».** Яго ў 1997 годзе заснавала творчы і таленавіты выкладчык **Аксана Аляксандраўна Мяцельская**. У 1998-м ансамблю было нададзена званне «ўзорны». Сёння ягонымі кіраўнікамі з'яўляюцца **Наталля Уладзіміраўна Лазіцкая і Святлана Сяргееўна Лук'яновіч.** Яны таксама лаўрэаты і дыпламанты айчынных і замежных конкурсаў, фестываляў. Сваімі танцамі, дзе ўмела спалучаюцца запал, прывабнасць і абаяльнасць, «Гарэзлівыя шляхцюкі» вядомыя як у сябе на радзіме, так і ў замежных краінах, у тым ліку краінах Заходняй Еўропы.

## У ПАЛОНЕ ГУКАЎ І МЕЛОДЫЙ

У 1991 годзе на падставе ліста Міністэрства культуры Беларусі ў вучылішчы адчынілася музычнае аддзяленне. Да вучобы прыступілі пятнаццаць навучэнцаў па класе баяна і дзевяць па класе фартэпіяна. Аднак праз год з-за недахопу фінансавання і цяжкасці набыцця інструментаў аддзяленне знаходзілася пад пагрозай закрыцця. Некалькі гадоў не было набору. Цяпер усё наладзілася. Аддзяленне мае назву: інструментальнае выкананне. Спецыялізацыя: фартэпіяна, інструменты народнага аркестра. Кваліфікацыя: артыст аркестра, ансамбля; канцэртмайстар, выкладчык, кіраўнік аркестравага калектыву.

Дасведчаныя педагогі, выкладчыкі са стажам, старшыня цыклавой камісіі музычных дысцыплін па фартэпіяна і музычна-тэарэтычных дысцыплін **Ірына Лявонцьеўна Бароўская**, а таксама старшыня цыклавой камісіі інструментаў народнага аркестра і дырыжыравання **Таццяна Пятроўна Камісарчук** распавядаюць пра спецыфіку працы інструментальнага аддзялення. Рэч у тым, што тут апроч групавых заняткаў шмат індывідуальных. Таму ў вучылішчы сустракаюцца і зусім маленькія вучэбныя класы, дзе знаходзіцца той ці іншы музычны інструмент, да прыкладу, фартэпіяна, баян або акардэон. У іх навучэнцы пад кіраўніцтвам выкладчыка займаюцца індывідуальна. Ірына Лявонцьеўна кажа, што інструментальнае аддзяленне вядома не толькі сярод абітурыентаў Палескага рэгіёна. Сюды прыязджаюць вучыцца і з іншых куткоў Беларусі. Шмат выпускнікоў аддзялення завяршылі сваю вучобу ў ВНУ краіны, некаторыя з іх вярнуліся сюды на працу і ўліліся ў выкладчыцкі склад. Гэта **Таццяна Мікалаеўна Данілішына,**



*Узорны харэаграфічны ансамбль «Гарэзлівыя шляхцюкі».*

**Андрэй Віктаравіч Масальскі, Святлана Мікалаеўна Гугельчук, Марта Мікалаеўна Рыбалка, Сяргей Мікалаевіч Капусцін, Міхаіл Уладзіміравіч Сідаровіч**.

А вось выпускніца Акадэміі музыкі **Ганна Мікалаеўна Хвісевіч**, якая ўжо тры гады выкладае тут баян, акардэон і дырыжыраванне, прыехала з Мінска, дзе і набывала музычныя веды. Але рэалізоўваецца Ганна Хвісевіч не толькі як выкладчык, прыдалася і яе дырыжорская кваліфікацыя. Яна кіраўнік **народнага баяннага аркестра**, які належыць вучылішчу і складаецца з навучэнцаў інструментальнага аддзялення. Ранейшым кіраўніком аркестра, які быў створаны ў 1994 годзе, быў выдатны аранжыроўшчык і кампазітар **Валерый Васільевіч Камісарчук**. За багаты рэпертуар, у склад якога ўвайшлі творы айчынных і замежных кампазітараў, за актыўную канцэртную дзейнасць у 1996 годзе аркестру нададзена званне «народны». У наступныя гады гэтае званне неаднаразова пацвярджалася. У 2005 годзе аркестр атрымаў званне лаўрэата Рэспубліканскага конкурсу аркестравых калектываў сярод сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва.

Пры аддзяленні ёсць яшчэ не менш знакаміты творчы калектыў. Гэта ансамбль народнай музыкі **«Налэнч»,** названы так у гонар аднаго з першых радавых шляхецкіх гербоў на Палессі. Без яго цудоўнага і адмысловага музычнага суправаджэння фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Пінская шляхта» не меў бы сваёй непаўторнасці і адметнасці. У 1996 годзе за дасягнутыя поспехі і актыўную працу ў прапагандзе народных традыцый «Налэнч» таксама атрымаў званне «народны». Яго кіраўнік — **Нона Генадзеўна Пекун**.

Навучэнцы інструментальнага аддзялення з’яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі традыцыйнага фестывалю «Фартэпіянны вернісаж» і конкурсу «Новыя імёны». Тыя, хто вучыцца на аддзяленні народных інструментаў, паспяхова выступаюць на рэспубліканскім конкурсе імя І. Жыновіча, становяцца лаўрэатамі брэсцкага фестывалю-конкурсу «Пралескі». Сёлета, у год выдатнага піяніста ўсіх часоў і народаў Фрэдэрыка Шапэна, быў праведзены шэраг канцэртаў-лекцый, прысвечаных яго жыццю і творчасці. З кожным годам пашыраецца геаграфія ўдзельнікаў рэгіянальнага фестывалю фартэпіяннай музыкі сярод вучняў музычных школ Піншчыны «Пінская вясна». Ягоныя пераможцы — гэта будучыя абітурыенты інструментальнага аддзялення пінскага вучылішча мастацтваў.

## САМ САБЕ РЭЖЫСЁР

У 1997 годзе было адчынена аддзяленне «Народная творчасць» па спецыялізацыі «Народныя абрады і святы; танец». Вучацца тут дзяўчаты і юнакі не толькі з Пінскага краю, а і з іншых куткоў Беларусі. Пасля заканчэння вучобы яны, як правіла, размяркоўваюцца ва ўстановы культуры сваіх рэгіёнаў. Гэта дамы і цэнтры культуры і вольнага часу, дамы народнай творчасці... Там яны працуюць мастацкімі кіраўнікамі або кіраўнікамі тэатральных ці аркестравых калектываў, нават дырэктарамі дамоў культуры. Дадзеныя спецыялісты павінны ў працэсе вучобы навучыцца прафесійна арганізоўваць работу ўстаноў культуры з улікам канкрэтных умоў рэгіёна і асаблівасцей калектыву. Апроч гэтага, прафесійна граць на баяне ці акардэоне, акампаніраваць спевакам, інструменталістам, рабіць нескладаныя пастаноўкі для харэаграфічных калектываў, аранжыраваць музычныя творы для аркестраў народных інструментаў, прафесійна кіраваць такімі аркестрамі, танчыць у ансамблях рознага складу, ставіць танцавальныя кампазіцыі ў розных жанрах і стылях.

Вывучэнне народных абрадаў і свят каляндарнага цыкла, традыцыйнай і сучаснай святочнай культуры Беларусі мае ў вучылішчы свае асаблівасці. Па словах выкладчыка гэтай дысцыпліны **Наталлі Васільеўны Самуйліч**, рэгіянальны абрад «*ваджэнне куста*», што практыкуецца ў некаторых вёсках Піншчыны на Тройцу, увогуле ўнікальны. Вывучаюць тут і палескі вясельны абрад, які таксама мае мясцовыя адметнасці. З тонкасцямі правядзення такіх абрадаў і многіх іншых знаёмяць навучэнцаў і такія выкладчыкі аддзялення, як **Марына Цімафееўна Красько, Іна Міхайлаўна Ваішчава, Галіна Мікалаеўна Сцепіна, Алена Сяргееўна Якубчык.** Увогуле, кожны выпускнік гэтага аддзялення на працягу апошняга года навучання рыхтуе дыпломны праект на аснове свайго



*Ганна Хвісевіч на рэпетыцыі народнага баяннага аркестра.*

рэгіянальнага свята. Для гэтага навучэнцы спачатку ўзгадняюць такі праект з начальнікам аддзела культуры свайго рэгіёна, потым пішуць сцэнарый свята, складаюць каштарыс, збіраюць аргкамітэт. Тут ім дапамагаюць дасведчаныя выкладчыкі вучылішча. Пасля напісання сцэнарыя падбіраюць музычную партытуру, робяць макет свята, яго дэкарацыі, малююць эскізы строяў. Калі ўсё падрыхтавана, будучы спецыяліст павінен ажыццявіць праект у сябе на радзіме. І неабавязкова ў якасці галоўнага рэжысёра свята, а хаця б як яго памочнік ці ўвогуле выканаўца. Потым увесь абрад здымаецца на відэа і паказваецца прыёмнай камісіі на дзяржаўным іспыце. Чым і пацвярджаецца ўдзел навучэнца ў абрадавым святе і яго кваліфікацыя рэжысёра.

Спецыялісты дадзенага кірунку вучацца і завочна, і стацыянарна. Яны вывучаюць такія дысцыпліны, як «Рэжысура і майстэрства акцёра», «Рэжысура абрадаў і свят», «Сцэнічная мова», «Пластыка», «Сцэнарнае майстэрства», «Грым», «Музычна-гукавое афармленне мерапрыемстваў». Іншымі словамі, дзяцей вучаць прыгожа рухацца, некаторым элементам харэаграфічнага мастацтва, валодаць словам, дакладнай дыкцыяй, развіваюць пачуццё рытму і слыху. На аддзяленні існуе эксперыментальны тэатр-лабараторыя «Пілігрым», куды ўваходзяць навучэнцы дзённага аддзялення. Кіруе тэатрам старшыня цыклавой камісіі, педагог **Кацярына Валер′еўна Галішэвіч**. «Пілігрым» працуе ў розных стылях і жанрах, ад класікі да тэатра абсурду і авангарда. На працягу навучальнага года тэатр ажыццяўляе вялікую колькасць пастановак. Сярод іх, безумоўна, і «Пінская шляхта» па Дуніну-Марцінкевічу, і такія спектаклі, як па п'есе Людмілы Петрушэўскай «Чамадан лухты» і п'есе Сяргея Кавалёва «Стомлены д'ябал», і іншыя. У якасці практычных заняткаў навучэнцы аддзялення ўдзельнічаюць у спектаклях Дзяржаўнага палескага драматычнага тэатра, які месціцца побач з галоўным корпусам вучылішча ў прыгожым будынку XIX ст. Некаторыя прафесійныя рэжысёры палескага тэатра сумяшчаюць сваю тэатральную дзейнасць з выкладчыцкай у вучылішчы. Што, безумоўна, дае магчымасць будучым спецыялістам набыць і замацаваць практычны досвед.

## САЮЗ ТВОРЧАСЦІ І ЛОГІКІ

Ужо на другім годзе існавання вучылішча пачалі абмяркоўваць перспектывы адкрыцця аддзялення выяўленчага мастацтва. Думалі, што вучылішча зоймецца падрыхтоўкай майстроў па мастацкай апрацоўцы тканін, ткацтве, вырабе габеленаў, разьбе па дрэве.

Па аб’ектыўных прычынах гэтыя планы не былі рэалізаваны. Тым не менш у 2003 годзе ажыццявіўся першы набор навучэнцаў на спецыяльнасць «Дызайн» (графічны). Спачатку не ставала не толькі выкладчыкаў, але і майстэрняў, наглядных дапаможнікаў. Сёння на аддзяленні гэтыя праблемы вырашаныя. Затое ўзніклі іншыя. За апошнія гады, як і паўсюль у краіне, у пінскім вучылішчы мастацтваў спецыяльнасць «Дызайн» перажыла неверагодны ўсплёск папулярнасці. На адно месца прэтэндавалі па 13—15 чалавек. Павялічваць набор? Столькі спецыялістаў не трэба, узніклі б праблемы з размеркаваннем. Сёлета бум сцішыўся, па ўзгадненні з Міністэрствам культуры набор на спецыяльнасць зрабілі платным.

Як вядома, графічны дызайн называюць саюзам творчасці і логікі, і ён звязаны з выявай розных фірмавых знакаў, эмблем і стыляў, распрацоўкай плакатаў, макетаў і візітак. Таму выпускнікі гэтага аддзялення ў асноўным працуюць у рэкламных фірмах і ў галіне паліграфіі. А сёлетнія выпускнікі-дызайнеры будуць яшчэ і настаўнікамі, змогуць выкладаць у мастацкай школе малюнак і жывапіс. Тым, хто навучаецца ў такіх школах, будзе потым лягчэй паступіць у вучылішча і здзейсніць сваю мару — стаць мастаком. Пры паступленні трэба мець папярэднюю падрыхтоўку, ведаць асновы малюнка, кампазіцыі, жывапісу. Усё гэта патрабуецца на ўступных іспытах.

Вось ужо пяты год працуе на аддзяленні выкладчык выяўленчых дысцыплін, старшыня цыклавой камісіі дызайнераў **Генадзь Вячаслававіч Масеціч**. Выпускнік мастацка-графічнага факультэта віцебскага ўніверсітэта, таленавіты мастак, за плячыма якога не адна выстаўка асабістых творчых прац, перадае веды і прафесійныя напрацоўкі сваім вучням. І ягоныя намаганні не дарэмныя. Так, з шасці чалавек сёлетняга выпуску пяць працягваюць вучобу ў вышэйшых навучальных установах. Адна з іх, **Алена Гаўрыловіч**, у сваім дыпломным праекце распрацавала фірмавы лагатып «Дызайн графічны» для роднага вучылішча, фірмавыя майкі, візіткі і перакідны каляндар для выкладчыкаў аддзялення. У календары на 2011 год кожны месяц прысвечаны пэўнай дысцыпліне, якую вывучаюць будучыя дызайнеры. Гэта камп’ютарная графіка, асновы кампазіцыі, чарчэнне, колеразнаўства, тэхналогія матэрыялаў, фотамастацтва, пластычная анатомія, шрыфты...



*Калядны фэст у выкананні навучэнцаў аддзялення «Народная творчасць. Народныя абрады і святы».*



*Дызайнеры за працай.*

Ідэю Алены і яе каляндар збіраюцца выкарыстоўваць у вучылішчы пры афармленні афіш і інфармацыйных стэндаў. А дыпломны праект **Марыі Бастамавай** быў ацэнены камісіяй самай высокай адзнакай. Ягоная тэма — серыя прынтоў на футболках, дзе мастацкімі сродкамі паказана залежнасць моладзі ад камп'ютарных гульняў. Дыпломная праца **Святланы Шкрадавай** — інфармацыйная падтрымка спектакля па матывах твора Мікалая Гогаля «Ноч перад Раством». Гэта распрацоўка буклетаў, плакатаў, запрашальнікаў. Спектакль жа — дыпломная праца навучэнцаў спецыяльнасці «Народная творчасць. Народныя абрады і святы».

Увогуле ў вучылішчы пануе ўзаемадапамога, усе аддзяленні супрацоўнічаюць адно з адным. Так, з дапамогай дызайнераў да 20-годдзя навучальнай установы былі аформлены рэкламныя буклеты, дзе кожнае аддзяленне прадстаўлена асобна, ярка і маляўніча. Апроч гэтага навучэнцы дызайнерскага аддзялення штораз ладзяць выстаўкі, як асабістыя творчыя, так і сваіх выкладчыкаў. Вялікая ўвага надаецца ўсталяванню кантактаў з навучальнымі ўстановамі аналагічнага профілю. Педагогі і навучэнцы прысутнічаюць на абароне дыпломных праектаў у Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава, плануюцца выезды на экзаменацыйныя прагляды ў Акадэмію мастацтваў.

*Сённяшнія поспехі вучылішча — гэта не проста вынік выканання кожным выкладчыкам сваіх педагагічных абавязкаў. Педагогі выхоўваюць у вучнях імкненне да прафесійнага росту, пашыраюць іх кругагляд, фарміруюць творчую асобу. Іншымі словамі, надаюць таленту крылы творчых прафесій. Усе супрацоўнікі вучылішча не шкадуюць ні сваіх сіл, ні сваёй душы, аддаючы сябе напоўніцу. Сярод іх ветэраны, педагогі, работнікі бухгалтэрыі, аддзела кадраў, гаспадаркі вучылішча:* ***Алена Мікалаеўна Царык, Яўгенія Андрэеўна Мальцава, Ірына Лявонцьеўна Курыловіч, Святлана Ахметаўна Красоўская, Валянціна Васільеўна Круковіч, Алена Канстанцінаўна Горская, Вольга Каліstратаўна Пуцыковіч, Святлана Раманаўна Лабко, Вера Анатольеўна Кафельнікава, Наталля Арсеньеўна Мармузевіч, Таццяна Іванаўна Кулішэвіч, Вера Віктараўна Шлемава, Ала Уладзіміраўна Сеген, Валянціна Мікалаеўна Кляганіца, Вікторыя Вячаславаўна Вярэніч, Алена Мікалаеўна Чарненка, Ірына Паўлаўна Хвесюковіч, Таццяна Пятроўна Чэпур*** *і інш.*

*І сёння, сустракаючы 20-гадовы юбілей, вучылішча пацвердзіла рэпутацыю адной з вядучых навучальных устаноў не толькі Берасцейшчыны, але і Беларусі. У ім шануюць нацыянальныя традыцыі і вераць у будучыню сваёй краіны.*

*Да 80-годдзя з дня нараджэння*

Анатоль ВЕРАБЕЙ

# ДАВЕРЛІВАЯ ДА СВЕТУ ДУША

## *(Уладзімір Караткевіч і Берасцейшчына)*

Перад Вялікай Айчыннай вайной у Брэсце працаваў, ажаніўся і некаторы час жыў са сваячкай Ларысы Геніюш дзядзька Уладзіміра Караткевіча Ігар Грынкевіч (1908—1985). З пасляваеннага часу ён жыў у Рагачове, у хаце, якую пабудаваў у 1914 годзе яго бацька, дзед пісьменніка Васіль Грынкевіч (1861—1945). Караткевіч часта наведваў дзядзьку ў Рагачове. Там 27 красавіка 1962 года ён пачаў пісаць раман «Каласы пад сярпом тваім», у ліпені-жніўні 1964-га стварыў легенду «Ладдзя Роспачы», зімой і вясной 1966 года завяршыў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», 11 лістапада таго ж года закончыў аповесць «Чазенія», напісаў іншыя творы. Рагачоў быў для Уладзіміра Сямёнавіча тым, чым з'яўлялася Ясная Паляна для Льва Талстога, Акопы для Янкі Купалы. Ігар Васільевіч быў цудоўным апавядальнікам. Ён зрабіў пэўны ўплыў на фарміраванне таленту пляменніка. Мог расказаць яму і пра сваё колішняе жыццё ў Брэсце.



*Уладзімір Караткевіч на даху Камянецкай вежы. 1963 г.*

Моцнае і шчырае сяброўства яднала Караткевіча і Уладзіміра Калесніка. Як згадваў пазней Уладзімір Сямёнавіч у артыкуле «Шляхі ў палях», «…пазнаёміліся мы з ім у канцы 50-х гадоў. Пачалося, па-мойму, з размовы аб маёй «Партызанскай баладзе», якая яму спадабалася».

Уладзімір Калеснік быў адным з рэцэнзентаў першага паэтычнага зборніка Караткевіча «Матчына душа» (1958). Сваю рэцэнзію «Душа паэта» ён надрукаваў у часопісе «Дружба народов» (1959, № 8), у якой высокапрафесійна прааналізаваў мастацкія асаблівасці вершаў і балад зборніка, засяродзіў увагу на іх праблематыцы і патрыятычным змесце, адзначыў, што «найбольш удалыя ў кнізе творы гераічнага плана».

Пра многае згадаў Караткевіч у артыкуле пра Уладзіміра Андрэевіча «Шляхі ў палях» (1972), а Калеснік — у артыкулах «Братанне з Караткевічам» (1990) і «Неспакойны Пегас» (1990).

Прыкметна зблізіліся яны ў маі і чэрвені 1963 года. 7 мая Караткевіч па запрашэнні Калесніка ўпершыню сустрэўся са студэнтамі Брэсцкага педінстытута. Уладзімір Андрэевіч пра тую сустрэчу пазней так пісаў: «Караткевіч выступаў свабодна, раскавана, гаварыў пра свае творчыя планы, чытаў фрагменты з рамана «Каласы пад сярпом тваім», над якім працаваў, на памяць дэкламаваў вершы пра Машэку, Багрыма, паўстанца Ваўкалаку, пра «векавечнай бацькаўшчыны клёны», і ўсё гэта рабілася так непасрэдна, натуральна, што аўдыторыя парадніласяя з госцем, студэнты ахвотна выступалі».

Сярод найбольш грунтоўных выступленняў студэнтаў былі развагі будучага літаратара Міхася Тычыны, які «захапляўся Талстым і трапна адшукаў у творах Караткевіча высокую маральную чысціню, прагу духоўнасці, пошукі сэнсу жыцця, якія прыводзяць герояў да Беларусі, яе векавечнай красы і сумлення».


*На рацэ Лясной. 1963 г.*

«Мяне ўразіла, — працягваў Уладзімір Андрэевіч, — што многія студэнткі хвалілі аўтара за ўсхваляваны паказ мінулага свайго народа». Калеснік як выкладчык падчас той сустрэчы падкрэсліў: «Ідэалам мастака быў інтэлігентны перадавы арыстакрат, які нёс у сабе грамадзянскую культуру, станавіўся народным заступнікам, а то і важаком, абаронцам прыніжаных. Такі Алесь Загорскі з рамана «Каласы пад сярпом тваім», такім бачацца госцю і Каліноўскі, Марцінкевіч, Багушэвіч».

Тады ж, 7 мая, Караткевіч наведаў Брэсцкую крэпасць, а 8-га з'ездзіў з Калеснікам у старажытны Камянец і Белавежскую пушчу. Тады з'явіліся і першыя цудоўныя здымкі Уладзіміра Сямёнавіча, зробленыя яго сябрам. Пра адзін з іх, калі пры агледзінах Камянецкай вежы «госць забраўся ажно на дах і з-за каменных зубцоў узіраўся цераз рэчку Лясную ў даляглядʼ», ён пісаў: «Караткевіч быў увесь ва ўладзе лятункаў аб мінуўшчыне, крыху пазіраваў: глядзіць на здымку сурова, нібы пан кашталян, якога пазваў вартаўнік паглядзець вопытным вокам на яцвяжскіх коннікаў, што вынырнулі з імглы ды круцяцца на ўзлеску. Кашталян разгадае намеры ворага і дасць каманду абароны».

9 мая ж 1963 года Караткевіч напісаў верш «Белавежскі алень», які прысвяціў Уладзіміру і Зосі Калеснікам, дзе пранікнёна прамовіў:

Бо на гэтай няладнай зямлі мы ратуем
ад вечнага скону
І ўратуем наш добры, трывалы
і моцны народ.

Шмат цікавых уражанняў і сустрэч было ў Янкі Брыля, У. Калесніка і У. Караткевіча, якія 18—24 чэрвеня 1963 года здзейснілі вандроўку па Гродзеншчыне. Сустрэліся ў Баранавічах, перад вакзалам, туды з Мінска на цягніку прыехалі Брыль і Караткевіч, а з Брэста на толькі што атрыманым «Масквічы» — Калеснік. Далей іх шлях ляжаў на Слонім, Кракотку, Зэльву, Ваўкавыск, Масты, Шчучын, Мала-Мажэйкава, Ліду, Навагрудак, Валеўку, Свіцязь, Туганавічы, Загор'е, Мір, Стоўбцы.

У артыкуле «Братанне з Караткевічам» Калеснік згадаў, што думка ўзяць яго ў спадарожнікі ўзнікла ў Брыля, які гэта так патлумачыў: «Хлопец пачаў нарывацца на канфлікты з-за сваёй вострай няўступлівай беларускасці <…> Давай <…> пакажам яму нашу заходніцкую беларушчыну. У нас жа тут больш, чым ва ўсходняй, захавалася рэліквій: каплічкі і цэркаўкі, могільнікі і замчышчы, ды і мова, дзякую Богу, жыве і квітнее не толькі ў вёсках. Паглядзіць хлопец, мо акрыяе душою <…> І нам будзе цікавей».

Вялікую мастацкую і навуковую каштоўнасць мае партрэт Караткевіча, створаны Калеснікам на падставе ўспамінаў пра тую сустрэчу ў Баранавічах: «Едучы сюды, я чакаў натрапіць на ганарлівага спрэчніка, разбуральніка асноў, а сустрэў хутчэй тып анёльска-апостальскі, юнака акуратна апранутага, ветліва-ўсмешлівага <…> Спадабалася мне раскаванасць і захопленасць, што надавала дынамічнай эксцэнтрычнасці паэта духоўную змястоўнасць, рабіла яго ўвасабленнем дабраякасных кантрастаў і антыномаў <…> Прыкметай прыкмет на гэтым неардынарным твары былі вочы — вялізныя, даверлівыя, ажно крыху пацешна-лупатыя, як у блізарукага, але абрамленыя густымі веямі і прыцененыя разлётнымі густымі цёмнымі брывамі. Зрэнкі ў яго былі рознага колеру: адна — шэра-блакітная, а другая — зелена-

вата-шэрая. Сапраўды, у гэтых зменлівых, як надвор'е вясною, вачах свяцілася, выглядвала і глядзела імі на свет цікаўная і няўрымслівая, смелая і даверлівая да свету душа. Як бы сонцам зычлівасці зіхатнула ад яго постаці пры першым прывітанні, рука яго была па-жаночы пульхная, а поціск моцны, гартоўны».

Пра Калесніка як пра «аднаго з таленавітых сучасных крытыкаў, чалавека, шлях якога не ружамі быў усыпаны і які на гэтым шляху не страціў аніводнай з высокіх чалавечых вартасцей» Караткевіч цёпла і з любоўю сказаў у артыкуле «Шляхі ў палях».



*У Белавежскай пушчы. 1968 г.*

Ён не стаў разбіраць кнігі Калесніка, заўважыў, што «гэта тэма для асобнага артыкула, і пра гэта лепей скажуць калегі і час». Адзначыў, што для яго Уладзімір Андрэевіч «тут важлівы перш за ўсё як чалавек, з якім мы змералі шмат палявых дарог, перадумалі разам шмат думак, абгаварылі шмат важлівых праблем. Уладзімір Калеснік для мяне — адзін з лепшых людзей, з якімі даводзілася сустракацца на гэтых мяккіх палявых дарогах, што ныраюць між узгоркаў, парослых канюшынай і жытам».

Заўважыў, што ён любіў бываць і часта бываў у хаце Уладзіміра Калесніка і «ў Брэсцкім інстытуце, дзе ён заваяваў агульную любоў студэнтаў», адзначыў: «Рэдка мне даводзілася бачыць так добра абсталяваны кабінет беларускай мовы і літаратуры. Хай небагата, але з цеплынёй, веданнем справы і любоўю да яе, з унікліваспю вучонага і азартам паэта, з усім: ад частых пісьменніцкіх выступленняў да магнітафонных запісаў».

Якраз у Брэсцкім педінстытуце, дзе 2 лістапада 1967 года адбылося абмеркаванне рамана «Каласы пад сярпом тваім», Калеснік пазнаёміў Караткевіча з выкладчыцай Валянцінай Ватковіч, якая пазней стала яго жонкай. З гэтай нагоды Караткевіч пасля жаніцьбы склаў наступныя вершаваныя радкі:

А Калеснік добры быў,
Мне козачку падарыў,
А козачка белая
Па пакоях бегае.

Пасля знаёмства з Валянцінай Браніславаўнай Караткевіч пачаў часцей наведваць Брэст.

Думаецца, невыпадкова вядомы верш паэта «Беларуская песня», што адкрываў яго зборнік паэзіі «Мая Іліяда» (1969), пачынаўся словамі «Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа», бо рукапіс гэтага верша мае памету: 16 красавіка 68 г., Брэст. Пра тое, што Караткевічу плённа працавалася ў Брэсце ў сакавіку і красавіку 1968 года, сведчаць паметы і да такіх яго паэтычных твораў, як «Балада плахі», «Балада аб трыццаць першым сярэбраніку», «Чатырдаг», «Спуск з гор», «Гурзуф уначы», «Таруская віла».

Рукапіс верша «Таўры» не мае паметы аб даце і месцы яго напісання. Аднак ён прысвячаны Валянціне Браніславаўне. Пісьменнік прысвяціў ёй і раман «Чорны замак Альшанскі» (1979): «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю».

1—3 кастрычніка 1968 года Караткевіч разам з Брылём, Калеснікам, Міколам Аўрамчыкам наведаў Пружаны, Брэст, Камянец, Белавежскую пушчу.

Па заданні часопіса «Маладосць» 5—22 чэрвеня 1969 года Караткевіч падарожнічаў на агітцеплаходзе «Маякоўскі» з Гомеля да Давыд-Гарадка, каб напісаць нарыс пра Палессе. Падарожжа завяршыў у Брэсце. 20 ліпеня 1969 года закончыў эсэ «Званы ў прадоннях азёр», дзе з любоўю і цеплынёй расказаў таксама пра Століншчыну і Піншчыну і ўвогуле пра гісторыю і культуру Берасцейшчыны.

У розныя часы Караткевіч гасцяваў у вёсцы Быцень Івацэвіцкага раёна ў свайго сябра, вядомага літаратуразнаўца Міколы Грынчыка, якому прысвяціў верш «Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай». Наведаў каля вёскі Мілавіды ў Баранавіцкім

раёне месца, дзе 3 чэрвеня 1863 года адбылася бітва паміж паўстанцамі і расійскімі войскамі падчас паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве. Дарэчы, адным з удзельнікаў той бітвы быў высланы ў Сібір прапрадзед Гражыны Арсайлы, гераіні аповесці Караткевіча «Чазенія».

У ліпені 1970 года Караткевіч у складзе экспедыцыі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР даследаваў Пінскі і Столінскі раёны. Напісаў нават прадмову да тома, прысвечанага Брэсцкай вобласці. Аднак, як згадаў Арсень Ліс у артыкуле «Годна, з любасцю», «яе пазней змянілі і замянілі: паэт упарціўся ў пытаннях тэрміналогіі ці азначэння, нешта накшталт таго, у якіх выпадках пісаць «уз'яднанне», а ў якіх «далучэнне». Справа даўняя аб падзеях-здарэннях XVIII стагоддзя».

У складзе кнігагрупы, для якой пісаў сцэнарый «Сонцаварот» пра беларускія Каляды, 14 студзеня 1972 года наведаў вёску Клетнае Пінскага раёна.

Уладзімір Сямёнавіч напісаў прадмовы да фотальбома і да кнігі «Белавежская пушча» (1973, 1975), дзе з любоўю адзначыў: «Яна цудоўная, як душа нашага народа. Калі вы стаміліся, калі хочаце прыпасці вуснамі да вечна жывой крыніцы жыцця — прыйдзіце сюды, у найдзівоснейшы куток зямлі. Бо тут — фарпост чалавечнасці, літасці чалавека да прыроды, сястры нашай».

Па-мастацку цікава, грунтоўна і ўсебакова расказаў пра Беларусь у нарысе «Зямля пад белымі крыламі» (1971, 1976). Нямала добрых і цёплых слоў прысвяціў у ёй і Берасцейшчыне, асабліва Белавежскай пушчы, калі пісаў пра гэтую мясціну, калі пераканаўча сцвярджаў: «Мы зберажом. І зуброў, і чалавечнасць, і старыя вежы, і ўсплёскі бабра, і дзіва сонечных палян, і вуркатанне дзікага голуба, і святую гучную цішыню Пушчы».

А яшчэ Караткевіч, які быў таленавітым мастаком, маляваў геаграфічную выяву Беларусі ў выглядзе зубра, лічыў, што не кляновы ліст, а зубр дакладней раскрывае воблік яго радзімы.

У нарысе «Зямля пад белымі крыламі» падраздзел пра Брэст назваў «Брама краіны». У ім згадаў і Камянецкую вежу, і царкву-крэпасць у Чарнаўчыцах, і Казіміра Лышчынскага і Аляксандра Грыбаедава, і старажытнае Бярэсце, і гісторыю гэтай зямлі на працягу многіх стагоддзяў, і эпапею Брэсцкай крэпасці-героя, заўважыў пры гэтым, што ён «удзельнічаў <…> у абмеркаванні праекта мемарыяла-крэпасці». «Акрамя таго, — адзначыў Уладзімір Караткевіч, — Брэст уражае чалавека яшчэ й зелянінай. Гэта, думаю я, досыць паездзіўшы па свеце, адзін з самых зялёных гарадоў СССР».

Годна адзначылі берасцейцы 50-годдзе Караткевіча. Па просьбе Калесніка ён у снежні 1980 года наведаў Брэст. 21 снежня выступіў на абласной студыі тэлебачання, удзельнічаў у студэнцкай навуковай канферэнцыі па яго творах, што адбылася ў педінстытуце. Цікава і змястоўна пра той прыезд Караткевіча ў Брэст і ўвогуле пра постаць пісьменніка і яго творчасць напісаў Калеснік у артыкуле «Неспакойны Пегас».

І для сваёй апошняй вандроўкі Караткевіч, як вядома, выбраў любімае ім Палессе. 12 ліпеня 1984 года накіраваўся з сябрамі ў падарожжа па Прыпяці. Адплылі яны на плыце з Пінска. Праз некалькі дзён пісьменніку стала дрэнна. Адтуль ён вярнуўся 20 ліпеня ў Мінск.

На апошні паэтычны зборнік Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» (1986) Калеснік напісаў рэцэнзію, якой даў глыбокую і сімвалічную назву — «Кантэкст несмяротнасці» (1987). І назвай рэцэнзіі, і яе зместам ён выявіў істотнае, сутнаснае ў мастацкай постаці творцы, слушна сцвердзіў, што Караткевіч «мужна і з годнасцю прайшоў праз вернасць сабе і радзіме, захаваў годнасць сваёй беларускай, далучанай да ўсіх скарбаў свету, душы».

*Землякі ў замежжы*

Рыгор АНДРЭЯВЕЦ

# ЦЯПЛО СВЯШЧЭННАГА АГНЮ

Аляксей Кавалевіч — не з Іванаў, якія не памятаюць радства. Яшчэ ў маленстве з аповедаў маці даведаўся, што корань іхняга роду закапаны ў найстаражытнейшым Тураўскім княстве, якое ў IX—XI стагоддзях валодала Прыпяцкім Палессем і пінскімі багністымі землямі.

Спрадвеку іх род быў прывязаны да зямлі і гандлю. Зямля, наколькі магла, давала магчымасць выжыць ва ўмовах вечнай барацьбы з наступаючымі балотамі. Паляўнічыя здабывалі пушнога звера, які ў дастатку вадзіўся ў нерушавых лясах, а рыбаловы цэлымі кашалямі прыносілі з прыбярэжных балот уюноў. Пушніну выраблялі ў Бярэсце, на памежжы, дзе прадавалі купцам з Заходняй Еўропы ці з Масковіі.



*Аляксей Кавалевіч у сваім кабінеце.*

Але беззямелле душыла, не давала магчымасці разгарнуцца на ўсю моц вялікаму роду Кавалевічаў. І тады дзед па маці адважыўся ў пошуках новай зямлі і лепшай долі на вандроўку ў Сібір. Навізны там, вядома, было шмат, але настальгія па роднай зямлі вымусіла яго дзяцей вярнуцца назад на Беларусь.

Іх сям’я да вайны жыла ў Брэсце. Бацька, Рыгор Міхайлавіч, працаваў у порце экскаватаршчыкам, а маці, Ганна Андрэеўна, у тым жа порце поварам. Добрая, працавітая, вясёлая сям’я!

Бацьку Аляксей памятае як у зыбкай смузе. Штосьці вялікае і ласкавае… І надзейныя рукі, куды ён апускаўся, павіскваючы, пасля таго як бацька падкідаў яго да столі…

Бацька загінуў у самым канцы вайны, у красавіку 1945 года, пад Люблінам. Сыну Аляксею тады не споўнілася яшчэ і двух гадоў.

Цяпер усе клопаты па выхаванні сына ляглі на плечы маці. У пасляваенную разруху галоўнае было выжыць. І маці з Брэста з’язджае ў вёску Дзяменічы Камянецкага раёна да свайго роднага брата. На малако, на вясковае паветра. А калі праз тры гады Аляксей акрэп, вяртаецца зноў у Брэст.

Яны жылі ў Брэсце па ціхай вуліцы Папаніна, побач з ваенным шпіталем. У аднапакаёвай кватэры, дзе бедната вытыркалася з усіх кутоў.

Хоць і нялёгкім было маленства пасля вайны, але яго жыццёвае палатно было выткана і светлымі ніткамі.

Святам быў піянерскі лагер. Раніцай — горн, лінейка, днём — заняткі спортам, футбол, валейбол. А потым — паходы ў Белавежскую пушчу, якіх не забыць ніколі. І развітальныя вогнішчы ўначы на беразе старажытнай ракі.

Брэст пачынаецца з крэпасці. Быць хлапчуком у Брэсце — гэта значыць ведаць пра яе ўсё.

Крэпасць была пабудавана ў сярэдзіне XIX стагоддзя на месцы старажытнага горада, на

выспах, утвораных рэкамі Заходні Буг і Мухавец. Яе абарончая лінія складалася з чатырох бастыённых фартоў і падзялялася Заходнім Бугам і Мухаўцом на ўмацаванні: Кобрынскае, Валынскае, Цераспальскае.

З хлапчукамі яны любілі хадзіць да сцен цытадэлі. Цытадэль — гэта востраў, апаясаны замкнёнай двухпавярховай казармай даўжынёй каля двух кіламетраў і са сценамі двухметровай таўшчыні. У яе 500 казематах маглі размясціцца 12 тысяч салдат з неабходным для баявых дзеянняў рыштункам і запасам харчу.



*З жонкай Лідзіяй Майсееўнай.*

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, нямецкае камандаванне планавала захапіць у першыя гадзіны вайны горад Брэст і Брэсцкую крэпасць, размешчаныя на кірунку галоўнага ўдару групы войскаў «Цэнтр». У крэпасці быў малалікі гарнізон — шматлікія падраздзяленні знаходзіліся ў лагерах, на палігонах, на будаўніцтве ўмацаванняў. Здавалася, немцам нічога не прадвяшчала ўскладненняў.

Але яшчэ была воля тых, хто супраціўляўся. І хоць сапернік меў перавагу ў сілах амаль у 10 разоў, ён не змог прымусіць капітуляваць гарнізон крэпасці. Заставалася толькі адно — голадам і смагай прымусіць рускіх здацца ў палон. Абаронцам крэпасці даводзілася адбіваць у дзень па 6-8 атак. Фашысты пусцілі ў ход танкі, агнямёты, газы, падпальвалі і скочвалі з вонкавых валоў бочкі з гаручай сумессю. Гарэлі і бурыліся казематы, не было як дыхаць ад гару… Але калі ў чарговы напад ішла варожая пяхота, зноў аднекуль з руін выпаўзалі байцы, якія засталіся ў жывых, і ішлі ў рукапашную схватку. І перамагалі.

Толькі 23 ліпеня цяжкапаранены маёр П. Гаўрылаў і намеснік палітрука Г. Дзеравянка, апошнія арганізатары абароны, трапілі ў палон. А ў крэпасці яшчэ працягвалі гучаць стрэлы…

Аляксей Кавалевіч з брэсцкімі хлапчукамі падоўгу стаялі моўчкі ля сцен крэпасці, дзе былі пакінуты надпісы: «Памром, але з крэпасці не сыдзем», «Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма. 20.VII.41 г.».

А тут і не трэба было слоў. Тут была памяць, якая вучыла мужнасці, уменню выжываць у цяжкіх, часам невыносных умовах. Гэта былі чыста мужчынскія якасці, якія неабходны чалавеку на цяжкіх дарогах жыцця.

І калі парой, ужо ў сталыя часы, жыццё часам «даставала» Аляксея Кавалевіча, на памяць прыходзілі Холмскія вароты Брэсцкай крэпасці, чырвоная цэгла якіх уся была здзяўбана кулямі і асколкамі. І салдаты, якія былі за гэтымі крапаснымі сценамі. Вось тады жыццёвыя праблемы спрашчаліся, ужо не здаваліся такімі невырашальнымі.

Аляксей вучыўся ў шостай брэсцкай школе. Пасля заняткаў яны з братам, які быў на год маладзейшы, гадзінамі стаялі ў чарзе па муку і хлеб, каб атаварыць карткі. Маці не магла гэтага зрабіць — цэлы дзень была на працы.

Ён скончыў толькі восем класаў дзённай школы. Палічыў сябе цалкам сталым, каб у 16 гадоў прыйсці на дапамогу маці і падняць на ногі малодшага брата. А сярэднюю адукацыю вырашыў атрымаць у 14-й вячэрняй школе.

Ён уладкаваўся працаваць памагатым повара ў гарадскі трэст сталовых і рэстаранаў. Хутчэй за ўсё, на выбар прафесіі паўплывала маці, якая працавала таксама поварам. Хоць як сказаць. Бо калі хлапчукі ў Мухаўцы лавілі рыбу і затым рабілі з яе юшку, то поварам аднагалосна прызначалі Аляксея. Значыць, гэта ўменне ў яго ад прыроды. А плюс яшчэ навыкі… Нездарма ж кажуць, што самыя лепшыя повары ў свеце — гэта мужчыны.

На першую сваю зарплату Аляксей купіў сервант, на другую — радыёпрыёмнік з прайгравальнікам. Паступова кватэра ўдавы

забітага на вайне салдата набывала ўладкаваны выгляд.

Ён дагэтуль не можа забыць вочы маці, калі нечакана ў іх маленькі пакой унеслі новы сервант. Вочы ў яе шырока раскрыліся, здзівіўшыся ўбачанаму, затым з іх куточкаў выкаціліся чыстыя слёзы… Маці плакала ад радасці, што нарэшце ў хаце з'явіўся сапраўдны гаспадар, на якога можна абаперціся ў нялёгкім жыцці.

Ён нядоўга працаваў поварам. Неўзабаве яго прызначылі ў маладзёжнае кафэ загадчыкам вытворчасці, выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі гарадскога трэста сталовых і рэстаранаў г. Брэста.

Гэта былі часы спаборніцтваў. І Міністэрства гандлю Беларусі для заахвочвання пераможцаў дало траім камсамольцам з рэспублікі накіраванне на вучобу ў Маскву. У іх лік патрапіў і Аляксей Кавалевіч.

У 1964 годзе ён упершыню ўбачыў Маскву. Яна пакарыла правінцыяла сваёй прыгажосцю, паскораным рытмам жыцця. Тут хацелася быць, як гэта спявалася ў адной з песень, «усё вышэй, і вышэй, і вышэй…»

Ён вучыўся на тэхналагічным факультэце інстытута народнай гаспадаркі імя Пляханава. Вучыўся лёгка. Атрымліваў павышаную стыпендыю. Тады ён мог дазволіць сабе за стыпендыю схадзіць і ў кіно, і ў тэатр.

Яму прапанавалі застацца ў інстытуце, вучыцца далей у аспірантуры. Здавалася б, чаго тут мудраваць. Ад дабра дабра не шукаюць. Ды і сямейныя справы ўжо праясняліся — ён ажаніўся з масквічкай Лідай Заслаўскай, якая вучылася ў інстытуце мяса-малочнай прамысловасці. У яе бацькоў была кватэра, дзе можна было на першы час спыніцца.

Але нястрымна вабіла да сябе радзіма. І гэта сказана не для прыгожага слоўца. Кавалевіч адчуваў, як яму не стае тут захадаў над Заходнім Бугам, буйства персідскага бэзу і буйных зорак, якія скочваліся ў траву за рэчкай.

І ён кідае сталіцу і едзе ў свой родны Брэст.

Зранены як ніхто ў вайну, Брэст тады ўзмоцнена будаваўся, абнаўляўся. Ужо былі пабудаваны панчошачны камбінат, дывановы… Як на дрожджах рос Брэсцкі электрамеханічны завод…

У 1969 годзе Аляксею Рыгоравічу Кавалевічу прапанавалі пасаду дырэктара сталовай Брэсцкага электрамеханічнага завода.

Ён не прывык працаваць напаўсілы. Калі рабіў справу, то рабіў яе з размахам, з перспектывай, з тым каб людзям было прыемна. А інакш не варта і брацца.

Камбінат харчавання электрамеханічнага завода — гэта сапраўды вялікая справа. Толькі адных працаўнікоў больш дзесяці тысяч чалавек. Адной сталовай такую масу людзей не накорміш. Трэба адкрываць новыя пункты. Круціцца як вавёрка ў коле. У той час нервы ў яго гулі, нібы нацягнутыя правады пад шквалістым ветрам. І справа была пастаўлена як трэба. Нездарма камбінат грамадскага харчавання на працягу многіх гадоў быў адным з перадавых прадпрыемстваў Савецкага Саюза. Ён узнагароджваўся пераходзячым Чырвоным Сцягам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ. Два гады запар камбінат выступаў ініцыятарам Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва.

З вышыні пражытых гадоў сёння ўсё гэта гучыць анахранізмам. Іншае надвор'е ўжо на двары, іншы свет. Няма і вялікай краіны сацыялізму, якая арганізоўвала спаборніцтвы. Але засталіся людзі, якія аддаваліся тады працы самаахвярна, з творчым падыходам, уменнем і выдумкай. Менавіта такіх людзей зараз завуць прафесіяналамі. На іх заўсёды быў павышаны попыт. Да іх ліку належыць і Аляксей Рыгоравіч Кавалевіч.

У Брэсце яму прапанавалі працу намесніка дырэктара трэста сталовых і рэстаранаў. Праз два гады перакінулі ў Пінск, дзе ён узначаліў аналагічны трэст. А праз год Кавалевіч ужо з'ехаў з Беларусі.

Да гэтага яго вымусілі сямейныя акалічнасці. У жонкі памёр бацька, і засталася адна цяжкахворая маці. За ёй патрэбен быў догляд.

Яго не хацелі адпускаць з Беларусі. Ён быў ужо ў абойме кіраўнічых работнікаў, а такімі кадрамі тады не раскідваліся. Справу яго вырашаў тагачасны міністр гандлю Малочка, які і ўгаварыў партыйныя кадры даць «адпускнога» Кавалевічу. З рэкамендацыяй Міністэрства гандлю яго прынялі на работу ў Маскве, прызначыўшы дырэктарам фабрыкі-кухні № 2.

Яго зорная гадзіна прыйшлася на час маскоўскай Алімпіяды. Фабрыка-кухня




*З землякамі пасля ўскладання кветак да магілы невядомага салдата ля Крамлёўскай сцяны.*

Кавалевіча абслугоўвала гасцей і спартсменаў у Лужніках. Праца была кругласутачная, на знос. Але яны вытрымалі гэта выпрабаванне, паказалі сэрвіс на ўзроўні еўрапейскіх стандартаў. Пасыпаліся ўзнагароды, граматы і, як вынік, Аляксея Рыгоравіча прызначылі дырэктарам Калінінскага трэста сталовых, а затым — дырэктарам камбіната харчавання Міністэрства замежных спраў Расіі. Пасля была праца ў гасцінічным комплексе «Берлін».

* * *

Нашы продкі заўсёды верылі, што душы памерлых людзей, як птушкі, лунаюць у прасторы і чуюць галасы жывых. І ахоўвае іх у невядомасці вечны Зніч — бажаство, якое пасылае агонь з зямных глыбінь.

Нездарма павага да агню ва ўсёй Беларусі даведзена да глыбокай пашаны. У нас лічаць вялікім грахом тушыць вогнішча на зямлі, кастры ў начным, даючы магчымасць самаму агню знемагаць у бяссіллі і згасаць.

Нашу памяць заўсёды асвятляе нязгасны зніч. Сваімі языкамі полымя ён як быццам пытае: ці не заблудзіліся мы, забыўшыся пра пераемнасць? Ці не страцілі сваіх традыцый? Ці не згубілі сувязь з роднай зямлёй?

Беспрытульна ў гэтым свеце чалавеку, які забыўся пра свае вытокі. Нездарма кажуць: хто забывае мінулае, той не мае будучыні.

У далёкім краі памяць заўсёды з беларусамі. І грэе іх душы цяплом зніч продкаў.

Але, каб распаліць агонь, трэба мець агмень. І тады полымя ў ім, нібы жывая істота, будзе ціха распавядаць пра родную зямлю, пра сваіх дзядоў і прадзедаў.

Такім агменем для беларусаў у Расіі стаў гасцінічны комплекс «Берлін», які знаходзіцца ў Маскве. Тут размяшчаюцца адміністрацыйныя органы федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі». У любы час дня і ночы, калі ў гасцінічным комплексе даведаюцца, што ты беларус, то заўсёды прывецяць, дадуць прыстанішча і створаць цяпло ля яго.

Доўгі час гасцінічны комплекс «Берлін» узначальваў Аляксей Рыгоравіч Кавалевіч. Ён з'яўляўся таксама выканаўчым дырэктарам Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі і членам яе прэзідыума.

А яшчэ Аляксей Рыгоравіч стаяў ля самых вытокаў зараджэння беларускага руху ў Расіі. Як гэта адбывалася?

— Беларуская дыяспара ў Расійскай Федэрацыі лічыцца адной з самых арганізаваных і працаздольных. Але так не заўсёды было. З чаго пачыналі? — пытаю ў Кавалевіча.

— А з чаго пачынаецца рака? З маленькай крыніцы. Ледзь прыкметная яна ля паднsocks ўзгорка ці ў багністай мясцовасці. Ціха варушыць пясчынкамі на дне, здаецца,

ну што яна можа зрабіць сваім дзіцячым шэптам.

Але, працуючы і дзень і ноч, яна з зямных пластоў выбірае штосекундна па кроплі ваду, а кроплі затым збіраюцца ў земляную студню, са студні выцякаюць у раўчук. Па доўгай дарозе шматлікія раўчукі, злучыўшыся разам, ператвараюцца ў паўнаводную раку, якая нясе свае воды далей у мора і акіян.

Так і ў нас атрымалася. Памятаю, пасля развалу Савецкага Саюза ў Францішка Пятровіча Каўрыгі, тагачаснага першага намесніка міністра радыёэлектроннай прамысловасці, сабраліся сябры. Францішак Пятровіч родам з Маладзечанскага раёна, што амаль у самым цэнтры Беларусі. І сябры былі галоўным чынам з Беларусі. Гэта былы намеснік міністра грамадзянскай авіяцыі Віктар Міхайлавіч Курыла, генерал Валерый Іванавіч Красноўскі, банкіры Якаў Мікалаевіч Дубянецкі, Віктар Іванавіч Буката, былы галоўны санітарны ўрач і намеснік міністра аховы здароўя Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Кандрусёў... Усяго было за пяцьдзесят чалавек. Святкавалі 50-годдзе Францішка Пятровіча.

Вось і зайшла паміж намі тады гутарка пра тое, што жывём разрознена, рэдка збіраемся, мала сустракаемся. А трэба б часцей. Дакладна ўжо не памятаю, ды гэта і не так важна, але хтосьці прапанаваў стварыць аргкамітэт па заснаванні сур'ёзнай арганізацыі беларусаў, якія пражываюць у Расіі. Ідэя спадабалася ўсім. Не адкладаючы справу на доўгі час, тады ж на вечары і прызначылі аргкамітэт. У яго ўвайшлі Францішак Пятровіч Каўрыга, Віктар Міхайлавіч Курыла і ваш пакорны слуга, — распавядае Аляксей Рыгоравіч Кавалевіч.

Характэрна тое, што юбілей Каўрыгі адзначалі ў рэстаране па вуліцы Чырвонаказарменнай. Гэта Лефортава, там, дзе выстаўлены боцікі Пятра I. Як з боціка Пятра I народжаны быў расійскі флот, так і з юбілейнага вечара Францішка Пятровіча Каўрыгі пачалося стварэнне беларускай арганізацыі.

Спачатку спыніліся на зямляцтве. Але потым прыйшлі да думкі, што зямляцтва — гэта невялікае аб'яднанне, замкнёнае ў прасторы і заснаванае толькі на насталыгіі па роднай зямлі. Мы ж прагнулі дзеянняў на карысць Беларусі. І ў гэты працэс павінны быць залучаны не толькі мы, але і іншыя беларусы, якія пражываюць ва ўсіх кутках Расіі. Таму асацыяцыя культурных і эканамічных сувязей Расіі з Беларуссю ў нашым разуменні была менавіта той структурай, якая дапамагла б рэалізаваць задумкі і планы.

Першы ўстаноўчы з'езд асацыяцыі культурных і эканамічных сувязей Расіі з Беларуссю прайшоў у Падмаскоўі ў пансіянаце «Чайка», уласнасці Маскоўскага гаркама партыі. Сабраліся на з'ездзе звыш 100 беларусаў. На першым устаноўчым сходзе прэзідэнтам асацыяцыі быў выбраны Мікалай Аляксандравіч Панічаў, тагачасны міністр машынабудавання і станкабудавання, яго першым намеснікам — Францішак Пятровіч Каўрыга, выканаўчым дырэктарам прызначылі Аляксея Рыгоравіча Кавалевіча.

Калі засноўвалі асацыяцыю, яны не ставілі перад сабой ніякіх палітычных мэт. Гэта было адной з умоў яе стварэння, што і прапісалі ў Статуце. Ім не патрэбны былі палітычныя бітвы і баталіі, яны не жадалі ніякіх узрушэнняў.

Да чаго імкнуліся, што было галоўнай задачай? Вядома, аб'яднанне ўсіх беларусаў, якія жывуць у Расіі. Яны павінны былі даведацца, што ў Маскве ёсць цэнтр па згуртаванні беларускіх сіл, што тут можна атрымаць разнастайную інфармацыю, сюды можна ўнесці прапанову, каб яе абмеркаваць.

Колькасць членаў асацыяцыі з кожным годам павялічвалася. Спачатку толькі ў Маскве яе актыўнымі членамі сталі звыш 300 чалавек. У рэгіёнах — Санкт-Пецярбургу, Наварасійску, Нечарназемлі, Сібіры, на Далёкім Усходзе — гэта яшчэ тысячы і тысячы. Так што іх сілы дужэлі з кожным годам.

Актыўна ўключыўся ў працу прэзідэнт асацыяцыі Мікалай Аляксандравіч Панічаў. Яму шмат чаго ўдалося зрабіць па зблíжэнні эканомік Расіі і Беларусі. Неаднойчы з Юрыем Міхайлавічам Лужковым ездзілі ў Мінск, дзе сустракаліся з кіраўніцтвам рэспублікі, часта бывалі на прадпрыемствах. Думаю, што тыя эканамічныя адносіны, якія існуюць цяпер паміж нашымі народамі, былі закладзены яшчэ тады, у пару зараджэння асацыяцыі культурных і эканамічных сувязей. І прыемна тое, што да павелічэння тавarнага абароту паміж Расіяй і Беларуссю датычныя і мы, што ў гэтай справе ёсць вялікі ўнёсак і беларускай дыяспары.

Але ішоў час. Ён унёс карэктывы ў дзейнасць нашай грамадскай арганізацыі. Неўзабаве прыйшлося памяняць і яе назву.

Гэта было звязана з новым законам Расійскай Федэрацыі «Аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі». Паводле гэтага закона дзяржава не ўдзельнічае ў фінансаванні дзейнасці таварыстваў, зямляцтваў, аб'яднанняў, асацыяцый. Для сваёй дзейнасці яны знаходзяць фундатараў. Іншая справа, калі арганізавана нацыянальна-культурная аўтаномія. Тады фінансаванне ажыццяўляецца за кошт федэральнага бюджэту, бюджэтаў суб'ектаў РФ, мясцовых бюджэтаў, а таксама спецыяльна сфарміраваных для гэтых мэт федэральных, рэгіянальных і мясцовых фондаў. Важна і тое, што паводле новага закона дзяржаўная і муніцыпальная маёмасць магла быць перададзена ва ўласнасць ці арэнду нацыянальна-культурнай аўтаноміі. І калі Міністэрства нацыянальнай палітыкі Расіі прапанавала беларусам — дарэчы, адным з першых — заснаваць нацыянальна-культурную аўтаномію, яны пагадзіліся.

Была створана рэгіянальная сетка нацыянальна-культурных аўтаномій па ўсёй Расіі. Пачалася вялікая падрыхтоўчая работа. У рэгіёны Расіі былі разасланы інфармацыйныя лісты, якія падрабязна раскрывалі парадак афармлення неабходных дакументаў пры стварэнні НКА. Вялікую дапамогу аказалі работнікі Пасольства Беларусі ў Расіі. Яны сістэматычна ездзілі ў камандзіроўкі ў рэгіёны Расіі і на месцах аказвалі метадычную і прававую дапамогу кіраўнікам ініцыятыўных груп па стварэнні НКА. Да 1999 года гэтая вялікая падрыхтоўчая праца галоўным чынам завяршылася.

Першы ўстаноўчы з'езд адбыўся 2 красавіка 1999 года ў будынку Міністэрства нацыянальнай палітыкі Расіі. З'езд вырашыў галоўную задачу — стварыў федэральную нацыянальна-культурную аўтаномію (ФНКА) «Беларусы Расіі». Гэта была вехавая падзея, якая дазволіла арганізаваць і рэгламентаваць у рамках прававога поля дзейнасць беларускай дыяспары, што спрыяла трансфармацыі беларускіх зямляцтваў у нацыянальна-культурныя аўтаноміі і ўмацавала іх матэрыяльную базу.

Старшынёй Рады Федэрацыі НКА «Беларусы Расіі» на з'ездзе быў выбраны Францішак Пятровіч Каўрыга. Такім чынам, праз восем гадоў было рэалізавана жаданне маскоўскіх беларусаў, якое было выказана на юбілейным вечары Ф. П. Каўрыгі, аб'яднаць усіх беларусаў і стварыць у Расіі вялікую арганізацыю.

З таго часу прайшло больш дзесяці гадоў. Ажывілася праца беларускіх грамадскіх арганізацый у культурным кірунку. У рэгіёнах Расіі праводзяцца масавыя святы, фэсты, арганізоўваюцца дні культуры Беларусі, наладжваецца праца нядзельных школ, бібліятэк. З кіраўніцтвам некалькіх школ гарадоў Сочы і Краснадара абмеркавана магчымасць вывучэння беларускай мовы. У Цюменскім дзяржуніверсітэце адкрыта спецыялізацыя «Беларуская мова і літаратура», дзе навучаюцца 16 студэнтаў.

Але не ўсё яшчэ зроблена ў зблiжэнні двух народаў. Усё яшчэ даюць збоі эканамічныя ўзаемаадносіны. На апошнім з'ездзе было вырашана, што эканамічны вектар будзе вызначальным у дзейнасці ФНКА «Беларусы Расіі». Іх сілы будуць накіраваны на паглыбленне сувязей Беларусі з губернямі Расійскай Федэрацыі. Тут беларуская дыяспара будзе шукаць прымяненне сваім сілам, адгэтуль будзе дапамагаць сваёй карэннай радзіме.

* * *

Калі б Аляксею Рыгоравічу давялося паўтарыць жыццё спачатку, то прайшоў бы яго сапраўды так, як і цяперашняе. Ён лічыць, што жыццё ў яго атрымалася. Зараз працуе выканаўчым дырэктарам некамерцыйнага партнёрства Рады прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Масквы. Праца цікавая, займальная.

Шмат часу займаюць грамадскія справы. Гэта, вядома, справы беларускія. Паранейшаму Аляксей Рыгоравіч з'яўляецца чальцом Рады ФНКА «Беларусы Расіі». Тут таксама працы безліч.

У яго надзейны сямейны тыл. У хаце заўсёды лад. Задаволены сваімі дочкамі. Старэйшая, Ірына, скончыла інстытут замежных моў, прадпрымальніцкую акадэмію і працуе зараз па кантракце ў Турцыі. Малодшая, Ганна, таксама атрымала вышэйшую эканамічную адукацыю і знаходзіцца побач з бацькамі ў Маскве. Род Кавалевіча прарос ужо ўнукам і дзвюма ўнучкамі.

Часам на Кавалевіча находзіць настальгія. Тады, калі дазваляе магчымасць, едзе ў Брэст, каб, як сказаў паэт, «пераведаць родных, блізкіх, дарагіх».

***Пераклад Яўгена СЯНКЕВІЧА.***

# ЧЛЕН САВЕТА ФЕДЭРАЦЫІ

Зімняя Цюмень бурліла палітычнымі страсцямі. У разгары была выбарчая кампанія. Выбіралі дэпутатаў у Дзяржаўную Думу, а таксама мэра Цюмені.

Ён, выхадзец з Беларусі, удзельнічаў у гэтых выбарах. Таму сустрэча са мной была кароткай. Сказаў, што будзе гатовы на працяглую размову толькі пасля выбарчага марафона.

Сустрэцца з ім давялося ўжо ў Маскве. Асенні вецер зрываў кучаравую і пажоўклую лістоту і кідаў яе на брук Крамлёўскай плошчы. Адсюль, ад сцен старадаўняга Крамля, было зусім недалёка да месца работы майго героя. Сёння такія, як ён, увасабляюць сабой воблік новай Расіі.



*Сцяпан Кірычук.*

Давайце пазнаёмімся з ім бліжэй.

* * *

Сцяпан Кірычук нарадзіўся ў вёсцы Мазуры, што ў Кобрынскім раёне. Вёска стаіць поруч з трактам, які вядзе з Брэста на Пінск.

Яны, як той старажытны сялянскі род, жылі вялікім замкнутым двагом, дзе было некалькі пабудоў, свой калодзеж і невялікі сад. У іхнім родзе змяшаліся сваякі Сцяпана як па бацькоўскай, так і па мацярынскай лініі: браты бацькі Захар і Мікалай, сёстры Праскоўя і Валянціна, цётка Фядора, шматлікія стрыечныя браты і сёстры.

Кіраваў родам дзед Якаў. Раніцой, як звычайна, аддаў распараджэнні сямейнікам:

— Толя будзе пасвіць цялят. Мікалай з Захарам вывозяць гной, Параска і Валя падграбаюць сена. А ты, Сцяпан, ідзі чытай свае кніжкі. Гэта таксама работа, бадай, куды цяжэйшая, чым наша.

Дзед Якаў бачыў здольнасці Сцяпана і верыў, што з яго выйдзе вялікі вучоны чалавек. Таму і даваў паблажку ўнуку па гаспадарцы.

У іхнім садзе расла вялікая груша. Ёй, магчыма, было за сто гадоў. Плады выраслалі буйныя, падобныя на вялікія гліняныя збанкі. Першую спелую грушу, жоўтую, напоўненую сокам, дзед Якаў дарыў любімаму ўнуку Сцяпану.

Праваруч ад вёскі раскінуўся змешаны лес. Там, у густым падлеску, выраслі сосны і бярозы. Зрэдку трапляліся дубы і ліпы.

Лявей Мазураў стаяў сасновы бор. На закаце дня ствалы дрэў адлівалі чыстай меддзю. Рассеянае святло падала на зямлю і залаціла рыжую ігліцу.

У гады маленства Сцяпан бегаў у лес па грыбы. У яго там былі свае запаведныя мясціны. Ведаў, у якім акопе можна знайсці баравік, дзе можна нарэзаць падбярозавікаў і падасінавікаў. Сасновы бор восенню адорваў гузікамі-маслякамі.

Ужо калі працаваў у Сібіры, прыносіў з тайгі ў кошыку альхоўкі. Іх там ніколі не бяруць. Лічаць непрыдатнымі для ежы.

Што ж гэта за грыб такі — альхоўка?

Рыжанькі, як сонца, падобны на лісічку, але куды большага памеру. Ён расце выключна ў альховым лесе.

Збіраць альхоўкі яго навучыў бацька. Яны прыносілі іх цэлымі кашамі. Альхоўкі вельмі смачныя засоленымі. Ды яшчэ тады, калі на стале маладая бульба. Ад такой смакаты за вушы не адцягнеш.

Пачатковую школу Сцяпан Кірычук закончыў у роднай вёсцы. Васьмігодку — ужо ў Дзямідаўшчыне, што за тры кіламетры ад Мазураў.

А далей вучыцца трэба было ў Гарадцы, гэта адзінаццаць кіламетраў ад роднай вёскі. Здымаць кватэру не было за што: бацька і маці — калгаснікі, на працадні атрымлівалі

дробязь. І Сцяпан вырашыў паступаць у геалагічны тэхнікум.

Выбраў Лоеўскі геалагічны тэхнікум, што на Украіне. Паслаў дакументы, хутка прыйшоў выклік.

Ды наконт вучобы запярэчыла маці. На той час моднай была песня «Держись, геолог, крепись, геолог, ты ветра и солнца брат». Паслухала яе маці і падумала, што яе Сцяпан будзе ўвесь час лазіць па тых самых гарах. А гэта небяспечна. І адразу ў слёзы: не пушчу я цябе ні ў якія геолагі!

Старэйшая сястра Сцяпана Насця тады працавала ў Брэсце. Вось і вырашана было, што яна ўладкуе брата ў самы лепшы тэхнікум.

Самым лепшым аказаўся чыгуначны тэхнікум. Але туды быў і самы вялікі конкурс. Сцяпан здаў экзамены, атрымаў дзве пяцёркі і чацвёрку і без праблем стаў студэнтам прэстыжнай сярэдняй навучальнай установы.

Закончыў тэхнікум з адзнакай. Меў права выбару, куды паехаць. І выбраў той край, пра які больш за ўсё спявалі песні. Гэта была Цюменская вобласць.

Зімой 1968 года прыбыў у Цюмень. І прырос да горада сэрцам. Поўнач стала яго другой радзімай.

Больш дваццаці гадоў адпрацаваў на чыгунцы. Прайшоў усе вехі — ад рабочагапуцевіка да намесніка начальніка Цюменскага аддзялення Свярдлоўскай чыгункі.

Ён любіць людзей. Любіць кантактаваць з імі. Вельмі камунікабельны чалавек. І нічога дзіўнага ў тым не было, што ён пачаў актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці горада. Сцяпана Кірычука заўважылі і выбралі дэпутатам у раённы Савет горада Цюмені, а ў 1990 годзе ён стаў старшынёй Калінінскага раённага Савета народных дэпутатаў, праз год — мэрам Цюмені.

Яму падабалася гэтая работа. Сцяпан Міхайлавіч Кірычук быў даступны людзям, шкадаваў іх. Гэта перашкаджала часам прыняццю больш жорсткіх рашэнняў. Цяпер ён шкадуе і аб тым, што ў пачатку 90-х гадоў было многа пустазвонства ва ўрон перабудове гарадскога жыцця. Колькі тады марна страцілі часу!

Аднак галоўнае, што ён зрабіў тады і што робіць усё жыццё, — гэта дабро для людзей. Яму не сорамна хадзіць па горадзе, дзе ён працаваў мэрам. Цюмень змянілася. Яна сапраўды стала сталіцай Заходняй Сібіры, яе культурным цэнтрам. Новыя дамы, добраўпарадкаваныя вуліцы, працуючыя прадпрыемствы — усё радуе вока, усё прыемна душы.

Чаго ўсё гэта каштавала яму?

Наконт гэтага Кірычук жартуе: нічога не каштавала, апроч таго, што з чорнага ператварыўся ў белага.

Чорныя валасы яго цяпер пакрыліся сівізной. Ён стаў як той умудроны жыццём сівы лунь, які жыве ў палескім лесе. Гэта і зразумела: камандзіры заўсёды сівеюць рана.

Ужо калі не быў мэрам, па ініцыятыве многіх прадпрыемстваў і арганізацый Цюменская гарадская Дума прысвоіла Сцяпану Міхайлавічу Кірычуку званне «Ганаровы грамадзянін горада Цюмені». Гэта адказ на пытанне, што ён зрабіў для гэтага горада.

Кірычук прыняў прапанову губернатара Цюменскай вобласці прадстаўляць інтарэсы рэгіёна ў Федэральным Сходзе Расійскай Федэрацыі.



*З мэрам горада Хабараўска А. Сакаловым.*




*Выступленне ў Савеце Еўропы (г. Страсбург).*

Аказаны давер ён апраўдвае і ў Маскве. Таму што заўсёды прывык добра выконваць любую работу.

У Савеце Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі С. Кірычук з'яўляецца старшынёй Камітэта па пытаннях мясцовага самакіравання і членам Камісіі па натуральных манаполіях. Займаецца двума накірункамі: пытаннямі натуральных манаполій — нафта, газ, чыгунка, электрычнасць, транспарт — і мясцовым самакіраваннем.

Па першым накірунку ўдзельнічае ў розных канферэнцыях, выступае з дакладамі, абмяркоўвае кардынальныя пытанні і праблемы натуральных манаполій. Займаецца заканатворчасцю па мясцовым самакіраванні. У 2006 годзе ўзначаліў Агульнарасійскі Кангрэс муніцыпальных утварэнняў, які аб'ядноўвае больш за 24 тысячы муніцыпалітэтаў з 81 суб'екта Расійскай Федэрацыі. Афіцыйна ягоная пасада называецца так: прэзідэнт Агульнарасійскага Кангрэса муніцыпальных утварэнняў.

Сцяпан Міхайлавіч Кірычук — член міжпарламенцкай камісіі Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі і Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжрэгіянальным супрацоўніцтве. Узначальвае рабочую групу ў Савеце Федэрацыі па маніторынгу практыкі прымянення Федэральнага закона аб энергазберажэнні і павышэнні энергічнай эфектыўнасці.

Работы стае з раніцы да вечара. Сумаваць няма калі. Ды па працы і пашана: сёлета Указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ўзнагароджаны ордэнам «За заслуги перед Отечеством» IV ступені.

Кірычук прадстаўляе Расійскую Федэрацыю ў Савеце Еўропы. І, як сапраўдны віцязь, змагаецца за інтарэсы сваёй малой Радзімы — Беларусі. Сцяпан Міхайлавіч штогод на працягу вось ужо шасці гадоў задае Федэральнаму сакратару Савета Еўропы адно і тое ж пытанне: «Чаму Беларусь не прымаюць у Савет Еўропы?» — і ўсе гэтыя гады атрымлівае няўцямныя адказы.

Нездарма кажуць, што кропля і камень точыць. Кірычук бачыць, што ўсё большая колькасць акружаючых яго людзей у Савеце Еўропы падтрымлівае яго. Усе ўжо разумеюць, што Беларусь — гэта такая ж еўрапейская краіна, як і іншыя, са сваім каларытам, сваімі цудоўнымі людзьмі, са сваімі вартасцямі і, мабыць, сваімі недахопамі. І Сцяпан Міхайлавіч верыць, што хутка настане час, калі Беларусь зойме сваё ганаровае месца сярод еўрапейскіх дзяржаў.

* * *

...Адна біяграфія. Адзін лёс. Цяжкім шляхам ішоў Сцяпан Кірычук да вяршынь улады. Аднак беларуская настойлівасць дазволіла яму заняць высокую пасаду ў вышэйшым органе ўлады Расіі. Дарогу ў дзяржаўную расійскую эліту праклалі яго розум, выключная працаздольнасць і ўменне аддаць усе сілы той справе, якой ён служыць.

***Пераклад Васіля БОХАНА.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# «ДРУКАР КНІГ ДАГЭТУЛЬ НЯБАЧАНЫХ»

***Сярод слаўных ураджэнцаў зямлі берасцейскай і заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне — знакаміты Іван Фёдараў, якога па традыцыі нязменна называюць рускім. Аднак найбольш дасведчаныя даследчыкі даўно сумняваюцца ў менавіта рускім ягоным паходжанні. Як і схільны да таго, што ў сапраўднасці ён быў зусім і не Фёдаравым, а Федаровічам. Прынамсі, падобнай думкі прытрымліваецца вядомы знаўца гісторыі кнігадрукавання Яўген Неміроўскі. Ён жа настойвае, што І. Фёдараў нарадзіўся ў Піткавічах, якія адносіліся да Навагрудскага павета, а цяпер знаходзяцца ў Баранавіцкім раёне. Тым больш цікава яшчэ раз перагарнуць вядомыя і малавядомыя старонкі жыцця і дзейнасці таго, хто ўвайшоў у гісторыю як «друкар кніг дагэтуль нябачаных».***

## ЦІ КУПЛЯЦЬ КАТА Ў МЯШКУ



*Іван Фёдараў.*

Слуга князя Астрожскага Пётр Рынфлейн спяшаўся ў горад Львоў. Сама па сабе гэтая паездка не надта вылучалася з шэрагу іншых спешных адлучэнняў яго з Астрога, бо Рынфлейн у Канстанціна Канстанцінавіча з’яўляўся пасланцом па асабліва важных даручэннях. Аднак дагэтуль Рынфлейн, хоць і пабываў шмат дзе — наведваўся ў Кракаў і Варшаву, Вільню і Кіеў, нават выязджаў у далёкія краіны, — у Львоў нячаста завітваў, а ўжо нават гэта выклікала ў яго пэўнае задавальненне, бо заўсёды прыемна бліжэй пазнаёміцца з горадам. Але незвычайнасць чарговага даручэння Астрожскага адчувалася ў іншым, і яно, канечне ж, было куды больш істотнае. Рынфлейн выбраўся ў дарогу не з пустымі рукамі: зашыў пад падкладкай кафтана пісьмо-запрашэнне свайго гаспадара да вядомага львоўскага друкара Івана Фёдарава.

Папярэднічала гэтай паездцы тое, што Астрожскі, застаючыся нязменным прыхільнікам праваслаўя і бачачы, як каталікі ўсё больш умацоўваюць свае пазіцыі, вырашыў заснаваць у Астрогу ўласную друкарню, каб выпускаць у ёй кнігі, якія б прапагандавалі праваслаўную веру, а ў далейшым збіраўся друкаваць і нават такія, што давалі б адпор ягоным рэлігійным праціўнікам. Сярод ягоных аднадумцаў былі рускі князь Андрэй Курбскі, які, пакінуўшы Маскву, знайшоў прыстанішча ў родавым замку Астрожскіх, а таксама вучоны грэк Кірыл Лукарыс. Каб больш зацікавіць Фёдарава на пераезд, яны прапаноўвалі яму і пасаду аканома ў Дзерманскім манастыры. Угаварыць Фёдарава на пераезд і мусіў Рынфлейн.

Нарэшце паказаўся прыгарад Львова. Пахілыя, амаль урослыя ў зямлю хаты, праўда, ніяк не сведчылі аб тым, што гэта горад, і толькі калі праехалі яшчэ крыху, пачалі сустракацца цагляныя будынкі, але яны былі аднапавярховыя і не надта вылучаліся сваім знешнім выглядам. Аднак бліжэй да цэнтра

малюнак пачаў мяняцца. Нізкія пабудовы саступілі месца высокім, у два, а то і тры паверхі дамам з невялікімі балконамі, якія навісалі над вуліцай, бо яна была вузкай, нават залішне, быццам сціснутая з абодвух бакоў камяніцамі.

Рынфлейн азіраўся па баках, выбіраючы, у каго б даведацца, як патрапіць да Фёдарава, а што чалавек ён у горадзе вядомы — не сумняваўся. Што гэта і сапраўды так, пераканаўся, калі загаварыў з двума манахамі, якія крочылі насустрач.

— А хто яго не ведае, — адказаў старэйшы па ўзросце, а малодшы дадаў з гонарам:

— Фёдараў — першадрукар наш.

Рынфлейн паспяшаўся па названым адрасе.

Насустрач яму выйшаў шырокі ў плячах, з доўгай густой барадой, якая, відаць, даўно пасівела, бо спрэс нагадвала сабой вялікі кавалак белай ваты, немалады мужчына. Павітаўшыся і нават не спытаўшы, навошта ён спатрэбіўся наведвальніку, назваўся:

— Іван Фёдараў.

— Пётр Рынфлейн, — прагучала ў адказ.

Даведаўшыся, што перад ім слуга па асабліва важных даручэннях князя Астрожскага, Фёдараў узрадаваўся, нібыта толькі і чакаў такога пасланніка.

— О, пра Астрожскага я нямала чуў добрага, — па тым, як гэта было сказана, не заставалася сумнення, што ён і сапраўды неабыякавы да таго, што робіцца ў Астрогу.

— Канстанцін Канстанцінавіч мяркуе друкарню адкрываць...

— Друкарню? — Фёдараў задумаўся. — Гэта цікава...

— Я ж для таго і прыехаў, каб вас запрасіць у Астрог. Вось, калі ласка, ліст вам ад самога князя, — з гэтымі словамі Рыфлейн адгарнуў крысо кафтана і папрасіў: — Ці не знойдзецца ў вас чаго-небудзь вострага?

Здзіўлены Фёдараў падаў яму доўгі нож для разразання паперы. Рынфлейн усміхнуўся:

— Лепш бы што-небудзь меншае. Ды нічога, спраўлюся. — Пётр, лоўка арудуючы нажом, хоць з-за вялікіх памераў яго гэта было не так і проста, пачаў старанна распорваць падкладку. Толькі калі патлумачыў: «Самая надзейная схова», — Фёдараў зразумеў, што да чаго. — Калі ласка, — Рынфлейн падаў яму невялікі аркуш паперы.

Па меры таго як Фёдараў чытаў яго, ягоны твар станавіўся ўсё больш засяроджаным, але хутка роздумнасць змянілася заклапочанасцю:

— Не ведаю, што і адказаць вам.

— Вы сумняваецеся, што князь Астрожскі ажыццявіць задуманае?

— Не сумняваюся, але ж не купляць ката ў мяшку.

— Пане Фёдараў, я разумею вашы ваганні, аднак няўжо думаеце, што для вас знойдзецца нейкі іншы, больш прывабны варыянт?

Іншага варыянту ў Фёдарава якраз і не было, але і згаджацца адразу не збіраўся. Асабліва прымаючы пад увагу тое, што яму прапаноўвалі па сутнасці ўзначаліць гаспадарку манастыра, а наколькі клопатныя фінансавыя справы, мог пераканацца неаднойчы, калі выбіваў грошы на выданне сваіх кніг, распаўсюджваў гэтыя кнігі, шукаючы пакупнікоў, а затым месяцамі чакаў разліку за прададзены тавар і не заўсёды атрымліваў яго своечасова, дый нярэдка сума, якую аддавалі яму, аказвалася нашмат меншай за тую, на якую разлічваў.

— Не ў адным варыянце справа. Мне трэба падумаць.

— І як доўга?

— Мяркую, што месяца хопіць.

— А ці не замнога?

— Месяц, а іначай у Львове і застануся.

Рынфлейну нічога не заставалася, як пагадзіцца:

— Няхай і месяц, — нарэшце пагадзіўся Рынфлейн, — так і скажу князю. А вы, пане Фёдараў, толькі не перадумайце.

## АДЗІН У ПОЛІ НЕ ВОІН

Канстанцін Канстанцінавіч, пасля вяртання Рынфлейна даведаўшыся пра ўсё, абурыўся:

— Цану набівае!

— Не набівае, а ведае сабе цану, — спакойна ўдакладніў Курбскі, якога Астрожскі запрасіў разам з Лукарысам, каб сумесна абмеркаваць, як быць далей.

— Такіх Фёдаравых, калі захачу, — не здаваўся Астрожскі, — не аднаго знайду.

— Не знойдзеш, князь, — было відавочна, што Лукарыс на баку Курбскага. — І ў Масковіі, і ў Княстве роўных Фёдараву няма.

— Атрымліваецца, я павінен згадзіцца і чакаць месяц? — паспакайнеў Канстанцін Канстанцінавіч.

— Іншага выйсця няма, — пацвердзіў Курбскі.

Астрожскі засмяяўся: ён умеў дастаткова хутка як заводзіцца, так і адыходзіць:

— У такім разе здаюся: адзін у полі не воін.

Праз нейкі месяц Фёдараў паведаміў, што з прапановай згодзен, а ў хуткім часе і сам з'явіўся ў Астрогу. Праўда, адразу ж крыху засмуціўся. Меркаваў, што не марудзячы зможа заняцца кнігадрукаваннем, а ў манастыры стане бываць наездамі. Але, як высветлілася, для будучай друкарні набыта яшчэ не ўсё абсталяванне. Да ўсяго Астрожскі надае немалое значэнне ўпарадкаванню спраў у манастыры, таму трэба было ехаць у манастырскую вёску Куніна.

Таму і адправіўся ў Дзерманскі манастыр, спадзеючыся, што там затрымаецца нядоўга, у горшым выпадку на год. Але гэты год для яго аказаўся настолькі турботным, што часам пачынаў шкадаваць, навошта згадзіўся на пераезд. Хутка мусіў прызнацца сабе, што з яго кепскі аканом, а заняцце markednie рознымі фінансавымі, а ў большай ступені гаспадарскімі справамі займала шмат часу. Да ўсяго жыхары Куніна, будучы праваслаўнымі, пастаянна варагавалі з насельнікамі суседняга Спасава, дзе ў асноўным жылі каталікі. А яшчэ суседзі ніяк не маглі канчаткова вызначыцца, дзе пралягае мяжа паміж іхнімі землямі. Справа даходзіла да пагромаў, а то і да падпалу дамоў. Каб патушыць канфлікт, даводзілася ўмешвацца ўладам, і Фёдарава неаднойчы выклікалі ў суд. Яго абурала, што Астрожскі з-за сваёй непрымірымасці да каталікоў па сутнасці патураў сваім падданым і ніяк не асуджаў іх. Аднойчы нават заявіў:

— Сваіх у крыўду не дам. Калі спатрэбіцца, магу і на суд паўплываць, а каталіцызму не месца каля маіх уладанняў.

Едучы ў Куніна, Фёдараваў меркаваў, што зробіць застаўкі для будучых кніг, зможа пачытаць неабходную літаратуру. Але гэта ўдалося толькі позняй восенню і зімой, калі ў манастыры адсутнічалі сезонныя работы. Тады і змог наведацца да сяброў у Львоў, і нават здзейсніў паездку ў Харкаў. Аднак, калі пачалася чарговая вясна, пра гэта і думаць перастаў, бо сяўба і ўборка ўраджаю ў манастыры станавілася найбольш клопатнай часінай...

## ХОПІЦЬ БЫЦЬ АКАНОМАМ

У Астрог прыехаў пасля таго як сабралі ўраджай.

— Мой галоўны гаспадарнік, — засмяяўся Астрожскі, які хоць і бачыў, што справы ў манастыры ідуць не так, як трэба, але мусіў усё ж трымаць Фёдарава на пасадзе аканома, бо не хацелася шукаць яму замену.

— Князь, ты ведаеш, які з мяне гаспадарнік! — Фёдараў не збіраўся гуляць у хованкі.

— Навошта так песімістычна?

— Кожны павінен займацца сваёй справай.

— А хіба я супраць? Адкрыю друкарню і паклічу цябе. А пакуль патрывай год-другі.

— Датрываўся!

Тое, як гэта было сказана, прымусіла Астрожскага здрыгануцца. Ніхто дагэтуль з ім падобным тонам не размаўляў, і князь гатовы ўжо быў паставіць Фёдарава на месца, даўшы раз і назаўсёды зразумець, хто тут гаспадар. І ён бы гэта зрабіў, калі б Фёдараў дазволіў сабе штосьці падобнае раней, але цяпер Канстанцін Канстанцінавіч паспеў пераканацца, што ён і сапраўды той чалавек, які патрэбен яму ў друкарні. Таму не паддаўся эмоцыям, паспрабаваў супакоіць яго:

— Навошта так. Я ж цябе заўсёды гатовы падтрымаць.

— Падтрымаць? — Фёдараў адступаць не збіраўся. — То і падтрымай, княжа!

— І што я павінен зрабіць?

— Забраць мяне з манастыра.

— Але ж друкарня яшчэ не гатовая.

— Вырашай, князь, інакш...

Што хаваецца за гэтым «інакш», для Астрожскага было зразумела. Калі не пойдзе яму насустрач, то Фёдараў пакіне Астрог. Таму мусіў згадзіцца:

— Так і быць, здавай свае справы, «аканом»!

Аднак, як хутка пераканаўся, да паразумення якраз яшчэ далёка. І асабліва прыкра было з-за таго, што гэтае непаразуменне з боку Канстанціна Канстанцінавіча звязана з самым галоўным, без чаго, у рэшце рэшт, і

немагчыма гаварыць аб паспяховым разгортванні кнігадрукавання ў Астрогу.

Астрожскі па ўласнай ініцыятыве ці з падачы Лукарыса, а хутчэй за ўсё адначасова з ім, прыйшоў да высновы, што першай кнігай, якая выйдзе ў новай друкарні, павінна стаць Біблія. Фёдараў, зразумела, супраць гэтага нічога не меў, але яго здзівіла тое, што ні Астрожскі, ні Лукарыс не ведаюць, наколькі чакаецца працаёмкая работа. Ні адзін, ні другі і слухаць не хацелі, калі ён пачаў даводзіць, што на гэта некалькіх месяцаў мала. Асабліва здзівіўся князь. Стваралася такое ўражанне, што падазрае яго ў нежаданні паспяшацца:

— Іншая рэч, калі б ты працягваў працаваць у манастыры, тады б сапраўды часу не ставала, а цяпер...

— Не ў манастыры справа.

— Нічога не разумею. Ты ж маеш такі вопыт у друкаванні кніг.

— Не ў адным вопыце справа, княжа.

— Тады ў чым?

## МАРЦІРА КНІЗЕ НЕ ПЕРАШКОДА

...Дакладная дата нараджэння Івана Фёдарава не ўстаноўлена. Адбылося гэта каля 1510 года. Выказвалася меркаванне, што нарадзіўся ён на Ноўгарадчыне, называліся і іншыя месцы, але доўгі час ні для каго не з'яўлялася сумненнем, што Фёдараў па нацыянальнасці — рускі. Не ўзнікала і сумнення наконт таго, што гэта яго сапраўднае прозвішча.

Аднак, як высветлілася, ніякі ён і не Фёдараў, а Федаровіч, і быў заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне беларусам. Першыя падставы так меркаваць з'явіліся пасля таго, як даследчыкі ўважліва вывучылі ягоны аўтограф.

Гаворка ідзе пра ліст Фёдарава, пасланы ім саксонскаму курфюрсту Аўгусту, дарэчы, напісаны на латыні, што ўжо сведчыць аб высокай адукаванасці першадрукара. На карысць таго, наколькі ён быў таленавітым чалавекам, гаворыць і тое, што Фёдараў уласнаручна адліваў гарматы і нават вынайшаў шматствольную марціру з часткамі, якія маглі ўзаемна замяняцца. Менавіта курфюрсту Аўгусту ён і прапанаваў апошняе сваё вынаходніцтва, апісаўшы спосаб прымянення такой гарматы, роўнай якой дагэтуль не было ў свеце.

Праўда, спачатку ён разлічваў на падтрымку аўстрыйскага імператара Рудольфа II, нават прывёз марціру ў Вену і толькі пасля таго, як той паставіўся да яго абыякава, мусіў звяртацца да Аўгуста, падпісаўшыся «Іван Федаровіч Маскавіцянін, тыпограф грэцкі і славянскі».

«Іван Федаровіч, друкар Маскавіцянін» ён называецца і ў «падскарбінскай кнізе», у якой пазначана, колькі грошай атрымаў за адліццё малой гарматы.

Каб пазнаёміцца з лістом Фёдарава, спецыяльна ў Лейпцыг, дзе захоўваецца гэты аўтограф, і паехаў Я. Неміроўскі. Ён спадзяваўся, што ўдасца знайсці і адказ курфюрста на пасланне першадрукара, але пошукі аказаліся марнымі. Затое знаёмства Яўгенія Львовіча з самім лістом прывяло да нечаканага адкрыцця: «...Письмо оказалось чрезвычайно интересным, оно было сложено в несколько сгибов и припечатано — конвертов в ту пору не было. Печать сохранилась плохо, но я разобрал на ней знакомые очертания типографской марки Ивана Федорова, марка была помещена под дворянской короной, а, следовательно, вовсе не марка, а герб…»

Згаданы герб можна напаткаць і на львоўскіх выданнях Фёдарава, а таксама ў тых, што пазней выйшлі ў Астрогу. Вось як Я. Неміроўскі апісвае гэты герб: «...На гербовом щите изображена лента, изогнутая в форме зеркального латинского S. Лента рельефна, выпукла, о чем говорит штриховка у одного из краев ее, а также «гребень» рельефа, намеченный изогнутой линией. Вверху из ленты исходит стрела, наконечник которой составлен из разных по длине отрезков. На поле размещены буквы, обозначающие в одном случае имя первопечатника, а в другом — его инициалы».

Гэты герб яшчэ ў 1935 годзе зацікавіў спецыяліста па геральдыцы В. Лукомскага, які, уважліва даследаваўшы яго, прыйшоў да высновы, што друкарскі знак Івана Фёдарава — шляхецкі герб беларускага роду Рагоза, які ў геральдыцы называецца «Шранява». Але ва ўстанаўленні беларускага паходжання рускага і ўкраінскага першадрукара галоўная роля ўсё ж належыць Неміроўскаму, які, адштурхоўваючыся ад

пэўных фактаў, што сведчаць на карысць гэтага, а таксама даюць падставы сцвярджаць: гаворка ідзе не пра Фёдарава, а пра Федаровіча, — пайшоў далей у сваіх даследаваннях. Прынамсі, ён звярнуў увагу на так званыя «промацыенныя кнігі» Кракаўскага ўніверсітэта, выдадзеныя яшчэ ў 1849 годзе, у якія заносіліся прозвішчы тых, хто атрымаў вучоную ступень бакалаўра ці магістра. У іх і напаткаў прозвішча Федаровіч. Праўда, у дужках было пазначана «канонік з Красностава», а сёння гэта ў Люблінскім ваяводстве.

Пасля гэтага Яўгеній Львовіч звярнуўся па дапамогу да вядомага польскага гісторыка Ганны Лявіцкай-Камінскай, якая загадвала аддзелам інкунабул Ягелонскай бібліятэкі. Яна адказала, што прыпіска «канонік з Красностава» дапісана пазней і яе можна лічыць памылковай, бо ў другім томе «Альбума Студзіозорума» пад 1529 годам сярод абітурыентаў фігуруе «Іван Фёдараў з Піткавічаў», які быццам паходзіў з тых Піткавіч, што ў Кракаўскім епіскапстве. Але і тут памылка, звязаная з пазнейшай прыпіскай, бо такога населенага пункта там ніколі не было.

Гэты адказ падказаў Я. Неміроўскаму, як дзейнічаць далей:

«Я порадовался письму, а затем обложился географическими справочниками и стал искать Питковичи. Нашел три белорусские деревни с таким названием. Первая стояла в Вилейском повете на старой большой дороге из Минска в Вильно в 8 верстах от Радошковичей и 57 верстах от Вилейки. Вторые Питковичи отыскались на реке Усе в Минском повете в безлесной холмистой местности близ местечка Койданово. Неподалеку — и третьи Питковичи — в Новогрудском повете, на берегу реки Ишкольд».

У сувязі з гэтым Яўгеній Львовіч з радасцю канстатуе: «Из тех же самых мест происходила фамилия Рогозиных, пользовавшаяся гербом «Шренява». Круг вроде бы замкнулся».

Сапраўды, пасля ўсяго наўрад ці можна сумнявацца, што Іван Фёдараў — ніякі не Фёдараў, а Федаровіч, і нарадзіўся ён у тых Піткавічах, што некалі адносіліся да Наваградскага павета, а цяпер знаходзяцца ў Баранавіцкім раёне. Праўда, так і нявырашаным застаецца пытанне, чаму ён з Хведаровіча ператварыўся ў Фёдарава.

## БЫВАЙ, МАСКВА

Наконт гэтага, прымаючы пад увагу, што запісы, якія тычыліся яго, неаднаразова неслі ў сабе памылкі, можна дапусціць, што і ў гэтым таксама віна нейкага пісара (успомнім, што менавіта як «Фёдараў» будучы друкар значыцца ў спісе абітурыентаў універсітэта), а пасля сам Федаровіч мог звыкнуцца з вымаўленнем свайго прозвішча на іншы манер, які, дарэчы, адпавядае маскоўскаму. А ў Маскве ён і пачаў працаваць у так званай ананімнай друкарні.

Аднак невядома, чым займаўся дагэтуль, бо Кракаўскі ўніверсітэт з атрыманнем ступені бакалаўра скончыў у 1532 годзе, а ў Маскве з'явіўся недзе ў 50-х гадах XVI стагоддзя, у прыватнасці, на гэты час прыпадае пачатак ягонай друкарскай дзейнасці.

Мог трапіць у сталіцу Масковіі і раней, але ад гэтага сутнасць справы не мяняецца. Нягледзячы на тое, што на сённяшні дзень жыццю Фёдарава і яго выдавецкай дзейнасці прысвечана больш як 1750 даследаванняў (аказваецца, вядзецца і такі падлік), ніхто нічога пэўнага наконт гэтага сказаць не мог. Затое дакладна вядома, што з 19 красавіка 1563 года да 1 сакавіка 1564 года разам з Пятром Мсціслаўцам (некаторы час ён фігураваў у навуковых працах як Пётр Цімафееў) працаваў над першай дакладна датаванай рускай кнігай «Апостал».

Якая вялікая рэдактарская і тэксталагічная работа была пры гэтым выканана, можна даведацца з прадмовы Сымона Буднага да выдадзенага ім праз дзесяць гадоў Новага Запавету.

Расказваючы аб пачатку кнігадрукавання ў Маскве, ён спасылаўся на тамашнія першадрукі. І невыпадкова захапляўся здзейсненым Фёдаравым з Мсціслаўцам. Іхні «Апостал» — гэта адначасова і выдатны твор мастацтва. 48 заставак, надрукаваных з 20 дошак, 22 буквіцы і іншыя друкарскія аздабленні сведчаць аб тым, што стваральнікі яго мелі бездакорны эстэтычны густ і не толькі цудоўна ведалі традыцыі арнаментнага ўбранства старажытнарускіх рукапісных кніг, а і паспяхова развівалі іх далей.

Гэта выявілася ў тым, што старыя пры-

ёмы былі ўдасканалены, а ў выніку з'явіўся так званы старадрукарскі стыль, створаны на аснове маскоўскага паўустава канца XV — пачатку XVI стагоддзя. Гэты шрыфт затым пачаў выкарыстоўвацца ў мастацкім афармленні як друкаваных, так і рукапісных кніг. Удала глядзеўся і гравіраваны на дрэве франтыспіс, што ўзнаўляў воблік аднаго з аўтараў гэтай кнігі — апостала Лукі. Дый наклад «Апостала» нават для сённяшняга дня немалы, а для таго часу дык проста ўнушальны: на думку некаторых даследчыкаў, ён дасягаў 2 тысяч асобнікаў, з якіх дайшоў да нас 61.

Свой новы стыль Фёдараў з Мсціслаўцам ужылі і пры выданні «Часоўніка», які карыстаўся вялікім попытам, бо роўна праз месяц пасля першага выдання, што пабачыла свет 29 верасня 1565 года, з'явілася паўторнае.

Несумненна, што Фёдараў разам са сваім паплечнікам, усцешаны такім поспехам першых дзвюх кніг, меў і новыя задумкі. Якія, праўда, невядома, затое вядома, што знайшліся ў Маскве людзі, ахвочыя праследаваць іх. А абвінавачванні былі прад'яўлены тыповыя для таго часу — ерась.

Гэта тым больш дзіўна, што ніякага іншадумства ў выдадзеных кнігах нават пры самым пільным стаўленні да іх знайсці немагчыма, таму што яго проста не магло быць, бо і «Апостал», і «Часоўнік» — выданні загадзя прадвызначанага зместу, і ў тэкст іх друкар (ці друкары) ніякіх змен унесці не маглі.

Іншая справа, што іншадумства Фёдарава і Мсціслаўца магло выявіцца ў якіх-небудзь вусных выказваннях, а нядобразычліўцы не прапусцілі гэта міма вушэй. Хоць верагодней — праяўленне звычайнай зайздрасці з боку тых, хто падобнага поспеху не меў. Яны і пастараліся, каб поруч не было канкурэнтаў ды яшчэ больш высокапрафесійных.

Давялося Фёдараву і Мсціслаўцу з Масквой развітацца. А куды падацца, бадай, доўга не думалі. Іх пацягнула ў Вялікае Княства Літоўскае, дзе ўжо працавала каля дзясятка друкарняў, а ўплывовыя магнаты лічылі за гонар для сябе адкрываць новыя. З шэрагу іх быў і вялікі гетман Рыгор Хадкевіч.

## У ЗНАК УДЗЯЧНАСЦІ — ГЕРБ

Пачуўшы аб ягоных намерах, яны і вырашылі ехаць да Хадкевіча. Але спачатку завіталі ў Вільню, дзе ў студзені 1566 года былі прыхільна сустрэты на сойме панамі-радай. Вітаў іх і польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст. У Вільні пазнаёміліся з Будным, пра што ён і згадваў ва ўжо названай прадмове да Новага Запавету, адзначыўшы высокі аўтарытэт «друкарей московских, которые здесь у нас уже несколько лет» і падкрэсліўшы, што яны «учинили то, что могли, за что им другие должны быть благодарны».

Аднак з асаблівым нецярпеннем яны чакалі сустрэчы з Хадкевічам, ад выніку гаворкі з якім залежала, ці ўдасца знайсці паразуменне альбо, магчыма, трэба будзе шукаць некае іншае месца, дзе можна прыкласці сваё майстэрства. Але Хадкевіч адразу запэўніў, што гатовы іх падтрымаць у добрых пачынаннях, бо і сапраўды збіраўся адкрываць друкарню ў сваім маёнтку Заблудава непадалёку ад Беластока.

Хадкевіч не задумваючыся выдзеліў Фёдараву і Мсціслаўцу неабходныя сродкі, а гэта дазволіла ім у 1568—1569 гадах у Заблудаўскай друкарні падрыхтаваць «Евангелле вучыцельскае», што складалася з гутарак і павучанняў, якія суправаджаліся тлумачэннем евангелісцкіх тэкстаў. У знак удзячнасці свайму фундатару яны на адваротным баку тытульнага ліста кнігі змясцілі герб Хадкевіча.

Але, безумоўна, не гэта сведчыць аб яе значнасці. У «Евангелле вучыцельскае», якое пазней неаднойчы перавыдавалася, увайшло «Слова на Ушэсце» знакамітага Кірылы Тураўскага, што стала першым друкаваным помнікам усходнеславянскай літаратуры.

У Заблудаве ў 1570 годзе пабачыў свет і «Псалтыр з Часасловцам», у канцы якіх была надрукавана Пасхалія ў табліцах. Гэтую кнігу Фёдараў выпускаў ужо адзін, бо Мсціславец заснаваў у Вільні ўласную друкарню. Аднак і Фёдараў неўзабаве мусіў пакінуць Заблудава.

На гэта паўплывала тое, што здароўе Хадкевіча пагоршылася, а ягоныя фінансавыя справы ўжо не ішлі так паспяхова, як дагэтуль. Але ён не забыў пра таго, хто дзякуючы сваёй дзейнасці праславіў Заблудава

і падарыў Фёдараву вёску Мізякова (сёння на Украіне).

Жыццё ў вёсцы яго, аднак, не прываблівала, бо тым самым давялося б паставіць крыж на выдавецкай дзейнасці. Пасля роздуму прыйшоў да высновы, што лепей падацца туды, дзе друкарская справа яшчэ не атрымала размаху. У рэшце рэшт свой выбар спыніў на Львове, куды прыехаў у канцы 1572 — пачатку 1573 года, дзе і заснаваў першую на Украіне друкарню.

У 1574 годзе ў гэтай друкарні выйшла першая ўкраінская дакладна датаваная кніга. Яна стала па сутнасці паўторам ужо вядомага маскоўскага «Апостала», у які Фёдараў унёс некаторыя дапаўненні. Гэта тычылася асобных уступных тэкстаў, а таксама пасляслоўя «Повесть… откуда начался и како свершися друкарня сия», якое стала першым друкаваным творам рускай мемуарнай літаратуры. У параўнанні з маскоўскім выданнем Фёдараў унёс і змены ў афармленне, змясціўшы ў кнізе тры гравюры, кожную памерам на старонку. Гэта герб Хадкевіча, выява апостала Лукі, а таксама геральдычная кампазіцыя Львова з аўтарскім друкарскім знакам «Ф».

1574 годам пазначана і яшчэ адна львоўская кніга Фёдарава — «Азбука» («Буквар»). Яна цікавая тым, што стала першым друкаваным рускім падручнікам, у якім прапануюцца практыкаванні для навучання дзяцей граматыцы. Прыведзены прыклады скланення назоўнікаў і прыметнікаў, спражэння дзеясловаў, а таксама выкарыстання «прасодый», ці, калі расшыфраваць гэтае паняцце, узораў ужывання над- і падрадковых знакаў.

Увайшла ў «Буквар» і так званая тлумачальная азбука, што дазваляла замацаваць і развіць далей навыкі чытання, а паколькі гэта магчыма было толькі пасля спасціжэння азоў, дык яна і завяршала падручнік. Напрыканцы прыводзіліся і найбольш распаўсюджаныя на той час малітвы.

У Львове Фёдараў затрымаўся б і надалей, калі б не адсутнасць грошай для друкавання новых кніг, а таксама тыя ганенні, якім хутка падвергся гэтаксама як і ў Маскве. Таму ў рэшце рэшт і згадзіўся на прапанову Астрожскага перайсці да яго на службу. Ставіў Канстанціну Канстанцінавічу свае ўмовы так катэгарычна таму, што спадзяваўся на ягонае разуменне. Спачатку так і



*Гравюра з Апостала 1564 года, якая адлюстроўвае апостала Луку.*

было, аднак толькі да таго часу, пакуль у Астрожскага не з'явілася канкрэтная задума — выдаць у Заблудаве Біблію. Фёдараў, вядома, нічога супраць гэтага не меў, наадварот, ухваліў ягоны намер. Але Астрожскі не ведаў таго, пра што ведаў Фёдараў.

## ЧАГО НЕ ВЕДАЎ АСТРОЖСКІ

Друкаванне Бібліі было не толькі важнай задачай, а і цяжкай. Цяжкай, праўда, не ў тым сэнсе, што выпуск яе быў звязаны з належнай арганізацыяй усяго друкарскага працэсу, а яго даводзілася пачынаць з нуля. Маючы немалы вопыт у гэтай справе, Фёдараў не сумняваўся ў тым, што друкарня ў Заблудаве хутка запрацуе, бо яго папярэднія навыкі дадуць жаданы вынік.

Бяда, аднак, у тым, што шрыфты, якімі ён карыстаўся, выпускаючы свае папярэднія

кнігі, найперш «Апостал» і заблудаўскія, для друкавання Бібліі не падыходзілі з-за сваіх даволі значных памераў. А паколькі Біблія аб'ёмная, дык, калі ўжыць іх, кніга атрымаецца таўшчынёй у аршын і стане важыць паўтара пуда. Нават калі ўдасца яе надрукаваць, што таксама няпроста, асабліва пры брашуроўцы адбіткаў, усё адно жадаючых пачытаць такую Біблію знойдзецца мала. Яе не толькі будзе цяжка перанесці з месца на месца, а і нязручна чытаць.

Былі неабходны іншыя шрыфты. Куды меншага памеру, чым ранейшыя. Якога — пакуль ён дакладна і сам не ведаў...

Маўчанне зацягнулася. Нарэшце Канстанцін Канстанцінавіч не ўстрымаўся:

— Чакаю адказу, мой «аканом», — у Астрожскага зноў падняўся настрой, і Фёдараў зразумеў, што гэта якраз на ягоную карысць. — Чаму не хопіць нават некалькіх месяцаў для выпуску Бібліі?

— А я і думаю, княжа, каб як-небудзь прасцей усё патлумачыць.

Астрожскі засмяяўся:

— Тлумач князю, тлумач, калі ён ужо такі нездагадлівы.

— А князь лёгка зразумее слушнасць маіх довадаў? — Фёдараў стараўся падтрымліваць у размове тую танальнасць, якую надаў ёй сам Канстанцін Канстанцінавіч, бо быў перакананы, што толькі так можна прасцей дасягнуць узаемапаразумення.

— Князь пастараецца.

— У такім разе слухай, княжа...

Фёдараў пачаў раскрываць Астрожскаму сутнасць пытання.

Спачатку, калі гаворка ішла пра тое, што Біблію нельга друкаваць тымі ж шрыфтамі, якімі ён, Фёдараў, карыстаўся пры выпуску сваіх папярэдніх кніг, Астрожскі лёгка зразумеў, што і да чаго, але калі загаварыў пра неабходнасць вырабу новых шрыфтоў, у Канстанціна Канстанцінавіча адразу ж з'явіліся сумненні:

— Дык бярыся і рабі іх!

— Але ж за кароткі час іх не адальеш.

— Дам памочнікаў.

— Неабходны памочнікі, якія добра ведаюць друкарскую справу.

— Знойдзем!

— Але ж патрэбен матэрыял...

— Няўжо думаеш, што ў мяне няма грошай для набыцця яго?

Пастулова размова зайшла ў тупік, бо Астрожскі, пра што б ні казаў Фёдараў, ахвотна згаджаўся падтрымаць яго, але аднаго не мог зразумець — што для ажыццяўлення ўсяго неабходны вялікі прамежак часу.

Абодва нават стаміліся. Кожны, як яму здавалася, найбольш пераканаўча адстойваў сваю пазіцыю, але не разумеў пры гэтым довадаў субяседніка. Дайшло да таго, што князь пачаў злавацца, пасля чаго Фёдараў і ўжыў аргумент, які прынёс яму поспех тады, як вырашыў канчаткова развітацца з манастыром:

— Маё апошняе слова такое, княжа: ці ты прымаеш мае ўмовы, ці я буду шукаць іншага, які мяне па-сапраўднаму зразумее.

Відаць, і сам Канстанцін Канстанцінавіч разумеў магчымасць з'яўлення падобнага ультыматуму і ў думках ужо згаджаўся, што трэба ўсё ж пайсці Фёдараву насустрач, бо, калі пачуў гэта з ягоных вуснаў, не стаў далей даводзіць сваю пазіцыю, не абурыўся «няўдзячнасцю» таго, каму даў прытулак, а толькі неяк роспачна (а мо Фёдараву толькі падалося?) прамовіў:

— Хай будзе па-твойму...

— У такім разе… — Фёдараў не хаваў, што чакаў ад Астрожскага менавіта гэтага, а не іншага адказу, а ўпэўнены ў ім быў таму, што паспеў зразумець: Канстанцін Канстанцінавіч надта зацікаўлены ў выпуску кніг, і яму так хочацца паскорыць гэтую справу, што гатовы нават марудлівасць з ягонага боку расцаніць як жаданне даць сабе палёгку, а таму адразу канкрэтызаваў свае ўмовы. — У такім разе, — паўтарыў ён, — пачнём з таго, што мне ў друкарскай справе неабходны памочнік.

— Ёсць кандыдатура на прыкмеце?

— Грынь Івановіч, з якім я разам у Заблудаве працаваў.

— Думаеш, згодзіцца?

— Абавязкова запрашай.

— Аднак Грыню трэба яшчэ падвучыцца.

Астрожскі зноў засумняваўся:

— Ты ж кажаш, што разам з ім працаваў.

— Працаваў.

— Але ж калі ты майстра сваёй справы, дык і твой паплечнік мусіць быць добрым знаўцам яе.

Пахвала Фёдараву спадабалася, як і тое, што Канстанцін Канстанцінавіч ужо навучыўся распазнаваць некаторыя сакрэты дру-

карскага працэсу, тым не менш зноў мусіў нагадаць, што справа, за якую давядзецца ўзяцца ў Астрогу, у многім новая:

— Я ж казаў, княжа, што патрэбны новыя шрыфты.

— Дык ты ж будзеш іх адліваць.

— Грынь і дапаможа мне, але хай спачатку сам набярэцца майстэрства. У разьбе, ва ўменні знаходзіць найлепшы склад фарбы.

— І дзе ён можа падвучыцца?

— У Львове, ёсць там такі майстра Лаўрынь Піліповіч.

— Хай едзе.

— Але ж грошы трэба.

— Будуць грошы! — запэўніў Астрожскі. — І не толькі на навучанне Грыня. Загадзя толькі кажы, што патрэбна. Ва ўсім дапамагу.

## НЕ ТОЛЬКІ ВЫДАВЕЦ, А І... СТАЛЕПЛАВІЛЬШЧЫК

Адчуўшы, што можна разлічваць на падтрымку Астрожскага ва ўсіх пачынаннях, Фёдараў уздыхнуў з палёгкай. Адразу ж пасля размовы ён паслаў ліст Грыню з прапановай прыязджаць, а калі той з'явіўся ў Заблудаве, паведаміў аб сваім рашэнні. Івановіч застаўся задаволены такой прапановай і паехаў у Львоў, каб там прайсці курс навучання ў Лаўрыня Піліповіча. Дамовіліся і аб тым, што пасля гэтага Грынь адпрацуе ў Заблудаве не менш трох гадоў. Сам жа Фёдараў узяўся за выраб шрыфтоў, дзякуючы якім можна было б надрукаваць Біблію.

Разумеў, што давядзецца няпроста, аднак і ўявіць сабе не мог, наколькі гэта карпатлівая праца, і нават там, дзе напачатку здаецца, усё пойдзе без затрымкі, нечакана пачынаюць падсцерагаць цяжкасці. Так сталася ўжо тады, калі ўзяўся за выраб пунсонаў — стальных брускоў прамавугольнага сячэння, якія маюць выпуклыя адлюстраванні пэўнай літары ці якога-небудзь знака. Пунсоны выкарыстоўваліся для выціскання на друкарскіх матрыцах той жа літары ці таго ж знака.

Спадзяваўся, што лёгка і хутка ўдасца зрабіць належны адбітак. Аднак, калі ўважліва прыгледзеўся да атрыманых пасля гэтага шрыфтоў, заўважыў, што яны невыразныя. Асобныя дэталі адбітку нібы расплываліся. Няйначай метал, узяты для пунсонаў, быў нізкай якасці. Дый, мабыць, лепей яго замяніць і ў саміх матрыцах.

Можна было б метал дзе-небудзь закупіць, але гэта не давала б гарантыі, што ён будзе менавіта той, які неабходны, бо толькі спецыялісты, якім блізкая друкарская справа, у стане падабраць належны сплаў. І тады Фёдараў вырашыў сам выплавіць неабходную сталь, а паколькі дагэтуль нічым падобным не займаўся, пачаў вывучаць спецыяльную літаратуру. Толькі звесткі, што тычыліся гэтага, насілі агульны характар, не ўлічвалася друкарская спецыфіка. Тым не менш іх было дастаткова, каб пачаць ажыццяўляць задуманае.

Памятаючы, што Астрожскі абяцаў грошай не шкадаваць, абы толькі хутчэй былі зроблены неабходныя шрыфты, увёў яго ў курс справы. Меркаваў, што той адразу згодзіцца. Але чым далей Канстанцін Канстанцінавіч слухаў яго, тым больш здзіўлення з'яўлялася на ягоным твары, а хутка гэтае здзіўленне перарасло ў абурэнне:

— Ты хоць разумееш, пра што гаворыш?

Фёдараў пастараўся адказаць як мага спакайней, хоць яму гэта і далося няпроста, бо на падобную рэакцыю з боку свайго апекуна не разлічваў:

— Каб не разумеў, княжа, не звяртаўся б да цябе з просьбай. Неабходна сталеплавільная печ.

— Сталеплавільная печ? У маім маёнтку? — Астрожскі на імгненне змоўк, сілячыся разабрацца, наколькі сур'ёзна Фёдараў гаворыць, і нарэшце, вытрымаўшы паўзу, перайшоў на крык: — Ды не трэба яна мне! Не трэба! Зразумей раз і назаўсёды!

Ды гэта не вывела з сябе Фёдарава, які быў перакананы, што толькі сваёй вытрымкай і спакоем можа абяззброіць Астрожскага:

— А хто, калі не сам князь, казаў, што грошай не пашкадуе?

— На выплаўку сталі?

— Але ж без сталі немагчыма зрабіць шрыфты.

— Ты мяне проста даканаеш! — Канстанцін Канстанцінавіч абедзвюма рукамі схапіўся за галаву.

Немагчыма было зразумець, яму на самой справе стала блага ці гэта проста спроба нагадаць Фёдараву, каб не назаляў недарэчнымі просьбамі.



*Застаўкі і канцоўкі з Астрожскай Бібліі.*

нейкая выпакутаваная ўсмешка ледзь кранулася князевага твару.

— Печ.

— Гэта я ўжо чуў. Што неабходна для пабудовы яе?

Фёдараў няспешна пачаў тлумачыць. Назваў прыкладную колькасць вогнетрывалай цэглы, іншых матэрыялаў. Потым перайшоў да тых, без якіх не атрымаеш сталь — хром, марганец...

— І вядома ж, трэба завозіць метал. Ці, можа, яго таксама пачнеш выплаўляць? — Астрожскі скептычна ўсміхнуўся.

— Навошта лішнія клопаты?

— То дзякуй хоць за гэта!

## ПЕРШАПРАХОДЦА ЁН ЗАЎСЁДЫ ПЕРШАПРАХОДЦА

Пасля гэтага Фёдараў зноў атрымаў поўную свабоду дзеянняў. Пры першым жа запатрабаванні Канстанцін Канстанцінавіч даваў яму неабходную суму грошай, аплачваў паездкі ў Львоў і Кракаў для набыцця патрэбнага металу. І, вядома ж, фінансаваў будаўніцтва самой сталеплавільнай печы, якую ўзводзілі на тэрыторыі замка, а менавіта з падобным размяшчэннем яе пагадзіўся сам.

Аднак калі печ была гатова, запатрабаваў яе тэрмінова разабраць і перанесці за сцены замка, на бераг ракі Стыры, абурыўшыся тым, што дым ад плаўкі трапляе ў яго пакоі. Дарэмна Фёдараў спрабаваў пераканаць, што перанос печы зойме не адзін тыдзень. Давялося печ разбіраць, а потым узводзіць нанава.

Пасля таго як у адной з вежаў замка размясціўся друкарскі станок, вырашыў, што лепей будзе, калі ён не стане прастойваць. Таму і выпусціў 18 чэрвеня 1578 года новае выданне «Азбукі», якое ў параўнанні з львоўскім дапоўніў паралельнымі грэка-славянскімі тэкстамі, што спрыяла больш

Ды Фёдараву ўжо не было куды адступаць. Аднак баяўся ў гэтай сітуацыі і прад’яўляць ультыматум, які дагэтуль двойчы даваў яму шанц дамагчыся свайго, бо не быў перакананы, што цяпер Астрожскі адступіць. Чаго добрага, скажа, што непатрэбна яму друкарня, а тады — бывай, Біблія, якую ён, Фёдараў, ужо выразна бачыў у сваім уяўленні.

Заставалася пачакаць, пакуль Канстанцін Канстанцінавіч супакоіцца, а той, відаць, і сапраўды адчуваў сябе не лепшым чынам, бо доўга нічога не гаварыў, а толькі няўцямна пазіраў то на Фёдарава, то па баках. Нарэшце правёў даланёй па сваім ілбе, стомлена апусціў галаву:

— Кажы, мучыцель мой, што трэба, —

хуткаму засваенню грэчаскай мовы. Да ўсяго ў ім упершыню быў змешчаны помнік старажытнабалгарскай літаратуры «Аб пісьмёнах» Чарнарызца Храбра, пададзены пад назвай «Сказание како состави святый Кирил Философ азбуку по языку словеньску».

Аднак чарговую кнігу давялося чакаць даўгавата, бо па-ранейшаму нямала часу забіраў у Фёдара выраб шрыфтоў для «Біблії». Тым не менш ужо пад канец 1578 года першыя пунсоны былі гатовы, а неўзабаве адліў і пробныя літары. Атрымаліся, як і хацеў, невялікія памерам, куды іншыя, чым у кнігах, што дагэтуль выпускаў сам, дый тых, якія рыхтаваліся іншымі друкарамі.

І ўсё ж аб паспяховым завяршэнні справы гаварыць было ранавата, бо яшчэ не ўсе шрыфты падрыхтаваў, а тыя, якія з'явіліся, патрабавалі некаторай дапрацоўкі: разцом знімаў «завусеніцы», падшліфоўваў акругленні, больш выразнымі рабіў вуглы. Вырабляў і пунсоны для грэчаскіх шрыфтоў, бо ў Бібліі акрамя славянскага тэксту меркавалася выкарыстаць яшчэ і грэчаскі.

Так прайшла першая палова 1579 года, мінула другая. Становішча ўскладнілася пасля таго як Астрожскі ў 1579 годзе пакінуў Астрог. А тут чарговыя выдаткі. Фёдараў вырашыў аддаць у залог сваю львоўскую друкарню, разлічваючы, што па вяртанні апекуна яе можна будзе вярнуць назад.

Толькі ў 1580 годзе нарэшце з палёгкай уздыхнуў. Шрыфты былі цалкам гатовы, а апрабаваць іх вырашыў, выдаўшы малым фарматам Псалтыр і Новы Запавет. Новыя літары дазвалялі гэта, і праз некалькі месяцаў элегантная кніжачка, якую адкрываў прыгожы тытульны ліст, заключаны ў гравіраваную па дрэве рамку, пабачыла свет. У тым жа 1580 годзе выйшаў і паказальнік да Псалтыра і Новага Запавета — «Кніжка, збор рэчаў самых патрэбных...». Фёдараў наўрад ці мог здагадвацца, што яна з'яўляецца першым у гісторыі расійскай (зразумела, і беларускай) бібліяграфіі і дакументалістыкі прадметным паказальнікам і адначасова зборнікам афарызмаў і крылатых слоў.

Яшчэ ў Вільні ён пазнаёміўся са сваім земляком, ураджэнцам вёскі Пянчын на Навагрaдчыне (цяпер таксама Баранавіцкі раён) паэтам і перакладчыкам Андрэем Рымшам. Калі ж даведаўся, што той завяршыў сваю «Храналогію», прапанаваў яе выдаць у Астрогу. Рымша згадзіўся, і 5 мая 1581 года «Храналогія» выйшла ў выглядзе лістоўкі, стаўшы першым усходнеславянскім друкаваным календаром і першым асобна выдадзеным творам беларускай паэзіі. Назвы месяцаў пададзены на латыні, яўрэйскай і беларускай мовах.

## НЕ ВЕДАЕШ, ДЗЕ СМЕРЦЬ НАПАТКАЕ

Паспяхова рухалася і праца над Бібліяй, якая доўжылася ўжо не адзін месяц. Марудлівасць стане зразумелай, калі нагадаць, што выданне атрымлівалася з больш за 600 лістоў, а Фёдараў вырашыў зрабіць наклад у 1,5 тысячы асобнікаў. Вялікае значэнне надавалася мастацкаму аздабленню і паліграфічнаму выкананню. Сам выразаў новыя чорныя застаўкі, зрабіў фігурныя буквіцы. Кожны ж раздзел завяршалі арнаментныя гравюры.

Біблія друкавалася шасцю рознымі шрыфтамі, памер кожнага з якіх, як і задумаў, невялікі, але самі літары розніліся ў залежнасці ад таго, для набірання якога тэксту выкарыстоўваліся. У канцы ж кнігі змяшчалася пасляслоўе, у якім друкар коратка расказаў пра сваё жыццё, паведаў аб тым, што не па сваёй волі вымушаны пераязджаць з месца на месца, падзяліўся тым, якую радасць адчувае, калі ёсць магчымасць служыць людзям.

«Астрожская Біблія» (пад такой назвай яна ўвайшла ў гісторыю кнігадрукавання) з'явілася 12 жніўня 1581 года і стала першым поўным выданнем славянскай Бібліі кірыліцкага шрыфту.

Радасць ад яе выхаду падзяліў з Фёдаравым Лукарыс. Хацелася б пачуць ухвальнае слова і ад Астрожскага, але той на гэты час яшчэ не вярнуўся ў Астрог. Таму і крыху самотліва станавілася на душы.

Не сумняваўся, што выдадзеная Біблія — ягонае галоўнае дзецішча. А хутчэй за ўсё і апошняе, бо не той узрост ужо, каб асабліва разлічваць на нешта больш значнае. А адсутнасць Канстанціна Канстанцінавіча — галоўнага натхняльніка яе з'яўлення — кепскі знак, няйначай трэба чакаць чагосьці благога.

Да ўсяго быў гатовы, але толькі не да таго, што ў гэтую радасную і адначасова самотліва-роздумную для яго часіну падвядзе Івановіч. Ад Грыня ж яшчэ нядаўна атрымаў ліст, у якім той паведамляў, што навучанне завяршаецца і неўзабаве прыедзе ў Астрог. І вось высветлілася, што яго пераманілі браты Мамонічы.

Пасля ўсяго заставацца ў Астрогу не бачыў сэнсу, бо ўспрымаў сябе тут нікому не патрэбным. Таму вярнуўся ў Львоў. Вядома, і там яму нясоладка жылося і нялёгка працавалася, аднак у Львове засталася друкарня. Яго асабістая друкарня. І няхай яна пакуль аддадзена ў залог, але ў любы час яе можна выкупіць. Грошай жа шукаць не трэба, яны самі гатовы ісці ў ягоныя рукі. Дастаткова прадаць выдадзеную Біблію, а што на яе будзе належны попыт, не сумняваўся, і выручанай сумы будзе дастаткова, каб друкарню выкупіць. А там час пакажа, як быць далей.

З тысячай асобнікаў і паехаў у Львоў, аднак так і не паспеў іх прадаць, бо ў Астрогу нарэшце з'явіўся Астрожскі. Даведаўшыся, што ягоны друкар самавольна пакінуў замак, а да ўсяго прыхапіў большую палову накладу Бібліі, Канстанцін Канстанцінавіч палічыў сябе абрабаваным і наклаў арышт на ягоную маёмасць. Не спыніла князя нават тое, што, акрамя кніг, ягоны друкар нічога з сабой не ўзяў: пакінуў шрыфты, станок, іншы інвентар. Не адумаўся Астрожскі, хоць яго асабісты даход штогод складаў больш за адзін мільён злотых. Адзінае, што мог рабіць Фёдараў у гэтай сітуацыі, дык толькі прадаваць кнігі, якія паспеў прыхаваць, але выручкі ад іх хапала толькі на тое, каб не памерці галоднай смерцю.

Мог і памерці. Ды нечакана ў Львове з'явіўся Грынь. Працуючы ў Мамонічаў, ён паспеў сёе-тое зарабіць і цяпер гатовы быў падзяліцца апошнім са сваім настаўнікам. Толькі прасіў, на калені станавіўся, каб той забыў, што па сутнасці здрадзіў яму.

Фёдараў дараваў. Паколькі хацеў і далей займацца кнігадрукаваннем, знайшоў людзей, якія згадзіліся, не пабаяліся пазычыць грошай. Грошы неабходны былі, каб Грынь змог адліваць новыя шрыфты. Але грошы патрэбны былі і яму самому, бо, успомніўшы свой ліцейны вопыт, вырашыў адліваць гарматы. Дзеля гэтага, калі даведаўся, што Стэфан Баторый шукае гарматных майстроў, падаўся ў Кракаў. І ў Вене пабываў, адкуль і паслаў свой ліст курфюрсту Аўгусту. Выказваюцца меркаванні, што наведаўся яшчэ і ў Дрэздэн.

Зімой 1583 года вярнуўся ў Львоў, дзе нечакана захварэў, аднак, нягледзячы на гэта, штодня прыходзіў у друкарню, каб дапамагчы Грыню. Ля друкарскага станка яго і напаткала смерць. Ухапіўся рукой за грудзі каля сэрца і рухнуў на падлогу.

Ішоў пяты дзень снежня 1583 года.

Пахавалі Фёдарава ў Ануфрыеўскім манастыры.

На магілу паклалі пліту з выбітым на ёй надпісам: «Друкар кніг дагэтуль нябачаных».

Пліта захоўвалася да 1883 года.

Памяці пра Фёдарава жыць вечна.

# ПАЙШЛА ЯК ПАВА, альбо БЕЗДЗЕЖСКІХ ЖАНЧЫН ВІДАЦЬ ЗДАЛЁК

***Калектыў музея народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, які быў адкрыты адзінаццаць гадоў таму, стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года за стварэнне ўнікальнай калекцыі аўтэнтычных узораў народнай творчасці, значны ўклад у захаванне і папулярызацыю мясцовых рамёстваў, абрадаў і дыялектаў.***



*Дырэктар «Бездзежскага фартушка» Марыя Астаповіч.*

***Фонды музея народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» налічваюць больш як тысячу экспанатаў. У сямі прасторных залах шырока прадстаўлены адметнасці побыту мясцовага насельніцтва пачынаючы з XIX стагоддзя. Адсюль вынікаюць і назвы экспазіцый: «Падворак», «Ручнікі», «Сялянская хата»... Але сэрца ўсяго гэтага багацця — зала «Царства фартушка». Бо музей у вёсцы Бездзеж — адзіны ў свеце, у якім сабрана ўнікальная калекцыя фартушкоў, што налічвае больш як дзве сотні прадметаў. Прытым двух аднолькавых няма. Праўда, у экспазіцыі прадстаўлена толькі сем дзясяткаў. Вось на стэндзе — каскад унікальных вырабаў.***

— Менавіта бездзежскія фартушкі адрозніваюцца ад іншых па сваёй выбеленасці, — распавяла дырэктар музея Марыя Астаповіч. — Ёсць прыгожае беларускае слова «выбеленасць». Вось вам і вытанчанасць вырабаў. Шылі ж іх з палатна, якое складалася з трохсот ільняных нітачак, якія свабодна праходзілі праз пярсцёнак. Гэтыя фартушкі, можна сказаць, свецяцца. Але не з-за таго, што ім шмат гадоў, а з-за таго, што так тонка спрадзены ніткі. На жаль, сёння ніхто такое ўжо не зробіць, бо гэтае філіграннае майстэрства не захавалася, страчана.

Самаму старэйшаму фартушку — 130 гадоў. Ён даволі просценькі, але які вытанчаны! Можна ўбачыць нямала паўсядзённых фартушкоў. Звычайна іх гаспадыні завязвалі раніцай паверх спадніцы. Святочныя — значна прыгажэйшыя і карацейшыя.

— Вышыць выраб пры жаданні змогуць яшчэ многія нашыя жанчыны (адна з экспа-

зіцый якраз і прысвечана сучаснай творчасці мясцовых майстрых), але выткаць менавіта такія фартушкі — ужо не, — зноў з горыччу ў голасе заўважае дырэктар музея. — Хаця я нарадзілася і жыву ў гэтых мясцінах, сама ўмею ткаць і ў вольны час з задавальненнем гэтым займаюся, усё роўна падчас кожнай экскурсіі сама здзіўляюся, як маглі непісьменныя жанчыны выткаць такія шэдэўры. Фартушок шылі з дзвюх палавінак. Таму майстрысе трэба было дакладна вылічыць колькасць тканых радкоў, каб узоры супалі, не «разбегліся»! І заўсёды выраб завяршалі карункі — «крамныя» ці самаробныя.

У бездзежскім краі, які ўключае ў сябе не толькі Бездзеж (цяпер аграгарадок, дзе пражываюць 1200 чалавек), але і іншыя навакольныя вёскі, у фартушках пераважаюць чорны і чырвоны колеры. Не таму, што не было іншых нітак. У народзе лічылі, што чорны і чырвоны засцерагаюць ад нячыстай сілы. На белым палатне яны вельмі прыгожа глядзяцца. А як чаргуюцца палоскі! Вось ідзе тканы каляровы радок, потым вышыўка, ды такім малюсенькім крыжыкам, што дзіву даешся, як яго наогул вылічвалі. Таму бездзежскіх жанчын можна было пазнаць здалёк. Ідучы на вяселле, проста ў госці, у царкву ці ў цэнтр вёскі, які тутэйшыя жыхары называлі «місто», кабеты абавязкова завязвалі фартушкі.

І такая традыцыя захоўвалася яшчэ тры дзесяцігоддзі таму. Пасля васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя гэтая мода знікла. Цяпер жа ўбачыць фартушкі можна толькі ва ўборах пажылых жанчын, калі яны падчас рэлігійных свят крочаць у царкву. І як прыгожа глядзяцца бабулі ў гэтым адзенні! Прынамсі, у кожнай дома, у куфры, фартушкі ўсё яшчэ захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне. І ніхто нават думкі не дапускае, каб выкінуць іх з хаты.

— Дарэчы, што вельмі цікава, у кожнай гаспадыні было больш дванаццаці фартушкоў — па колькасці найважнейшых рэлігійных свят. На Каляды насілі адзін, на Стары Новы год — іншы і гэтак далей. Таму трэба было кожны аздабляць па-новаму, ствараць новыя ўзоры. Васількі, ружы, рамонкі — усё, што расце на тутэйшай зямлі, трапляла ў выглядзе вышыўкі на палатно.



*Уборы маладых.*

Міжволі вока спыняецца на трох фартушках, якія вельмі адрозніваюцца вышыўкай ад сваіх «сабратоў». Чаму? Аказваецца, дзяўчына з іншай вёскі выйшла замуж у Бездзеж. Убачыўшы, што мясцовыя кабеты ходзяць штодзень у прыгожых фартушках, пачала сама іх ткаць і вышываць. Але выбрала свой шлях у майстэрстве: вось па палатне скачуць зайчыкі, ляцяць сняжынкі, а тут стаяць гарлачыкі з кветкамі. Свае, без перабольшання, шэдэўры жанчына падарыла музею.

Вясельны ўбор тутэйшай маладой таксама не абыходзіўся без фартушка, які дзяўчына сама сабе рыхтавала доўгімі зімовымі вечарамі. На яе галаве быў своеасаблівы вяночак, які называўся ў народзе «пава». Можа, адсюль і нарадзіўся выраз «пайшла як пава». Такі вяночак надзявалі ва ўсіх навакольных вёсках як Драгічынскага раёна, так і суседняга — Іванаўскага. Майстравалі паву з папяровых кветак, пераплятаючы барвінкам. Зімою нават адкопвалі расліну з-пад снегу.

У мінулыя часы з ільнянога палатна вяскоўцы шылі ўсё адзенне — кашулі, спадніцы, нагавіцы, паясы, якія таксама прадстаўлены ў музеі. Бездзеж мае шэраг асаблівасцей у назвах і спосабах нашэння, характары аздаблення традыцыйнага сялянскага адзення, што і падкрэслена ў экспазіцыі. Нельга не звярнуць увагу на дзіцячую кашулю, якую бабуля Марыі Міхаўлаўны сшыла яшчэ для яе маці — Ніны Міхайлаўны, калі той споўніўся годзік. Кашулі семдзесят гадоў, але і сёння яна выглядае вельмі хораша.

— Да адзінаццаці гадоў як дзяўчынкі, так і хлопчыкі хадзілі ў та-

кіх кашулях і, абавязкова, з павязанаю галавою, — тлумачыць Марыя Міхайлаўна. — Толькі пасля хлопчыкам шылі штаны. Было гэта яшчэ да Другой сусветнай вайны.

На ганаровым месцы ў экспазіцыі — ткацкі станок, на якім і ствараліся адмысловыя ўзоры. Ткуць у Бездзежы і навакольных вёсках і сёння, асабліва зімой, у Піліпаўскі пост. З-пад рук майстрых выходзяць навалачкі, прасціны, пакрывалы-«вясёлкі», але, зразумела, не так масава, як раней. Да гэтага часу людзі ў тутэйшых вёсках спяць на даматканай бялізне, якая захоўвае цяпло рук майстрых. Тутэйшыя гаспадыні ўжо на практыцы праверылі, што іх ільняныя вырабы вельмі добра мыюцца ў сучасных машынах-аўтаматах.



*Дзіцячая сукенка.*

Але садзяцца за ткацкі станок звычайна жанчыны ва ўзросце больш сарака гадоў, — расказвае далей Марыя Астаповіч. — Маладзейшыя, на жаль, не спяшаюцца дакрануцца да самабытнага майстэрства. Можа, з часам і вернецца мода на гэты занятак, бо кожная майстрыха стараецца перадаць свае навыкі дзецям, унукам, калі ў тых ёсць жаданне сесці за станок і тварыць. Інакш гэтае рамяство і не пазначыш: паўтораў і пераймалняў узораў у вырабах амаль не сустракаецца.

Многія пытаюцца, чаму не стварылі звычайны краязнаўчы музей у Драгічыне. Калі пачалі збіраць экспанаты, убачылі, што ў бездзежскім краі маюцца шматлікія ўзоры вышыўкі і ткацтва. Само сабой узнікла пытанне: навошта ўсё везці ў райцэнтр? Можна ж адкрыць музей на месцы. Амаль закінуты будынак былой школы адрамантавалі і стварылі музей.

Як жа нарадзілася яго назва? — часта цікавяцца наведвальнікі. Адказ просты: спачатку была сабрана ўнушальная калекцыя фартушкоў. Вось адсюль і назва. На мой погляд, вельмі ўдалая. І гучыць як сапраўдны брэнд.

Марыя Астаповіч — ужо трэці дырэктар музея (з 2008 года). Першым была Галіна Абрамовіч, другім — Лідзія Шыльпук. Нельга не ўспомніць гэтых кіраўнікоў, бо яны таксама прыклалі шмат намаганняў для таго, каб музей «загучаў» і займеў высокі ўзровень.

Музей аказвае і платныя паслугі. Сёлета пачалі праводзіць урачысты роспіс маладых у зале «Сучаснае ткацтва і вышыўка». Тут жа, па папярэдняй дамоўленасці з турыстычнымі групамі, часта выступаюць удзельнікі ансамбля народнай песні і музыкі «Сваякі» і народны фальклорны калектыў «Купалінка». Госці могуць, пры жаданні, пачаставацца традыцыйнымі стравамі мясцовай кухні: хлебам з печы, салам, макухай. Дарэчы, мала хто ведае, што гэта за ежа. Макуха, як высветлілася, — падсушанае, здробненае і падсоленае льняное семя, у якое прынята было мачаць хлеб, бульбу, агуркі — потым доўга не хацелася есці. Яшчэ гэта вельмі смачная прыправа да таго ж сала.

У супрацоўнікаў музея шмат цікавых задумак на бліжэйшую будучыню. Напрыклад, прэзідэнцкую прэмію вырашылі адразу пусціць у справу: побач з музеем купілі хату з гаспадарчымі пабудовамі і ўжо ствараюць сялянскі падворак у старадаўнім стылі. Палову дома зойме кухня з печчу, у якой будзе гатавацца ежа для турыстаў, а ў другой частцы размесціцца гасцінічны нумар з камінам і ўсімі выгодамі. Саму хату вырашылі накрыць чаротам, як гэта прынята было калісьці. А ў вёсцы Какорыца знайшліся людзі, якія добра разбіраюцца ў гэтай справе і абяцалі дапамагчы. Вырасце штат супрацоўнікаў музея — з трох да пяці, бо на «Сялянскім падворку» з'явяцца Гаспадар з Гаспадыняй. Іх задача — весці ўсе хатнія справы і ствараць камфортныя ўмовы для гасцей, якія едуць сюды як з многіх куткоў Беларусі, так і з Расіі, Польшчы, Галандыі...

***Раіса МАРЧУК***

Фота аўтара.

# КРОТАЎСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

## *Дакументальны нарыс*

**З**-за высокага і яшчэ новага плота далятае:

— А каб ты спруцянела, як малое было. Бач, усе градкі перакапаў. І як жа ты пралез, здаецца, усе дзіркі пазатыкала. Гэта ж не кабан, а нейкая воўчая парода. — У агародзе старая кабета не можа ўгнацца за жвавым парсючком.

— А калі спруцянее, дык на ўсё сяло завойкаеш, мяне так не пашкадуеш, — насмешліва аднекуль збоку хлява адгукаецца скрыпучы мужчынскі голас.

Збочыць да плота мяне змушае іншамарка, з якой у чэрвеньскі водар сельскага быцця ўлятае густое «бу-та-бум». Музыкі не чуваць, толькі гэтае «бум», што нават заглушае вішчанне парсюка, якому, відаць, добра перапала ці то ад бабы, ці то ад дзеда.

У вёску Кротава, што цяпер у Іванаўскім раёне, мяне паклікалі падзеі, якія адбыліся тут адразу пасля яе вызвалення ад фашысцкіх акупантаў.

* * *

…Жнівеньская ноч 1944 года была душная, спавітая цішынёю. Чутно было, як у садзе, што рос побач з пракуратураю, ападалі на дол цяжкія антонаўкі. Віктар Марозаў, пракурор Жабчыцкага раёна, прысеў на край ганка, дастаў з вялікага срэбранага партсігара «казбечыну», закурыў. Партсігар быў падарункам ад сяброў, з якімі развітаўся ў Мінску дзесяць дзён таму. Яны тады, выпіўшы і прыкусіўшы ў прывакзальнай з цёмна-зялёнымі сценамі сталовай, абмяняліся паміж сабою тым, што трапілася пад руку. Немалая група маладых следчых з Саратаўскай школы МУС была размеркавана на розныя пасады ў вызваленыя ад немцаў раёны Беларусі. Марозава накіравалі ў следчы аддзел Пінскага абласнога ўпраўлення МУС, тры дні і пабыў на новай пасадзе, затым кіраўніцтва нешта хутка перайначыла:

— Таварыш Марозаў, пазнаёміўшыся з вашай асабістай справай, мы вырашылі накіраваць вас пракурорам у Жабчыцкі раён. А калі дакладней, то ў Малоткавічы, што недалёка ад Пінска. Туды зараз пойдзе машына, вось і адпраўляйцеся.

Нават не спыталі, што ён наконт гэтага думае. Загад ёсць загад.

— Жыллё для вас знойдзена. Галоўная задача — як мага хутчэй правесці прызыў. Часцям дзеючай арміі патрэбна папаўненне.

Таго ж дня ў райкаме партыі дапазна абмяркоўвалі справы з прызывам. Як дакладваў начальнік райаддзела НКУС лейтэнант Іван Саковіч, па звестках, атрыманых ад актывістаў (ён чамусьці так называў сваіх сакрэтных супрацоўнікаў), вялікі лагер дэзерціраў размясціўся ў лясах паміж населенымі пунктамі Кротава і Якша.

Як далажыў актывіст, іх там каля паўтары сотні абаснавалася ва ўрочышчы Вярхі.

Вызначыліся, што для падтрымкі мясцовай міліцыі патрабуецца рота байцоў знішчальнага батальёна з Пінска. Батальён стварылі дзён дзесяць таму з камсамольскіх актывістаў, якія па медыцынскіх паказаннях былі непрыгодныя для службы ў баявых часцях. Значная частка батальёна складалася з юнакоў дапрызыўнага ўзросту.

— Знайшлі ваяк, — супрацоўнікі міліцыі хмурыліся, — пачуюць страляніну ды кінуцца хто куды.

— Не кінуцца. Яны за савецкую ўладу гарой. Усе — добраахвотнікі.

На тым і разышліся. Аперацыю прызначылі на 21 жніўня.

— Наперадзе яшчэ тры дні, каб усё абмеркаваць. Пасля робім аблаву.

Марозаў прапанаваў:

— Там ёсць зброя, і мы ўсе пра гэта ведаем. Значыць, будзе горача. А можа, без страляніны абыдземся? Дамовімся, растлумачым, што ды як. Думаю, што з імі яшчэ не размаўлялі.

Намеснік абласнога пракурора Сяркоў, які прымаў удзел у пасяджэнні, нахмурыўся:

— Ужо адзін раз паразмаўлялі… Ды з кім дамаўляцца, з дэзерцірамі? Нас у Мінску не зразумеюць. Мала нам лагішынскай плямы. Тут мы павінны паказаць, што ёсць улада і яна патрабуе падпарадкоўвацца законам.

Пра лагішынскую пляму Сяркоў сказаў недарма. Тыдзень таму Лагішынскі райваенкамат укамплектаваў дзве роты прызыўнікоў, звыш двухсот чалавек, і адправіў на станцыю Ганцавічы, дзе іх чакаў эшалон. З мястэчка выйшлі бадзёра, ды па дарозе прызыўнікі, калі ішлі праз свае вёскі, разбегліся. Факт масавага дэзерцірства адразу хваляй пракаціўся па калідорах аблвыканкама. Далажылі наверх. Высока наверх. Моцна загрукалі дзверы ў кабінетах. І пайшлі разборкі, ды яшчэ якія. Знялі з пасад лагішынскіх старшынь райкама партыі, райвыканкама, аддалі пад трыбунал ваенкома. На пасяджэнні абкама партыі адзначалася, што для суправаджэння прызыўнікоў была выдзелена недастатковая ахова. «Таварышы згубілі палітычную пільнасць!» Цяпер па лясах, што наўкола вёсак Лышча, Дабраслаўка, Бобрык, Малая Плотніца, Забярэззе, праводзіліся вышуковыя акцыі. Сівабародыя дзяды пасміхаліся: «Шукай ветру ў полі. Тут немец нікога за тры гады знайсці не змог, а то яны знойдуць».

Сяркоў назваў прыкладныя лічбы, колькі дэзерціраў бадзялася па вобласці. Лічба цягнула да некалькіх тысяч. Толькі ў Жабчыцкім раёне яна дасягала амаль паўтысячы чалавек.

— Няхай памылка стане для нас урокам, — намеснік абласнога пракурора некалькі разоў паўтарыў гэтую фразу. — Таму ніякіх дамоўленасцей з дэзерцірамі. Адзінае, што зробім, дык гэта праз іх родных давядзём: калі за адзначаны час хто з’явіцца дабравольна, будзе таму ад улады і ваенкамата давер. А не — дык трыбунал і штрафная рота.

За плотам зноў адзін за другім пацалавалі зямлю яблыкі. Удзень знайшоў у траве і куснуў такую антонаўку. Як бач звяло скулы, да таго кіслаю яна была.

— Іх разам з капустаю ды ў бочку, вось тады вельмі смачныя, — растлумачыла гаспадыня, — зімою дам вам паспрабаваць… А зараз падаюць такія, якія чарвяк прабіў, хаця з выгляду і моцныя.

Яна гаварыла так, быццам зіма ўжо не за гарамі.

— Вунь там, ля плота, чырванеюць смачнейшыя. Але яны хутка гніюць. Антонаўка ж можа і да вясны ляжаць.

За чырвонымі яблыкамі ён не пайшоў, і гаспадыня сама прынесла ў кабінет невялічкі кошык.

— Пане пракурор, спрабуйце. Калі яблычак пад рукою, дык і справа ладней ідзе. Шалёны год на яблыкі, да таго шалёны, што я на сваім вяку такога яшчэ не бачыла.

— Не пан, а таварыш, — ён ніяк не мог прывыкнуць да такога звароту сярод мясцовых і адчуваў сябе вельмі няёмка.

* * *

Марозаў дакурыў папяросу, уздыхнуў. Сціскаў сэрца нейкі смутак: «Не можа такога быць, каб у лесе не знайшлося разумных людзей. Не век жа ім там сядзець. Скончыцца вайна, і што тады, што тады?» — На фронце ён знаў адно: вораг той, хто ў цябе страляе. А тут як быць? — «Што ж, пераначуем — болей пачуем. Заўтра і паглядзім».

Гэтае заўтра ўжо праглядвала на двары светлаю палоскаю над дальнім ускрайкам Малоткавіч.

Саковіч, пацёрты жыццём чалавек, на прапанову паслаць да дэзерціраў прадстаўнікоў райвыканкама (маўляў, і старшыня райвыканкама Андрэй Прыступа згодны з гэтым) адно крутнуў галавою і доўга ганяў пад тугою скураю жаўлакі, стукаў кулаком аб кулак:

— Нават і не ведаю, што сказаць. Там ёсць такія, хто пры немцах тут здзекі чыніў над людзьмі дый зараз не супраць паздзекавацца. Вось з кім ты хочаш дамаўляцца. І што? Падумай. Сяркоў не дурны. Тады нам усім будзе тое, што і лагішынцам. Не паглядзяць ні на чыны, ні на заслугі.

— А калі страляніна? Нехта ж яе ды распачне. Што тады? Не, я сам у той лагер пайду.

Саковіч хмура пахітаў галавою:

— Ну, таварыш пракурор, заладзіў: страляніна, страляніна… Куды ад яе дзецца, калі вайна?

— Вайна ўжо там, — махнуў на захад рукою Марозаў, — а тут, тут вось антонаўкі ў садзе падаюць. Вы ж ведаеце, што для арміі патрэбна папаўненне, а мёртвых ужо і так зашмат.

У Кротава, досыць вялікае сяло, набрынялае водарам яблыкаў, жыта, што стаяла ў копнах, Марозаў прыехаў перад абедам. Адразу папрасіў старшыню сельвыканкама Лазарчука сабраць актывістаў. Прыехаў бы раней, але вырашыў пабываць і пагутарыць з мясцовымі жыхарамі ў Полкацічах і Навасёлках. Балазе, гэта недалёка. У Полкацічах і Навасёлках, акрамя дзяўчат, што сядзелі каля тэлефонаў з важнецкім выглядам, нікога болей не застаў. Дзяўчаты паведамілі, што іх прызначылі дзяжурнымі, а начальства сярод будня знайсці цяжка.

— Можа, дзе ў раёне, а можа і па сваіх справах…

У Полкацічах дык прапанавалі пагаварыць з мясцовым святаром.

— Людзі яго слухаюцца.

— Не, мне святар не патрэбны. Няма старшыні, дык і няма з кім гаварыць.

У Кротаўскім клубе сабралася трохі вяскоўцаў.

Лазарчук развёў рукамі.

— Прабачце, таварыш пракурор, але ад пасяджэнняў дзеці сытымі не будуць.

— Разумею. Толькі гэта не пасяджэнне. Вы ж ведаеце: ідзе прызыў. Нехта кінуўся ад яго ў лес. У жыцці ўсялякіх момантаў хапае. Таму хачу праз вас давесці, што ўлада нікому зла не жадае. Ведаю, што з Кротава, з тых жа Полкацічаў, Навасёлак значная частка мужыкоў дабравольна пайшла на фронт біць ворага, і там яны кладуць жыццё за нашу з вамі перамогу. Ды толькі не ўсе, каму ваенкамат даслаў павесткі, з’явіліся. Многія пахаваліся ў лясы, а гэта ж супраціўленне закону. Ды ці можна ад улады схавацца? Ідзіце ў лес і пагаварыце з імі! Прывядзіце іх да мяне. Я буду чакаць у сельсавеце. І начаваць буду тут. Колькі спатрэбіцца, столькі і буду чакаць.

Народ разышоўся. Марозаў спытаў у Лазарчука:

— Як думаеце, адклікнецца хоць адзін ці не?

— Не ведаю. Чужая душа — цёмны лес.

— Выходзіць, сілу прымяняць трэба?

— Народ цяпер і да кулі адносіцца так, як да цвіка ў сцяне: тырчыць і тырчыць. Прывык. А там людзі розныя. У каго сямёра на ўслончыку ля стала садзяцца. Згіне на фронце, і што тады? Бачу, вам шкада чалавека. Гэта па-людску, — ён пабарабаніў па стале худымі пальцамі, прапанаваў: — Можа, сюды што перакусіць прынесці? Ці да мяне пойдзем?

— Жадаеце, дык сюды.

— Вось і добра. Салдацікам скажыце, няхай у тым пакойчыку сцелюцца, а вы тут, на канапе. Яна яшчэ ад немцаў засталася, мяккая. Святло не паліце, наўкола ведаюць, што вы ў сельсавеце.

Пад раніцу ў дзверы ці то пастукалі, ці то паскрэблі. Шафёр з ахоўнікам — адразу за вінтоўкі. Увайшла маладзіца, прыкрываючы прыгожы заплаканы твар хусцінкай, запыталася:

— Паночку пракурор, ці не змаглі б вы да нас пайсці?

Ён зірнуў на салдат, тыя адмоўна паківалі галовамі.

— А што там у вас?

— З вамі вельмі хочуць пагаварыць. Я вас прашу, і цётка Ганна просіць… І цётка Марыля…

— Дык аб чым просяць?

— Вы гаварылі пра амністыю… Дык там хочуць усё ад вас пачуць. Пане пракурор, сказалі, у ногі бухніся, толькі прывядзі яго.

Марозаў зразумеў, аб чым ішла гаворка.

— Добра! Базылевіч, заставайцеся тут, я пайду адзін.

— Таварыш пракурор, а калі што…

— Ну, калі што, тады выбачай, што цябе не паслухаўся.

* * *

У хаце рассейваўся ранішні змрок. Дзверы былі нізкаватыя, і Марозаў нагнуўся, схіліў галаву. Некалькі жанчын вялі паміж сабою нетаропкую гамонку — з уздыхамі, усхліпамі. Згледзеўшы пракурора, хуценька падняліся з услончыка, што стаяў ля сцяны побач са сталом, і прыселі толькі пасля таго, як Марозаў прымасціўся на табурэце. Маўчалі жанчыны, маўчаў і Марозаў. Танюсенькая нітачка даверу ці недаверу вілася паміж людзьмі, якія яшчэ не ведалі, што будзе

напрыканцы: ці абарвецца нешта, ці нешта вытчацца.

Адна з жанчын, ці не самая старэйшая, уздыхнула:

— Што ж, так і будзем прыглядацца, пакуль карова ў хляве замычыць, на пашу папросіцца…

Марозаў усміхнуўся:

— Сяджу, чакаю. Хачу даведацца, чаго паклікалі.

— Людзі гавораць, маўляў, хто добраахвотна з лесу выйдзе ды пойдзе на фронт, таго караць не будзеце?

— Правільна гавораць.

— Некаторыя думаюць, што лепей у турме пасядзець, чым на фронце загінуць. У турме яшчэ можна выжыць, а заходнікаў дык адразу на нямецкія кулямёты пагоняць…

— Гэта калі да турмы справа дойдзе, — нахмурыўся Марозаў. — Зараз дзейнічаюць законы ваеннага часу. Немца мы адолеем — з вашымі мужыкамі ці без іх. Наша армія ўжо ў Польшчы, пад Кёнігсбергам. Год ці паўгода — і да Германіі дабяромся. А тых, хто ў лесе, будзем лавіць. Без страляніны, майце на ўвазе, не абыдзецца. Думаю, у такіх умовах самае лепшае — быць з уладаю разам. Калі б яна людзям не давярала, то я за гэтым сталом цяпер не сядзеў бы.

— Мо яно і так. Ці пане пракурор перакусіць што? Яечню згатуем, ёсць бульба, рассыпістая… Як вы мяркуеце, пане пракурор?

— Можна і перакусіць.

— Ну вось і добра, тады, Марылька, сцялі абрус ды накрывай стол, — старэйшая з жанчын, якая вяла размову, паднялася, — а я хуценька да сябе збегаю.

Вярнулася не адна. Першымі у хату, ваўкавата азіраючыся, увайшлі некалькі стомленых з выгляду, няголеных мужыкоў, моўчкі прыселі. Жанчыны працягвалі стаяць. І зноў павісла напружаная цішыня. Біліся ў шыбіны ранішнія мухі. На двары кохкаў певень.

— Кабура пустая ці мо наганам страшыць будзеце?

— Пустая, — і Марозаў пастукаў па кабуры.

— Га, бач ты, пракурор — і без аружжа. Але не пра тое гаворка. Яны тут у адзін голас запэўнілі, — мужчына кіўнуў на жанчын, — што вам можна верыць.

— Галоўнае, каб вы паверылі.

— А не паверым, тады што? Нас столькі разоў падманвалі.

— Гэта вы самі думайце. У лесе жыццё не выседзіш. Спецыяльна прыехаў да вас, каб пагутарыць. Жанчынам гаварыў і вам скажу: і без вас немца адолеем. Гэта не сорак першы. І што тады, хлопцы? Вядома, можна і на фронце загінуць. Я сам колькі разоў смерці ў твар глядзеў. Гэтыя ордэны — пацвярджэнне. Мне ў вобласці сказалі, што сярод вас, дэзерціраў, ёсць разумныя людзі, якім можна давесці, што ўлада нікога крыўдзіць не збіраецца. Калі, вядома, рукі не запэцканы крывёю.

— Але ж крыўдзіла? У трыццаць дзявятым ды саракавым.

— Можа, што і было, я за тое не ў адказе. Прыйдзе час, і ўсё стане на сваё месца, а зараз ваша месца на фронце. Дзеля сябе, дзеля дзяцей. Так што добра думайце, хлопцы.

— Мы ўжо падумалі, калі на сустрэчу ішлі, — дзядзька ляснуў моцнаю даланёю па стале. — Колькі часу на зборы?

— Да абеду. У абед чакаю каля сельсавета. Згодны? Вось і добра. Я пайшоў, а вы садзіцеся да стала, вунь якую патэльню яечні вам прыгатавалі, ды яшчэ з бульбаю… — Марозаў усміхнуўся. У вокны цякло святло новага дня.

К абеду ля сельсавета сабралася шмат народу. Столькі, колькі сяло не бачыла з даваеннага часу. Жанчыны, дзеці, мужыкі і юнакі з мяшкамі за спінамі. Некаторыя прынеслі з сабою вінтоўкі, нямецкія аўтаматы, нават гранаты, і здавалі іх радавому Базылевічу, які ўсё старанна перапісваў і складваў у сельсавеце. Сам Базылевіч, чалавек у гадах, прызываўся аднекуль з Гомельскай вобласці, быў з камендацкага ўзвода. Салдат, якога куды ні пашлі, зробіць усё сумленна.

Людзі прыходзілі нават з навакольных вёсак. Лазарчук толькі ўсхвалявана круціў галавою:

— Паверыў вам народ, таварыш пракурор, паверыў. Бачу нават тых, наконт каго вельмі сумняваўся.

— А сумнявацца не патрэбна. Чужых тут няма. Рабі спіс. Гэта для ваенкамата. Сем'ям франтавікоў дзяржава будзе аказваць дапамогу, і мы павінны мець парадак. Пішы пад кальку. Мне адзін экзэмпляр дасі ды для ваенкамата.

Ніколі яшчэ так лагодна не было ў Марозава на душы, як цяпер. Базылевіч толькі рукамі разводзіў:

— Тэлефануйце ў раён, таварыш пракурор, няхай падмогу для аховы прысылаюць. Цяпер вы дакладна ордэн атрымаеце. Паглядзіце, колькі living зброі прынеслі; гэта ж на цэлы ўзвод.

Тым часам Лазарчук скончыў запісваць, адначасова кожнаму на рукі выдаў павестку пра прызыў, і кожны асабіста распісаўся, што атрымаў яе. Радавы Базылевіч разам з шафёрам перанеслі зброю ў палутарку, загрузілі ў абцягнуты зялёнаю парусінаю кузаў. На плошчы ля сельсавета не сціхалі гамонка, плач, нехта нават прынёс гармонік і спрабаваў нешта на ім рыпаць, а дзетвара лётала з вясёлым крыкам.

— Цяпер поўны парадак, — уладкоўваючы скрынку з гранатамі ў кабіну, задаволена пацёр рукі Базылевіч. — Таварыш пракурор, яна тут не памяшае? Ногі памесцяцца? У кузаве надта трасе, гранаты ўсё-ткі. Вось і добра… Цяпер будзем чакаць дапамогі.

— Нікога чакаць не будзем. Павязеш зброю, а я павяду калону.

— Як так?

— Ды так, пёхам, Базылевіч, пёхам. Яшчэ не развучыўся хадзіць пёхам? На Сталінградскім фронце я і нахадзіўся, і набегаўся.

Падышоў Лазарчук, паказаў спіс:

— Сто два чалавекі. Ведаю, што не ўсе. Хлопцы гавораць, што з паўсотні чалавек яшчэ ўсё ў роздуме. Маўляў, калі вас пад кулямёт не паставяць, дык і мы выйдзем.

Пакуль сабраліся, развіталіся, дык час прайшоў, сонца на вечар схілілася. Лазарчук занепакоіўся:

— Да цемнаты ў Малоткавічы не дойдзем.

— Дойдзем! Вы са мною? Добра, тады заклікайце на пастраенне, і наперад.

Марозаў агледзеў калону. Многія з мужыкоў былі нападпітку. Некаторых амаль пад рукі падтрымлівалі. «Вось і ідзі з такімі».

— Таварышы салдаты! — ён так і сказаў: «Таварышы салдаты!» Гучна, быццам скамандаваў свайму ўзводу там, пад Сталінградам. І плошча раптам прыціхла. Нават тыя, хто хістаўся, расправілі плечы.

— Таварышы салдаты, слухай маю каманду! Рэчмяшкі пакласці ў машыну. У Малоткавічах забераце. Так, добра. А цяпер — напра-ва! За мной шагам марш!

Зноўку рыпнуў гармонік, але яго заглушылі плач, крыкі… Нехта заспяваў прыпеўку. Калона калыхнулася, Марозаву на нейкі момант здалося, што яшчэ хвіліна-другая, і яна рассыплецца, распадзецца і знікне паміж хатамі ды хлявамі ў накірунку лесу. Але не знікла. Лазарчук падміргнуў мужыку, які стаяў побач, таму самаму, што быў у Ганнінай хаце, і яны заспявалі:

Роспрягайтэ, хлопцы, коней
Та лягайтэ спочываць,
А я пійду в сад зэлены,
В сад крынычэньку копаць.

Марозаў не ведаў гэтую песню, але таксама нешта заспяваў разам з усімі. І калона пакрочыла.

Ужо змяркалася, калі яны падыходзілі да раённага ваенкамата…

У ноч з нядзелі на панядзелак урочышча Вярхі было акружана салдатамі МУС і байцамі знішчальнага батальёна, толькі там нікога не засталі.

У Пінску начальства не ведала, дзякаваць Марозаву ці аб’яўляць вымову. З абкама партыі нават прапанавалі перавесці на іншую пасаду, бо што гэта за пракурор, які садзіцца на адну лаўку з дэзерцірамі. Да таго ж, трэцяя частка іх засталася ў лесе. «Калі б акружылі, то мог быць іншы вынік».

У Мінск пайшла дакладная:

*«Звышсакрэтна.*

*Пракурору Беларускай ССР, дзяржаўнаму саветніку юстыцыі 2-га класа таварышу Ветраву І. Д.*

*У ноч з 21 на 22 жніўня 1944 года ў Жабчыцкім раёне ліквідавана група дэзерціраў у складзе 102 чалавек. Усе прайшлі праверку і накіраваны ў Дзеючую армію».*

Пракурору Жабчыцкага раёна Марозаву Віктару Фёдаравічу ўсё ж аб’явілі вымову.

* * *

На пачатку снежня на сумесным пасяджэнні абкама партыі, аблвыканкама, пракуратуры, упраўленняў МУС і НКУС разглядалася пытанне аб хутчэйшай ліквідацыі дэзерцірскіх груп на тэрыторыі вобласці. Вялікую занепакоенасць выклікала аператыўная абстаноўка. Былі атрыманы звесткі, што 28 кастрычніка з Украіны пад Невель выйшла добра ўзброенае падраздзяленне

бандэраўцаў. Агентурныя даныя розніліся. У адных сведчылася пра пяць соцень, у другіх — што там налічвалася каля трохсот чалавек. Бандэраўцы мелі станкавыя кулямёты, рацыі, паходныя кухні… Як дакладваў начальнік упраўлення НКУС, бандэраўцы лічаць дэзерціраў сваім галоўным рэзервам: «Маюць намер захапіць на тэрыторыі вобласці невялікі райцэнтр і абвясціць пра народнае паўстанне супраць бальшавікоў. Акцыя планавала захоп і некаторых райцэнтраў у Ровенскай і Львоўскай абласцях. Калі ім удасца гэта зрабіць, то міжнародны рэзананс можа вельмі нашкодзіць нашай краіне».

Агентура дакладвала, што галоўная база бандэраўцаў размяшчалася недзе каля Омыта ці Нобеля. Меркавалася, яны хутчэй за ўсё пойдуць наступам на Столін ці Давыд-Гарадок.

— Гэта тыя райцэнтры, якія яны пастараюцца захапіць. Абкам партыі і аблвыканкам робяць усё, каб узмацніць іх ахову. Туды перакінута і значная частка сіл з Пінска. Але нам трэба быць пільнымі, бо іх сапраўдныя планы невядомы.

У абкаме партыі вялікую занепакоенасць выклікаў лагер дэзерціраў, які знаходзіўся ва ўрочышчы Шулякі паблізу вёскі Гошча Калонскага сельсавета. Яго патрабавалася ліквідаваць як мага хучэй. У лагеры налічвалася звыш двухсот чалавек, многія са зброяй.

— Мы папярэджвалі кіраўніцтва раёна, але там нічога не зрабілі, цяпер маем праблему.

На ліквідацыю гошчаўскага лагера, як ён называўся ў афіцыйных дакументах, былі кінуты супрацоўнікі НКУС і МУС Пінска, Целяханскага, Лагішынскага і Жабчыцкага раёнаў, каменданцкія ўзводы, знішчальны батальён. Правядзенне аперацыі спланавалі на ноч з 3 на 4 снежня. Усе сілы, сабраныя для гошчаўскай акцыі, павінны былі прыбыць у вёску Клятная да абеду.

Лейтэнант Саковіч казаў, што гэтага мала, бо лагер паміж Гошчаю і Клятною раскіданы па даволі вялікай тэрыторыі.

— Мне тэлефанавалі з Целяханскага райаддзела НКУС, паведамілі, што снегу многа, а балота не замёрзла… Будуць праблемы. Заслаць бы цябе туды, Марозаў, можа, таксама дагаварыўся б? Хаця хлопцы з Целяхан упэўнены, што без страляніны ўсё роўна не абыдзецца, што ў лагеры многа тых, каму наша ўлада — косткаю ў горле, — уздыхнуў Саковіч. — Трэба шукаць гумавыя боты, а то салдатам валёнкі выдалі. Ведаеш, баюся, каб бандэраўцы сюды не сунуліся.

Гэтай сваёй трывогай падзяліўся з начальствам у Пінску. Нават падрабязна распавёў, чаму іх можна чакаць у гэтых мясцінах. Але ў адказ пачуў: маўляў, не будзь такім разумнікам, без цябе ведаем, што да чаго.

У Клятной доўга чакалі целяханцаў. Тыя дабіраліся напрасткі, праз Калонск. Машыны правальліліся ў снег, давялося вяртацца, мабілізоўваць гаспадароў з санямі. Лагішынцы таксама ўмясціліся на некалькіх санях, але ўсе аказаліся лёгка апранутымі, а байцы знішчальнага батальёна дык наогул у чаравіках, што атрымалі летам на складзе. Заляскаўшы зубамі ад холаду, яны, каб сагрэцца, хуценька разышліся па хатах. Аператыўнікі скардзіліся адзін аднаму, што акцыя да канца не прадумана. Але к вечару ўсё ўладкавалася. Навокал вёскі выставілі «сакрэты», каб ніхто не змог выйсці і папярэдзіць тых, хто хаваўся ў лесе. Прынялі рашэнне наступаць трыма групамі. Дзве абыйдуць лагер з флангаў, адна перакрые шляхі паміж самім урочышчам і Клятною.

Ноч была марозная, зорная, такая ціхая, што хруст зламаных галінак гучаў, як стрэлы. Міліцыянеры і «нкусаўцы» былі наперадзе. Камандаванне загадала, каб дарма ніхто не рызыкаваў: «Беражыце моладзь. Там ёсць і надта гарачыя».

Раптоўнасці не атрымалася. Ужо каля самага лагера пачалася страляніна, якая хутка перарасла ў вялікі бой. Білі кулямёты, бумкалі гранаты. З невялічкімі перапынкамі ён доўжыўся да самай раніцы. Потым даведаліся, што ў лагер усё-ткі прыбег нехта з мясцовых жыхароў і там паспелі падрыхтавацца.

Перавага аказалася на баку наступаючых, бо супраць кулямётаў не папрэш. Калі выйшлі на стаянкі, то ўбачылі, што на некалькіх пагорках стаялі дабротныя паўзямлянкі, паўбуданы з жалезнымі печкамі. У адным нават была майстэрня па рамонце абутку, у другім вісела шмат пасталоў, ці «чуняў», як іх тут называлі, выробленых са старых аўтамабільных пакрышак...

— Бач, час дарма не гублялі.

Пачалі падводзіць вынікі, і аказаліся яны не вельмі прыемнымі.

На адзін з пагоркаў зносілі параненых: сваіх і чужых — усіх разам. Іх адразу валетам клалі на сані і хуценька везлі ў Клятную, адтуль у Лагішын. З дзясятак чалавек аказаліся абмарожанымі. Гэта былі юнакі са знішчальнага батальёна. Потым узяліся прыбіраць з халоднага, прасмуроджанага парахавым гарам, пабітага чорнай воспай узрываў балота і паўшых.

Санак не хапала. Было загадана: сваіх грузіць і адвозіць у Клятную, а дэзерціраў знесці ў яму з-пад будана і там засыпаць. На прапанову, каб іх таксама адвезці для апазнання, нехта выказаўся, што калі тры тыдні таму зачапілі ў лесе пад Пучынамі банду лышчанскага мельніка Фёдара Грэчкі і чатырох забітых бандытаў прывезлі ў тыя ж самыя Пучыны для апазнання, то ніхто з вяскоўцаў глядзець на іх не прыйшоў. Потым вазілі ў Забараўцы, Лышча... Тое ж самае. Прыйшлося закапаць побач з могілкамі. Ні табе імён, ні табе крыжа.

— Вось і зараз давайце засыплем, ды няхай ляжаць. Зверху можна і прыкідаць чым-небудзь, каб звяры не знюхалі.

*«Звышсакрэтна.*

*Пракурору Беларускай ССР, дзяржаўнаму саветніку юстыцыі 2-га класа таварышу Ветраву І. Д.*

*4 снежня 1944 года ва ўрочышчы Шулякі паміж вёскамі Гошча і Клятная Пінскай вобласці знішчана банда дэзерціраў колькасцю звыш 150 чалавек. У ходзе перастрэлкі забіта 20 чалавек, 11 затрымана. Разбурана 33 жылыя сховішчы».*

Напрыканцы наступнага дня, калі на балоце і пагорках сцішылася, ужо ў прыцемках да былога лагера пад'ехала некалькі санак. Мужыкі кінулі коням сена, самі моўчкі пачалі скідваць з безыменнай магілы галлё. Раскапалі. Нехта ўздыхнуў:

— Добра, што неглыбока.

— Яно-то так, хаця ім усё роўна. Колькі разоў гаварыў: «Васіль, ну з кім ты звязаўся, ты ж быў чалавек чалавекам, і на табе», — прагучала ў адказ.

Разглядалі, грузілі на санкі і везлі ў скрываўленых кажухах, целагрэйках, суконных світках тых, хто невядома чаго шукаў у лесе. Везлі хто радню, хто суседа, а хто і чужака. Некалькі санак накіравалася ў бок Полкаціч і Кротава…

* * *

— Віктар Фёдаравіч, гэта вас турбуе Прыступа. Тут у нас вельмі далікатная справа.

Марозаў ведаў, што па драбязе старшыня райвыканкама турбаваць не будзе.

— Слухаю.

— Дык вось, атрымалі сігнал, што ў Полкацічах мясцовы святар адпяваў забітых дэзерціраў і пахаваў іх на могілках. Супрацоўнікі міліцыі гавораць, што іх у лесе як сабак закапалі, а тут табе ўшанаванне. Маўляў, святар супраць улады ідзе. Трэба паглядзець, што да чаго. Ведаю, што ён карыстаецца вялікай павагай. Таму, каб чарговы раз не раздражняць раён, можа, вам з'ездзіць у Полкацічы каторага дня. Ды запішыце імя святара: Дружылоўскі Феадосій Феліксавіч.

— Я ўжо чуў пра яго.

— Тады вам лягчэй будзе наладзіць размову.

Высокі, моцны для сваіх шасцідзесяці год святар Феадосій крочыў у накірунку сельсавета, думаючы, навошта ён спатрэбіўся пракурору, ды яшчэ гэтак тэрмінова. Задыханы хлопчык з мясцовых камсамольцаў, не паднімаючы вачэй, бубніў:

— Сказалі, каб як мага хучэй, там чакаюць.

— Добра, што цябе, Паўлік, прыслалі. А то маглі б і салдат. Што ж, пойдзем.

Паўлік спяшаўся следам, і калі хто пытаўся, куды гэта яны з бацюшкам накіраваліся, адказваў:

— У сельсавет выклікаюць. Там міліцыя па яго прыехала.

— А чаго?

— Не ведаю. Мусіць, арыштуюць.

Вестка аб тым, што бацюшку выклікалі ў сельсавет, каб арыштаваць, маланкай аблядела Полкацічы.

— Сядайце, Феадосій Феліксавіч, — Марозаў з Саковічам з цікаўнасцю разглядалі святара. Па жыцці ім яшчэ не даводзілася з духоўнымі асобамі сустракацца і гутарыць. Разам са святаром у душны пакой, дзе моцным цяплом сыходзіла знарок напаленая для гасцей грубка, пранік пах зусім не вядомага ні Марозаву, ні Саковічу свету. Для Марозава гэта быў пах з таго далёкага дзяцінства, калі яшчэ не разбурылі вялікую цагляную царкву пасярод рабочага пасёлка на ўскрайку Магілёва.

З-пад кусцістых брывоў на людзей у пагонах глядзелі вочы, у якіх свяціліся дабрыня і спагада. А на твары — спакой, лагода. Маўляў, калі ёсць аб чым гаварыць, дык пагаворым, калі не, дык і моўчкі добра пасядзець.

Марозаў з Саковічам пераглянуліся; яны раптам адчулі нейкую ніякаватасць, чаго з імі раней не здаралася.

— Дык вось, Феадосій Феліксавіч, справа да вас такая, — пачаў Марозаў.

— Вы прабачце, — святар усміхнуўся, паправіў густую сівую бараду, — перш чым аб справе, дазвольце запытаць вашы імёны, ці мо яны сакрэтныя?

— Не, — схамянуўся Марозаў, — выбачайце, ніякага сакрэту няма, завуць мяне Віктар Фёдаравіч, а гэта Іван Міхайлавіч. Дык вось, пытанне, скажам так, чыста маральна-этычнага кшталту. Думаю, што вы здагадваецеся, аб чым пойдзе гаворка.

Святар нічога не адказаў. У калідоры пачулася шматгалоссе. У прачыненыя дзверы прасунулася галава напалоханага старшыні сельсавета:

— Таварыш пракурор, тут народ сабраўся, хвалюецца, пытаецца, навошта арыштавалі святара. Баюся, каб з вашымі хлопцамі не ўсчалі бойку.

— Адкажыце, што ніхто святара не арыштоўваў. У нас толькі гаворка пра сённяшнія справы. Так, Феадосій Феліксавіч?

Святар згодна кіўнуў галавою і зірнуў на старшыню:

— Пятро, скажыце, калі ласка, людзям, каб не турбаваліся, усё ў парадку.

— Вы самі ім скажыце, айцец Феадосій, бо мяне не паслухаюць.

Святар развёў рукамі:

— Прабачце, выйду да іх.

Праз хвіліну ён вярнуўся.

— Нагналі вы страху. Ды і хлопцы вашы дурні з дурняў, пачалі аўтаматамі тыкаць.

— Ніякага страху мы не наганялі, — нахмурыўся Саковіч. — Вы лепш скажыце, Феадосій Феліксавіч, з якіх гэта такіх маральна-этычных нормаў, як сказаў таварыш пракурор, вы сыходзілі, калі вось так, скажам, па-людску, хавалі здраднікаў, дэзерціраў, розных масцей бандытаў.

Святар адказаў не адразу, зноў задуменна паглядзеў і на Саковіча, і на Марозава.

— Вось вы гаворыце, што іх не трэба было хаваць па-людску. Па-людску вы хаваеце, а мы — па-божаску. Для мяне ўсе яны — рабы Божыя. Вы, думаю, камуніст і чалавек няверуючы, і вам гэтага не дадзена зразумець. Мой род болей за чатырыста гадоў спавіты з гэтаю зямлёю. Мой бацька, мае дзяды, прадзеды і прапрадзеды былі святарамі на гэтай зямлі. Вось за гэтыя некалькі месяцаў у сяло прыйшло дванаццаць пахавальных. З-пад Кёнігсберга, Варшавы, яшчэ аднекуль, усіх не ўпомню. Сярод іх два камуністы. Дык людзі са сваім горам пайшлі не ў сельсавет, а ў царкву. І царква не адвярнулася хаця б ад тых жа камуністаў, якія гаварылі, што нам царква не патрэбна. Царква кожнага ўсцешыла. Яны для царквы ўсе рабы Божыя. Гэта для вас адны — героі для мітынгаў і пахаванняў, другія — здраднікі і нікчэмцы, а я ведаю адно: мы ўсе пад Богам ходзім.

Саковіч хмыкнуў:

— Ну, бацюшка, вы і ўмееце. Глядзіш, хрысціцца пачну.

— На ўсё свой час. Я ведаў аднаго такога са свайго прыхода. Чалавек мо быў і неблагі, але… Дык вось ён што ні слова, дык д’ябла ўспамінаў: «А каб мяне д’ябал узяў!» Прымаўка ў яго была такая. У польскі час пабіў польскага стражніка ды і ўцёк ад турмы ў лес. Сядзеў, пакуль Саветы не прыйшлі. Выйшаў, пачалі дзяліць зямлю і яго абдзялілі, дык спаліў хату таму актывісту і зноў падаўся ў лес. Прыйшлі немцы, украў у немцаў каня і ў лес. Яго радню ледзь пад сцяну не паставілі, а ён з лесу ні кроку. Прыйшлі зноў Саветы, выйшаў. Герой не герой, а выйшаў, разам з тым жа канём. Забрала армія ў яго каня, ён зноў у лес. Сам па сабе жыў. Назбіраў на балоце для жонкі два вядры ягад, каб звезла ў Пінск, нёс іх увечары дахаты ды падарваўся на міне. Прывезлі яго ў сяло, а ён паўтарае і паўтарае: «Памру, паклічце бацюшку, паклічце бацюшку». І прасіў: «Страшна мне, памаліся за мяне, бацюшка, памаліся». І ні слова пра д’ябла.

— І дзеля чаго вы гэта распавялі?

— Прыйдзе такая хвіліна для кожнага з нас…

Саковіч усміхнуўся:

— Думаю, што не хутка. А вам трэба добра падумаць, бо ўлада не пацерпіць, калі вы здраднікаў будзеце і далей героямі выстаўляць.

— Я вам пра Кузьму, а вы мне пра Ярому.

— Пакуль, бацюшка, толькі папярэджваем вас, а то будуць вам і Кузьма, і Ярома.

— А мяне ўжо папярэджвалі. Дый не раз. Палякі ў Картуз-Бярозе, калі арыштавалі за тое, быццам бы я стварыў падпольную арганізацыю. У трыццаць шостым, калі сюды прыйшло шмат народу з Расіі, Украіны. Беглі, небаракі, ад голаду, забеглі і да мяне, даў прытулак шасцярым. Дык уладзе падалося, што гэта арганізацыя супраць яе. Немцы незалюбілі за тое, што адпяваў загінуўшых партызан. Цяпер вось вы.

Калі садзіліся ў машыну, каб ехаць у Кротава, дзе не ладзілася з лесанарыхтоўкамі, Саковіч прамовіў:

— Які поп, такі і прыход. Не мяшала б яго звазіць у Малоткавічы, для прафілактыкі. Як лічыш, таварыш пракурор?

— Бачыш, колькі людзей наўкола. Нас не зразумелі б.

— Во-во. Ты ж у іх першы заступнік. А тут, мабыць, нямала такіх, хто ўзрадуецца бандэраўцам. Дарэчы, Драгун з Дмітраніцам, пакуль мы размаўлялі з папом, тэлефанавалі ў Малоткавічы. Адтуль папярэдзілі, што атрад бандэраўцаў аб'явіўся недзе каля Хоцімлева і Пераруб'я. Можа, не будзем заязджаць у Кротава?

— Не, я паабяцаў Лазарчуку.

(У хуткім часе святар Дружылоўскі па навеце будзе пазбаўлены волі і разам з матушкаю Валянцінаю адпраўлены ў Сяміпалацінскую вобласць, адкуль на радзіму ўжо не вернецца. Гісторыя захавала прозвішчы тых, хто напісаў паклёп. Ды толькі…)

* * *

Каля будынка сельсавета шэрыя камяхі вераб'ёў церабілі рэшткі расцярушанага па снезе сена, нешта вышукваючы для сябе. Пад'ехала машына і спудзіла іх.

Марозаў з Саковічам узялі спісы тых, хто не выконваў план лесанарыхтовак, і разам з маладзенькай супрацоўніцай сельсавета пакрочылі па вуліцы да хаты, на якую паказала дзяўчына. Лазарчук з Драгуном і Дмітраніцам пашыбавалі ў процілеглы бок. «Так хутчэй усіх абыдзем».

Драгун яшчэ быў у хаце, калі з двара даляцеў крык: «Бандэраўцы тут!»

Ён выскачыў з хаты і ўбачыў, як Лазарчук з Дмітраніцам кінуліся ў розныя бакі. Ад лесу да вёскі крочыў ланцуг людзей з вінтоўкамі і аўтаматамі наперавес. Згледзеўшы Дмітраніцу, які імчаўся праз вёску, яны пачалі страляць. Той, схаваўшыся за старую тоўстую ліпу, адкрыў агонь з аўтамата. Ланцуг наступаючых утыкнуўся ў снег. Лазарчук тым часам паспеў дабегчы да лесу.

Драгун перабег цераз вуліцу і накіраваўся да сядзібы, што глядзела вокнамі ў агарод. А за агародам цямнеў невысокі хвойнік. На жаль, адтуль таксама крочылі ўзброеныя людзі. Зразумеў: сяло акружылі з усіх бакоў. Мабыць, даведаліся, хто тут з'явіўся. Ён вярнуўся да гаспадара, якога во толькі палохаў, што калі заўтра не паедзе ў лес, то пойдзе на нары. «Не схаваеш, заб'юць». Мужык хмура кіўнуў: «От як яно сталася. Бачыш, вунь правыя дзверы, там пуня. Збоку бочка з-пад жыта. Яна пустая. Адсунь, там лаз».

Ужо седзячы ў схроне, Драгун падумаў, што гэта самая што ні ёсць западня. «Адсюль і даставаць не будуць. Кінуць гранату, і канец. Лепш вылезці, ды, як Дмітраніца, даць бой». Але ніхто бочку не чапіў. Ужо сярод ночы ціхенька пастукалі.

— Ты як там, выходзь.

Гаспадар дапамог яму вылезці з лаза.

— Што, спадабілася? Я тут з сям'ёю ратаваўся. Пайшлі ў хату, ужо ўсё ціха. Бандэры былі. Пабілі вашых. Пракурора надта мардавалі, забралі з сабою ў Навасёлкі. Да саней голага прывязалі, і пабег следам. Сельсавет спалілі, пошту разбамбілі, магазін разграбілі…От бяды прынеслі, што тыя паліцыянты.

— Лазарчук жывы?

— Гавораць, паспеў збегчы. Тут з вашых, такі высокі, хударлявы, таксама кінуўся наўцёкі, калі яго аблажылі на вуліцы разам з пракурорам, даў па іх з аўтамата ды і пабег, дабег да сельсавета і адтуль страляў. Там яго і спалілі.

Драгун зразумеў, што гэта быў Саковіч.

— Колькі іх?

— Ды шмат. Больш чым паўтара дзесятка саней, а конных дык і не злічыў.

— Значыць, як і гаварыў Саковіч, яны ідуць на Лагішын. Мне трэба хутчэй патэлефанаваць. Ад Навасёлак да Лагішына рукою падаць.

Потым стала вядома, што калі Марозава прывялі ў Навасёлкі, быў ён амаль непрытомны. Бандэраўцы сабралі, каго маглі, вяскоўцаў і зрабілі, як яны абвясцілі, паказальны суд.

— Ну што, малі бога, пракурор, бо цяпер ты пазнаеш, што такое пекла.

Жанчыны заплюшчвалі вочы, плакалі. Мужыкі адварочваліся.

Калі бандэраўцам канчаткова надакучыла тварыць здзекі, яны спаласавалі Марозава нажамі, асабліва твар: «Вось табе, чырвоная морда!» Потым выкалалі вочы і застрэлілі.

Раніцою іх калона вырушыла ў накірунку Парэчча і далей на Альшанку, Лагішын. Як высветлілася, яны мелі намер захапіць гэты райцэнтр.

*«Звышсакрэтна.*

*Пракурору Беларускай ССР, дзяржаўнаму саветніку юстыцыі 2-га класа таварышу Ветраву І. Д.*

*У час боесутычкі з бандаю аунаўцаў 18 снежня 1944 года ў вёсцы Кротава Жабчыцкага раёна загінулі пракурор раёна Марозаў, з ім начальнік НКУС раёна Саковіч і Дмітраніца…»*

* * *

Раніцою 19 снежня ў Лагішынскім райаддзеле ўжо ведалі, што на мястэчка ад вёскі Парэчча накіроўваецца досыць вялікая банда. Вырашылі перахапіць яе і разбіць на маршы. Сабралі ўвесь асабовы склад, у тым ліку ўзвод пінскай міліцыі, які пасля разгрому лагера пад Гошчай дыслацыраваўся непадалёку ад Лагішына ў вёсцы Каўняцін.

Настрой быў бадзёры. А дарма, бо неўзабаве высветлілася, што гэта зусім не такая банда, з якімі яны змагаліся раней. Гэта было добра ўзброенае падраздзяленне з кулямётамі ды мінамётамі. Яно налічвала больш за трыста чалавек.

Ужо пад Альшанкай міліцэйская група трапіла ў засаду. Нехта папярэдзіў аунаўцаў аб планах райаддзела. Бой быў кароткі. З вялікімі стратамі група адышла ў Лагішын. Туды на дапамогу ўжо спешна накіроўваліся з Пінска рота маракоў, курсанты абласной міліцэйскай школы, некалькі ўзводаў з роты аховы.

Аунаўцы хутка пераарыентаваліся: іх калона накіравалася да райцэнтра Целяханы.

22 снежня Целяханы былі імі атакаваны. Мясцовай міліцыі, партыйнаму і камсамольскаму актыву прыйшлося цяжка. У першыя ж гадзіны бою яны панеслі значныя страты. Асабліва з ліку міліцыянераў. Калі б не своечасовая дапамога з Пінска, Лагішына і Малоткавіч, мястэчка было б захоплена. Бой доўжыўся дацямна, і толькі пад покрывам змроку бандэраўцы адышлі да Краглевіч, дзе, пераначаваўшы, рушылі на Амяльную ў бок Драгічына.

Добра не ведаючы пра іх колькасць, кіраўніцтва абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў не дазволіла распачаць праследаванне, бо ў лесе можна было нарвацца на засаду і толькі згубіць людзей. Так яно, зрэшты, і сталася для разведгрупы, якую паслалі следам, каб вызначыць накірунак банды. Разведчыкаў амаль усіх знішчылі. Загінуў і камандзір групы — малодшы лейтэнант Васіль Аляхновіч. Ён быў з мясцовых, з вёскі Валішча.

24 снежня бандэраўцы ўвайшлі ў сяло Бездзеж Драгічынскага раёна, дзе захапілі старшыню мясцовага сельсавета Сакалоўскага, разам з ім фінансавага агента ад раённага фінаддзела і ўпаўнаважанага агента камітэта па нарыхтоўках. Да іх дабавілі прывезенага з-пад Драгічына начальніка раённай пошты Вайцюка. Ад Вайцюка з Сакалоўскім патрабавалі, каб яны па тэлефоне выклікалі ў Бездзеж кіраўніцтва раёна быццам бы для тэрміновай справы, звязанай з нарыхтоўкай прадуктаў. Тыя адмовіліся. Іх забралі з сабою ў лес, дзе і павесілі.

Не здзейсніўшы сваіх планаў, аунаўцы рушылі да сваёй базы каля Нобеля, а адтуль — на Валынь.

* * *

…У адным з пакояў Жабчыцкай пракуратуры паставілі невялічкую этажэрку з белаю сурвэткай, на ёй здымак Марозава, спавіты чорнаю стужкаю, перад ім шклянку, прыкрытую акрайцам чорнага хлеба. Збоку ў сподачку ляжала вялікая мочаная антонаўка, ад якой ішоў прыемны пах. Калі яблык пачаў падсыхаць, моршчыцца, замест яго з'явіўся свежы, мабыць, толькі што з бочкі… І так аж да 1 студзеня новага 1945 года.

***Мікалай ЕЛЯНЕЎСКІ***

*Старонкі гісторыі. Родам з Берасцейшчыны*

Валерый ЯРМОЛЕНКА

# ТАЯМНІЧЫ ВЯЗЕНЬ

## *(прыгоды генерала Юзафа Копаця)*

У замку адзіночнай камеры з акенцам, шчыльна забітым дошкамі, заскрыгатаў ключ. Вязень прыўзняўся на нарах — гэта прыйшлі па яго. Моўчкі пайшоў па праходах і сходах побач з начальнікам Смаленскага астрога і ахоўнікамі па баках. І раптам яго балюча асляпіла дзённае святло. А калі вочы асвоіліся, яго ўжо падпіхвалі ў экіпаж. Праз нейкі час спыніліся перад прыгожым мураваным будынкам. Гэта быў будынак акруговага ваеннапалявога суда.



*Тадэвуш Касцюшка.*

Ад незагойных агнястрэльных ран і знясілення падсудны ледзь трымаўся на нагах, але з годнасцю. На ўсе пытанні адказваў павольна: Юзаф Копаць. 32 гады. Нарадзіўся ў 1762 годзе. У Пінскім павеце. З дваран. Са старажытнага шляхецкага роду. Праваслаўны. Генерал. Узнагароджаны залатым пярсцёнкам «Айчына — свайму абаронцу». Трапіў у палон параненым у баталіі пад Мацяёвічамі. Разам з Касцюшкам.

Цяжкапаранены Касцюшка, як ваеннапалонны, быў накіраваны ў Петрапаўлаўскую крэпасць Пецярбурга. Яго ж, жыхара зямель, далучаных да Расіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, лічылі бунтаўшчыком. І пасля трохмесячнага затачэння ў Смаленску пасадзілі ў кібітку, як безыменнага арыштанта. Ніхто не павінен быў ведаць яго прозвішча і месца ссылкі. У падарожнай Юзаф Копаць абазначаны толькі нумарам. Кібітка без вокнаў, дзверы шчыльна зачынены, на падлозе мех з сенам. Куды яго вязуць, як даведацца? Канвойным строга забаронена размаўляць з арыштантам. Чуваць толькі аднастайны стук колаў і лаянку заўсёды п’янага афіцэра, які ўзначальвае канвой. Невядомасць будучага — самая цяжкая з усіх фізічных і духоўных пакут. На адным з «прывалаў» здарылася так, што ўсе канваіры, акрамя аднаго старога салдата, адышлі ад кібіткі. Копаць зрабіў спробу штосьці дазнацца. Баязліва азіраючыся, той прашаптаў: «Канвой прызначаны ў Іркуцк, што далей — не ведаю». Значыцца, Сібір, але куды — Сібір жа неабсяжная?..

Для Копаця гэты шлях быў бясконцы. Прамінулі Казань, лясістыя Уральскія горы, Табольск, у сетцы дажджу праехалі па вялікай Заходнесібірскай нізіне, каля Краснаярска пайшлі бясконцыя сопкі. Суровы і магутны Енісей прымусіў часта біцца сэрца. І зноў пацягнулася тайга без канца і краю, сопкі, скалы, камарыны спеў на доўгіх стаянках і лянівае перастукванне колаў ад станцыі да станцыі. І вось урэшце колы затарахцелі па бруку. Прыбылі ў Іркуцк. Тут быў канечны пункт першага этапу падарожжа.

Камендант горада прыняў арыштанта ад начальніка канвою і загадаў змясціць генерала ў… цудоўна абсталяваную кватэру. У доме багатага купца яму адвялі прасторны

пакой. Раптоўная перамена ўмоў жыцця зусім ашаламіла ссыльнага. Да таго ж клапатлівы камендант дасылаў яму харчы са сваёй кухні. Неўзабаве Копаця наведаў лекар, жонка якога была дачкой вядомага рускага падарожніка Шэліхава — гаспадара Аляскі. Малады лекар наведваў генерала штодня і з чуллівай клапатлівасцю займаўся расхістаным здароўем ссыльнага, а аднойчы спытаў: «Што вы п'яце раніцай?» Ссыльны горка ўсміхнуўся: «Калісьці я піў каву, а зараз паспеў пра гэта забыцца». І калі Копацю пачалі збіраць у далейшы шлях, лекар паклаў у кібітку вялікі скураны мех. У ім Копаць з радасцю выявіў некалькі кілаграмаў кавы і вялікі кавалак цукру.

У Якуцк прыехалі ўзімку, і таму перавозка ссыльнага да наступнага этапу — Ахоцк — была адкладзена да вясны наступнага 1796 года. Пайшлі месяцы адноснай свабоды і бясконцых размоў з землякамі — у горадзе з насельніцтвам крыху больш за тысячу жыхароў было шмат беларусаў і некалькі палякаў, якія таксама чакалі вясны для далейшай адпраўкі да месца выгнання.

Увесну пачаліся зборы ў Ахоцк. Але ж ці апошні гэта этап? Таго Копаць пакуль што не ведаў — таямніцу яго далейшага лёсу хавалі сакрэтныя паперы, якія разам з ім перасылаліся каменданту Ахоцка.

Ад Якуцка да берага Ахоцкага мора тры тысячы кіламетраў па дзікай горнай мясцовасці. Іх Копаць праехаў разам з купецкім караванам. Караван, што пакінуў Якуцк, выцягнуўся доўгай стужкай у тры тысячы коней і каля двухсот праваднікоў-якутаў. Копаць, прывычны з маленства да верхавой язды, з задавальненнем змяніў кібітку на драўлянае сядло. І ў гэтых умовах нельга было захоўваць пільную ізаляцыю ссыльнага ад людзей, як гэта было раней. Копаць карыстаўся большай свабодай і меў магчымасць назіраць за падзеямі, прыгодамі. Відавочна было, што вялікі караван не мог рухацца хутка, адна пераправа праз велічную Лену заняла два тыдні. На начлег спыняліся каля якой-небудзь ракі, далей ад лясоў — якуты баяліся нападу мядзведзяў, і ўсё ж не абыходзілася без страт коней.

Стромкія перавалы праз горныя кражы па-над краем бездані былі настолькі вузкімі, што ў чалавека замірала сэрца, а кожны неадкладны крок пагражаў немінучай пагібеллю. Пераход каштаваў вялікіх страт — толькі аднаго дня караван згубіў некалькі вершнікаў разам з конямі. А ў сырых лясах свае пакуты — паветра здавалася густым ад камароў, што раямі віліся наўкол. І вось, нарэшце, апошні начлег непадалёк ад Ахоцка ў яловым бары, які мясцовыя жыхары празвалі Вухам Мядзведзя. Копаць сядзеў нерухома на беразе акіяна — назіраў, як марскія хвалі разбіваліся з шалёным грукатам аб узбярэжныя скалы. Здавалася, што ён на краі свету і што яго вандроўка закончылася. Аднак небарака памыляўся. Сакрэтны загад імператрыцы Кацярыны гнаў яго яшчэ далей. Куды?

Камендант Ахоцкай крэпасці князь Мышынскі загадаў ізаляваць палоннага і трымаць яго пад замком у адзіноце. Дазваляўся толькі невялікі шпацыр па беразе мора разам з вартавым. Аднойчы вартаўнік адышоў на адлегласць. З невясёлага роздуму Копаця вывеў гук хуткіх крокаў. Ён з зацікаўленасцю азірнуўся — наблізіўся незнаёмы і прыпыніўся так, што скалістая выспа закрывала яго ад пільных вачэй з крэпасці. Размова ішла хутка і хаатычна. «Хто вы?» — запытаў незнаёмы. Копаць нешматслоўна паведаміў пра свой лёс і горкія прыгоды: «Я дваранін з Беларусі, генерал, выгнаннік». Той у сваю чаргу: «А я купец і назаўтра з таварам праз Індыйскі акіян вяртаюся ў Пецярбург. У сваёй хаце знойдзеце паперу, пяро і чарніла (я падкуплю вартавога). Напішыце лісты да сваіх родных і сяброў, абяцаю — лісты дойдуць па прызначэнні». Акрамя таго, незнаёмы даў шэраг каштоўных парад, і па атрыманні двухгадовага турэмнага скасавання Копаць прыкупіў мноства разнастайных прадметаў. Потым ён мяняў іх у туземцаў на харчы і забяспечыў сабе нядрэннае існаванне. І як аказалася многа пазней, рускі купец выканаў сваё абяцанне. Гэта сустрэча была для Копаця лёсавызначальнай.

Ішоў кастрычнік. Навігацыя ўжо канчалася, калі нарэшце канвою ўдалося атрымаць невялікі «паруснік», каманда якога рызыкнула прабірацца праз Ахоцкае мора. Халоднай і туманнай раніцай таямнічы вязень узышоў на палубу гэтага «парусніка» для далейшай прымусовай вандроўкі. Ненадзейнае судна выйшла з бухты Ахоцка, аддаўшыся волі злосных марскіх хваль. Цяжка ўспамінаць першыя дні выпрабаванняў марскою хваробаю і страхам перад бушуючым морам. Усё гэта было занадта жахлівым, як трызненне ў час гарачкі. У хуткім часе ў адкрытым моры судна аказалася забаўкай для вятроў, пагражаючых

крушэннем. І калі знік запас прэснай вады і дроў, капітан вырашыў зайсці ў Бальшарэцкі порт на паўднёвым захадзе Камчаткі[1].

Копаць дрэнна перанёс сваё першае марское падарожжа ў неспрыяльных умовах. Трохдзённы адпачынак у Бальшарэцку некалькі аблягчыў цяжкі лёс і ўмацаваў яго сілы. Бальшарэцк пакінулі спадарожным ветрам і паплылі ўздоўж берагоў Камчаткі. Сярдзітае Ахоцкае мора нястомна гнала халодныя зеленаватыя хвалі. Яны прагна накідваліся на прыбярэжныя скалы, грымелі, біліся ў пене і злосна шыпелі, адступаючы па галечніку назад. Над морам нізка беглі хмары, неспакойныя, растрапаныя, неахайныя. Чапляючыся за вяршыні прыбярэжных гор і сопак, яны затрымлівалі бег, кружыліся на месцы і звешвалі на бераг і мора сетку халоднага дробнага дажджу. Бясконца жалобна зацягваў сваю песню пра блізкую зіму ўсходні вецер, наганяў смутак і пачуцце няўцешнасці на ўстрывожаных людзей.

Асенні краявід берагоў і выгляд самога мора быў самотны, суровы і змрочны. Не пазайздросціш тым, каму давялося плыць у такую непагадзь. Маленькі мурза-паруснік, няспынна ныраючы носам у хвалю, выкарабкваўся на яе грэбень, нацягваючы тоўсты пяньковы трос, зачалены другім канцом на носе непаваротлівага судзёнышка. Вось ужо трэція суткі, як судна пакінула Бальшарэцк і, трымаючыся камчацкіх берагоў, пайшло курсам на паўднёвы ўсход. На палубе няўтульна. Не-не ды і пераляціць з борта на борт хвосткая хваля, абліваючы ўсё навокал салёнымі ледзянымі пырскамі. Небяспечна ўставаць на яе шляху. Неасцярожны рух — і вада ў адзін момант можа змыць чалавека за борт. Але Копаць ужо перажыў марскую хваробу і прывык да качкі, як прывыкае чалавек да любой нягоды.

Неўзабаве наляцеў шторм, і на змярканні ўзмацнілася бура. Маракі імкнуліся кіраваць паруснікам, але руль не вытрымаў моцнага націску хваль і зламаўся. Суднам цалкам кіраваў раз’юшаны шторм — грозныя хвалі перавальваліся праз палубу, корпус трашчаў і пагражаў разляцецца на кавалкі. А калі праз два дні шторм пачаў заціхаць, аказалася, што судна імчыцца прама на Курыльскую граду. Праскочыць судну без руля праз вузкія пралівы паміж астравамі — справа нялёгкая. Пагроза разбіцца аб скалы была відавочнай, людзей ахапіла паніка. Зямля набліжалася са страшэннай хуткасцю. На шчасце, бераг пакаты і пясчаны. Капітан загадаў кінуць якар, але стыхія зрывае яго і з жудаснай сілай кідае паруснік на бераг. Жудасны трэск змешваецца з крыкамі напалоханых людзей, якіх ахапіў шалёны страх. Копаць сутаргава трымаўся нямеючымі рукамі за зламаную мачту, чакаючы немінучай смерці. Нехта схапіў яго за плячо: «Хутчэй!» — гэта быў матрос з канвою, які клапатліва назіраў за ссыльным у часы марскога падарожжа і вось цяпер не забыўся пра свайго падапечнага. Генерал быў уратаваны.

Судна ляжала на баку, зарыўшыся носам у пясок, але шчыліны ў корпусе былі несур’ёзнымі і з дапамогай гасцінных абарыгенаў за некалькі тыдняў паруснік быў адрамантаваны. Судна пайшло на паўночны ўсход, а потым на поўнач уздоўж узбярэжжа Камчаткі. Каля вусця ракі Камчаткі канец плаванню — генерал Юзаф Копаць сышоў на бераг. Назаўсёды? Так. Па загадзе Кацярыны ён павінен быў заставацца тут да канца свайго жыцця.

* * *

Ссыльнаму генералу адвялі кватэру ў хаце, напалову ўкапанай у зямлю. У пакоі два слюдзяныя акенцы, пасярэдзіне печ, драўляная лаўка і невялічкі столік. Хата належала аднаму ссыльнаму з Расіі, які сардэчна вітаў генерала, у якога ад гэтага часу былі два «назіральнікі», і ссылка аказалася сапраўднай турмой. Копаць не мог пакідаць сваёй хаты для шпацыраў без дазволу каменданта астрога. А ўцёкі тут не мелі аніякіх шанцаў на поспех.

Пацягнуліся бязрадасныя дні затачэння. Адно задавальненне — у абмен на рэчы, купленыя ў Ахоцку, Копаць атрымліваў ад мясцовых жыхароў свежыя прадукты: рыбу, птушку і аленевае малако, грыбы і ягады. І адзіны занятак ссыльнага — гатаванне стравы. Яшчэ заставаліся кава і цукар ад іркуцкага лекара; шклянка кавы штодня — самае вялікае задавальненне для выгнанніка. Але няма кніг, паперы, пяра ці алоўка, няма свабо-

[1] Бальшарэцк заснаваў Іван Казырэўскі (1680—1734) з беларускай шляхты, які адкрыў Курыльскія астравы (1711) і далучыў іх да Расіі; даследаваў паўднёвую частку Камчаткі і на месцы Бальшарэцка заснаваў праваслаўны манастыр.

ды перасоўвання. Былі толькі туга па радзіме, смутак па родных, сябрах ды нуда ад бяздзейнасці. У чатырох сценах хаты Копаця ўрэшце напаткала апатыя.

Пазней у сваіх успамінах Копаць напіша: «Свабодны чалавек мог бы перагортваць кнігу прыроды гэтай краіны; яе тайны і з'явы мог быператварыць у аб'ект, варты яго працы і развагі. Невядомыя дагэтуль рэчы, памнажаючы скарб сабраных звестак, забяспечылі б яму падзяку чалавецтва. Калі б я нават хацеў прыняцца за справу запісаў назіральніка, то для гэтага не меў ні паперы, ні чарніла».

Жыццё без надзеі на якія-небудзь перамены адбілася на яго здароўі, давяло да нервовай хваробы. Камендант астрога ўрэшце пайшоў на шэраг уступак, і самым вялікім дасягненнем для Копаця стала магчымасць вандроўкі ўздоўж узбярэжжа тры разы ў тыдзень. Новы і цікавы свет прадстаў перад яго вачамі, назіранні за з'явамі прыроды, жыццём і побытам камчадалаў у гэтай маладаследаванай на той час краіне цалкам занялі яго ўвагу, далі магчымасць пераносіць цяжкі час ссылкі. На працягу многіх гадзін блукаў ён цяпер па беразе акіяна. Побач неадступна крочыў вартавы, але Копаць нібы не адчуваў яго прысутнасці — збіраў ракавіны, узоры раслін, назіраў за жывёльным светам, слухаў выццё ездавых сабак і мядзведжы рык. Больш за ўсё яго зацікавілі вулканы, і не дзіўна — побач знаходзілася Ключаўская сопка (4750 м) — адзін з буйнейшых вулканаў свету, які засцілаў дымам усё навакольнае асяроддзе[1].

А самае моцнае ўражанне было ад землетрасення — з'явы даволі частай у гэтым краі. Потым у сваіх успамінах ён напіша: «У частай зменлівасці лёсу я ніколі не пазбаўляўся спакою — на полі бітвы я таксама ніколі не губляў самавалодання, тады ж, павінен прызнацца, я страціў прысутнасць духу. Землетрасенне было жудаснае, суправаджалася вялікім гулам і доўжылася некалькі хвілін. Вулкан падтакваў яму бясконцым грукатам. Вада ў рацэ Камчатцы спала, акіян значна адсунуў свае воды, а потым уся мясцовасць была пакрыта іржавым покрывам попелу, таўшчынёй у некалькі дзюймаў, які ўтрымліваўся на паверхні зямлі некалькі дзён і наносіў вялікую шкоду здароўю жыхароў».

Аднолькава з прыроднымі з'явамі яго вельмі цікавілі карэнныя жыхары гэтага краю — камчадалы, якія адразу ж зразумелі трагічны лёс ссыльнага беларуса і праяўлялі да яго вялікую добразычлівасць. Копаць потым неаднаразова з хваляваннем падкрэсліваў, што дабрата камчадалаў у некаторым сэнсе палегчыла яго пакуты. І дзякуючы іх сардэчным адносінам ён змог даволі падрабязна вывучыць жыццё і побыт абарыгенаў — адзенне, заняткі і гульні, норавы і звычаі.

Прайшло між тым ужо два гады яго знаходжання на паўвостраве, і нішто не прадракала магчымасці якіх-небудзь змен у становішчы ссыльнага. Але Копаць не мог змірыцца з думкай, што ніколі больш не пабачыць роднай зямлі — ён пачаў рыхтавацца да ўцёкаў. На гэтую думку яго навёў гаспадар хаты — рускі ссыльны, які карыстаўся асабістай свабодай. Іх задумка была надзвычайна дзёрзкай: на сабачай запрэжцы ўзімку ўздоўж замерзлага марскога берага дабрацца да вусця ракі Анадыр на Чукоцкім паўвостраве і там чакаць выпадковага карабля. Гаспадар нібыта чуў, што калі-нікалі еўрапейскія караблі заходзяць нават у гэты раён. Уцекачам, безумоўна, пагражала мноства небяспек, але яны пачалі старанна збіраць прадуктовы запас і тайна рыхтаваць сабачую запрэжку.

І якраз у час гэтай падрыхтоўкі нечаканая вестка, якую прывезла судна пры канцы 1796 года — рускі прастол пасля смерці Кацярыны Вялікай заняў Павел І. Ён абвясціў амністыю для ўсіх палітычных зняволеных, якая ахапіла ўсіх удзельнікаў паўстання 1794 года, у тым ліку і самога Касцюшку. Генерала Копаця, вязня без імя, сасланага на Камчатку, ніхто б і не ўспомніў своечасова, каб не той рускі купец у Ахоцку. Ён перадаў куды трэба і лісты генерала, і яго прашэнне аб памілаванні.

Нечаканая перамена ў лёсе выклікала ў гераічнага генерала моцнае нервовае ўзрушэнне. Генерал страціў усялякае разуменне. А калі прыйшоў у прытомнасць, убачыў, што яго хату літаральна асаджалі мясцовыя жыхары — усе хацелі павіншаваць генерала з удалай пераменай у яго лёсе і выказаць сваю шчырую радасць. Камчадалкі прынеслі розныя стравы і свежыя ягады. Копаць яшчэ раз упэўніўся ў дабраце камчадальскага народа.

[1] Першым узыходцам на Ключаўскую сопку быў Пётр Казырэўскі ((?—1708), бацька Івана Казырэўскага, яго імем названы сопка паміж Талбачынскай и Ключаўскай сопкамі і адзін з прытокаў ракі Камчаткі.

Але радасць ад атрыманай свабоды была хутка азмрочана — карабель, які прывёз яму свабоду, адыходзіў у далёкае плаванне і толькі праз два гады змог бы ўзяць Копаця на борт. Трэба было набрацца цярпення. Карыстаючыся дараванай воляй, ён збіраў звесткі аб народах Поўначы, хадзіў з камчадаламі на паляванне і рыбную лоўлю, папаўняў свае калекцыі мінералаў і камчадальскага адзення[1].

Рускі капітан Олесаў, што плаваў паміж Ахоцкам і Камчаткай, падараваў яму карту паўночнага ўсхода Азіі, і гэты падарунак быў для яго вялікай радасцю — ён праседжваў гадзінамі над гэтай картай і, безумоўна, менавіта яна ўвайшла потым у пасмяротна надрукаваны «Дзённік Юзафа Капца» (Берлін, 1863).

А неўзабаве нечакана Копаць пачаў збірацца ў зваротны шлях на радзіму. Выпадак падвярнуўся неспадзявана хутка — да камчацкага берага шторм прыбіў надта пашкуматаны англійскі карабель. Камендант астрога ў такіх выпадках абавязаны быў паведамляць генерал-губернатару ў Іркуцк. Але ён не меў у сваім распараджэнні судна і, калі замерзлі берагі акіяна, вырашыў адправіць рапарт сухапутнай экспедыцыяй. Копаць скарыстаўся гэтым выпадкам. І гэта быў шлях значна больш небяспечны ў параўнанні з марскім падарожжам — не ўсякая экспедыцыя дасягала мэты. Трэба было на сабачай запрэжцы ехаць па беразе мора да вусця Анадыра, потым звярнуць на захад і потым на поўдзень да Ахоцка. У снежні экспедыцыя з трыццаці чалавек накіравалася ў дарогу. Генерал Копаць заняў месца ў спецыяльна для яго падрыхтаваным корабе на санях, з мядзведжых і аленевых скур са слюдзянымі акенцамі. У сані ўпрэглі трынаццаць сабак — камчацкіх лаек. Усяго было сто сабак і некалькі аленяў; харчаваннем запасліся на тры месяцы. Каля кожнай запрэжкі стаяў на лыжах праваднік-камчадал. У руках ён трымаў для кіравання запрэжкай аштол — шэст са званочкам.

«Тагам, тагам», — пачуліся вокрыкі, і па гэтым сігнале сабакі-важакі, заскуголіўшы, нацягнулі пастромкі вупражы, а за важакамі і астатнія сабакі. Сані генерала паімчаліся па зледзянелым снезе.

На начлег спыняліся ў месцах, затуленых ад ветру. Праваднікі перш-наперш выпрагалі зmoраных сабак, якія, звярнуўшыся ў клубок, зараз жа засыналі. І толькі праз дзве гадзіны яны атрымлівалі сушаную рыбу. А людзі між тым рылі ў снезе прасторныя ямы для начлегу, у якіх распальвалі вогнішчы. А на світанку зноў запрагалі сабак і аленяў. І так кожны дзень.

Аднаго разу сабакі пачулі жыллё і павярнулі ў яго бок. Камчадалы выйшлі насустрач са сваіх зімніх юрт і гасцінна запрасілі да сябе азяблых падарожнікаў. Пасля трох дзён адпачынку экспедыцыя рушыла далей і неўзабаве дасягнула Анадыра. Звярнулі на захад праз зямлю чукчаў. Цяпер трэба было рухацца асцярожна — чукчы, пакрыўджаныя несумленнымі купцамі на гэтых далёкіх ускраінах расійскай дзяржавы, сталі варожа адносіцца да ўсіх рускіх.

Экспедыцыя імчалася жвава, жадаючы як мага хутчэй праехаць небяспечнае месца. І ўсё ж неўзабаве яе акружыў атрад з больш за сто чукчаў. Пра абарону не магло быць ніякай гаворкі. Тады наперад выйшаў адзін з праваднікоў-камчадалаў, які добра ведаў мову тубыльцаў. Ён паведаміў свабодалюбным чукчам, што атрад вязе з няволі чалавека, які абараняў сваю радзіму ад царскай улады і цяпер падпаў пад амністыю. І гэтыя словы зрабілі на іх вялікае ўражанне. Яны падышлі да Копаця, пачаргова паціснулі яму руку і на развітанне кінулі ў сані некалькі сабалёў і тры цудоўныя блакітныя пясцы. З усімі развіталіся па-сяброўску.

А потым экспедыцыю напаткаў страшэнны буран. На працягу трох дзён людзі шалёна змагаліся з бурай, якая пагражала зажыва пахаваць іх у снежнай пустэчы. Калі буран аціх, аказалася, што харчаванне знікла. Невялічкі караван на бязлюдных прасторах ператварыўся ў арэну драматычных падзей — сабакі пачалі паядаць адзін аднаго, ахвярамі станавіліся больш слабыя; на санях нельга было трымаць мяхі і пакідаць рукавіцы — усё паядалася згаладалымі жывёламі. Нарэшце Копаць прыбыў у Ахоцк.

Пасля двухмесячнага адпачынку ў Ахоцку Копаць дабраўся да Якуцка, а адтуль ужо вядомым яму шляхам — сібірскім трактам — да Айчыны, дзе ён пасяліўся ў сваёй самай цудоўнай сядзібе на паўднёва-ўсходнім беразе возера Дрысвяты на Браслаўшчыне. Вёска Дрысвяты (45 хат) з парафіяльнай школай падчас задушэння паўстання 1794 года была разрабавана, часткова спалена і

[1] Калекцыі часткова былі размешчаны ў Пулавах і часткова ў Ягелонскай акадэміі ў Кракаве.

далучана (1795) да Расійскай імперыі ў складзе Браслаўскага ўезда Віцебскай губерні. Копаць задаўся мэтай аднавіць гэты былы цэнтр Дрысвяцкай воласці за 35 кіламетраў на захад ад горада Браслава.

Пабачыцца з Касцюшкам не давялося. Былы правадыр паўстання 1794 года пасля двухгадовага затачэння ў Петрапаўлаўскай крэпасці разам са сваім ад'ютантам Юліянам Нямцэвічам выехаў з ім жа ў ЗША. Потым паплечнікі вярнуліся ў Еўропу (май 1798-га) і жылі ў Парыжы. У сталіцы Францыі Касцюшка жыў да 1815 года. А потым назаўсёды пасяліўся ў Швейцарыі, нібы забыўшыся пра Беларусь. А вось Юліян усё ж наведваў радзіму. На сустрэчы з Юзафам ён угаварыў былога генерала працаваць над сваім надзвычайным «Дзённікам». Нягледзячы на тое, што да працы Копаць прыступіў праз некалькі гадоў пасля вяртання на радзіму, яго апісанні Камчаткі і Сібіры захавалі свежасць і маляўнічасць (першы варыянт — каля 1810, другі — ў 1821 годзе). Як добры назіральнік, ён у больш спрыяльных умовах нават без навуковай падрыхтоўкі, але пры наяўнасці асабістай свабоды і пісьмовых прылад, безумоўна змог бы даць больш поўнае апісанне Камчаткі. І ўсё ж нават у тых умовах ён здолеў запомніць, а потым праз некалькі гадоў запісаць шмат цікавага з жыцця і побыту жыхароў Камчаткі.

А каб ведаў Копаць пра даследаванні рускага географа і падарожніка, акадэміка Сцяпана Крашаніннікава (1711—1755) і яго першае «Описание земли Камчатки» (1756), параўнаў бы з ім свае назіранні, якім жа гэта было б укладам у навуковую скарбніцу чалавецтва! Яшчэ Крашаніннікаў звяртаў увагу на адміранне некаторых звычаяў камчадалаў. Праз паўстагоддзя на гэта звярнуў увагу і Копаць. Ён піша аб знікненні некаторых павер'яў і звычаяў. Піша аб змене першабытных прылад працы з каменя ці косці на больш сучасныя, што прывозіліся рускімі. Аднак Копаць пакінуў пасля сябе хоць і не такое значнае (як у Крашаніннікава), але цікавае апісанне Камчацкага краю, з якім пазнаёміўся ў часы двухгадовай ссылкі. І ў гэтым яго заслуга.

Копаць быў першым з беларусаў і другім (пасля Крашаніннікава) з усходніх славян даследчыкам Камчаткі. Яго апісанне жыцця на Камчатцы і падарожжа па неабсяжных прасторах Сібіры ў форме «Дзённіка Юзафа Капца» высока ацаніў Адам Міцкевіч. «Дзённік» нават паслужыў тэмай дзвюх яго лекцый у Калеж дэ Франс (Парыж, 1840—1844) — Literatura slowianska //In: Mickiewicz A. Dziela. Warszawa, 1955.

У «Дзённіку» апісаны нязвыклыя для нашых людзей з'явы прыроды (палярная ноч, паўночнае ззянне, землетрасенні, вывяржэнні вулканаў) і прыведзены этнаграфічныя замалёўкі аб народах Сібіры (якутах, чукчах, караках, эвенках, тунгусах) з апісаннем пушнога промыслу, рыбнай лоўлі і збору дзікарослых траў, сродкаў перамяшчэння і ўбрання жылля, прыгатавання мяса і тлушчу выкінутых на бераг кітоў. Менавіта таму «Дзённік» лічыцца каштоўнай крыніцай ведаў пра Сібір таго часу. Зараз ён дазваляе аднавіць культурна-гістарычную спадчыну народаў Сібіры. Прыцягвае ўвагу навуковая тапаграфія розных этнічных груп, што пражываюць на вялізнай тэрыторыі Сібіры і далёкага Усходу — сведчанне картаграфічных здольнасцей Копаца, яркім доказам якіх з'яўляецца складзеная ім карта свайго падарожжа.

Скарочаны «Дзённік Юзафа Капца» ўпершыню быў надрукаваны на польскай мове (Вроцлаў, 1837), потым шматразова перавыдаваўся ў Парыжы (1867, з прадмовай Адама Міцкевіча), Берліне (1863, 1868) і іншых гарадах Еўропы. У берлінскім выданні ўпершыню была змешчана карта падарожжа Капца, якая ахоплівае на ўсходзе берагі Аляскі, на захадзе — амаль цалкам Сібір: па лініі ракі Анабар на поўначы і Забайкалле на паўднёвым захадзе, на поўдні — Японію і берагі Кітая да Кантона; памер карты 128×92 см, карта аднакаляровая на картоне, наклееная на палатно).

Поўны пераклад «Дзённіка» на рускую мову апублікаваны ў часопісе «Исторический Вестник» (СПБ, 1896, т. 66, №№ 10—12) пад назвай «Описание путешествия Иосифа Копца вдоль всей Азии». У Львове «Дзённік» шматразова перавыдаваўся ў 1881—1899 гадах і апошні раз у 1906 годзе. Рукапіс зберагаецца ў бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве (генерал сябраваў з князем Адамам Чартарыйскім). На беларускай мове выдатны твор сына беларускага народа не выдаваўся ніводнага разу. А вельмі шкада!

Вядомы ўсяму цывілізаванаму свету беларус Юзаф Копаць памёр (1827) і пахаваны на Віцебшчыне, у некалі сваёй вёсцы Дрысвяты пад Браславам.

*Прыслоўе*

Ігар ЗАПРУДСКІ

# ПРЫДУМАНАЯ НАЎМЫСНАСЦЬ, альбо НЕШТА ПРА «НІ ПРА ШТО»

*Я не хварэю ўсясветнай журбой-жудою,*
*не, не, — я хварэю нечым другім, але чым?*

Максім Гарэцкі,
«Стогны душы»

*Толькі тады і бачна хараство,*
*Калі душа адценні ўсе ўвабрала.*

Раіса Баравікова

Ці зважаюць сучасныя палешукі на свае краявіды? Ат!!! — Звычайнае!.. Памятаеце мележаўскае: «…Выспы сярод бясконцых багнаў… Людзям тут трэба было жыць, і яны жылі». Так, і да лонданскіх туманаў самім гараджанам, здаецца, стагоддзямі не было справы. Нібыта ўпершыню іх заўважылі і паказалі свету французскія мастакі-імпрэсіяністы і толькі напрыканцы XIX стагоддзя. У гэтым быў упэўнены Оскар Уайльд. Як кшталтовы эстэт ён мог паверыць ці нават несумненна быў перакананы, што якраз з палотнаў жывапісу гэтыя туманы і нарадзіліся, а не былі рэальнай атмасфернай з’явай. Мяне б не вельмі здзівіла, каб пачуў пра такое. Англійскі пісьменнік часам пісаў на французскай мове, а распачаў літаратурную кар’еру зборнікам вершаў, што складаўся з ланцужка кідкіх замалёвак непасрэдных *уражанняў* лірычнага героя.

Менавіта гэта прыгадалася, калі ў рукі трапіў паэтычны зборнік «Уражанне» «берасцейца», давыд-гарадоцкага настаўніка гісторыі Віктара Вабішчэвіча. Чаму? Бо знаёмлюся з банальных рэчаў: выдавецтва, наклад, анатацыя, імя рэдактара, зразумела, калі ёсць такі дабрадзей. «У светлай і чароўнай краіне Паэзіі безліч самых неверагодных і дзівосных фарбаў і колераў. Трэба толькі завандраваць у гэту казачную краіну і навучыцца бачыць прыгожае вакол сябе», — так наіўнавата-пафасна пачынаецца анатацыя. Як па мне, то ключавыя словы тут «казачнае» і «прыгожае», што мусіць быць недзе блізка каля ўайльдаўскага эстэтызму, які прапагандаваў непасрэдна прыгожы падман. У сваіх артыкулах аўтар «Партрэта Дарыяна Грэя» даводзіў, што сапраўдная творчасць заўсёды была і ёсць мастацтвам павабнай хлусні.

Паўтысячы асобнікаў зборніка «Уражанне» пабачыла свет у «Кнігазборы» ў 2009 годзе. Рэдактар — Міхась Скобла. Падумалася, што пры такім «куратару» ёсць вялікая верагоднасць знайсці штосьці ў сеціве. Не памыліўся, ды пра тое пазней. Аднак першая ацэнка, якую пачуў, як аказалася, у дачыненні да трэцяй ужо паэтычнай кніжкі шаноўнага «палескага» аўтара, увогуле заінтрыгавала і падказала назву майму водгуку — «Ні пра што». Як вам такая антырэклама? У «Прадмове аўтара» ўвага зачапілася вось на чым. Заўсёды насцярожваюць выразы «калі гаварыць шчыра», «па праўдзе кажучы», бо нібыта нехта прызнаецца, што ў жыцці практыкуе некалькі ступеняў адкрытасці. І дэкларацыя: «Я не імкнуўся паўтараць паэтаў-імпрэсіяністаў». Паглядзім жа, бо яшчэ з часоў барочных літаратурных паэтык мэтаю мастацтва лічылася здзіўляць, абуджаць цікавасць, *уражваць* аўдыторыю.

У зборніку пераважна пануе радасны настрой. Дакладней, паэт яго імкнецца стварыць наўмысна. Як пацвярджэнне — верш «Намалюем восень без дажджоў і слотаў…», у якім і рэалізуецца намер-заклік «Намалюем восень для пацехі вока». Аўтар не дужа хавае, адкуль узялося жаданне інакш гаварыць пра «панылую пару»:

І сказаў мне чалавек разважліва,
Каб не слухаў рознага выцця,
На таемнае глядзеў уважліва,
А ў настрой не дапускаў ныцця.

*«Сум, няўроды*
*і адсутнасць грацыі...»*

Яно добра мець свайго «чалавека добрага», які аўтарытэтна можа параіць не ўпадаць у празмерны скепсіс і невымерны сум і журботнасць у творчасці. А яшчэ лепш здолець прыслухацца да такой парады. Якраз гэта ў аўтара і атрымалася.

У творах Вабішчэвіча больш чым дастаткова «карцінак» і ўслаўленняў прыроды і роднай зямлі, яе някідкіх, але непаўторных краявідаў. Аднак падалося, што многія вершы знарок пазбаўлены псіхалагічнай канкрэтнасці, нібы творца сам сябе вызваліў ад неабходнасці маляваць не толькі пейзажы, але і вобраз уласнага лірычнага героя. Бадай, таму і складваецца міжвольнае *ўражанне*, што яны «ні пра што». Перад чытачом раскрываецца свет нейкай цалкам абстрактнай асобы, якая ёсць усяго толькі натуральнай, але не галоўнай часткай маляўнічых пейзажаў, у адлюстраванні якіх і бачыцца самамэта. Усё пішацца мякка, сардэчна, лагодна, прыгожанька, паўсюль у тэкстах пануе атмасфера *прекраснодушия*. У творчым плане выразна адчуваюцца прыёмы жывапісу: нязначныя штрышкі, нейкія падрабязнасці, якія пры павярхоўным позірку, пры неўчытанні, здаюцца напачатку нейкай суцэльнай няўдалай мазанінай, хоць і спрактыкаваным пэндзлем. Знешне кідаецца ў вочы, што аўтарскія *ўражанні* паўстаюць спантанна, увесь час змяняюцца, каб раскрыць уражлівую лірычную натуру.

Але пазней прыходзіш да думкі, што гэта аўтар наўмысна і свядома *«ўражваецца»*, імітуючы далёкасць ад будзённых жыццёвых мітрэнгаў і поўнае патананне ў эстэтызме-красе. Чаму так? Бо лірычны герой вельмі рэдка штосьці ўспамінае. У яго нібыта проста няма мінулага, няма індывідуальнага лёсу, а засталося толькі адчуванне мінучасці, імгненнай нетрываласці існага. Ён пазбаўлены пачуцця адзіноты, хоць у яго свеце прыгажосці няма месца нават павабнасці жаночай. Ёсць толькі бясконцае любаванне прыродай. Яшчэ адна яскравая характарыстыка — прысутнасць агульных паэтычных, пры гэтым як маральных, так і гуманістычных дэтэрмінантных нормаў, не пазбаўленых нейкага містычнага адцення.

У дадатак амаль поўная і прынцыпова акрэсленая беспадзейнасць паэтычных аповедаў. А што ж ты хочаш у лірыцы? Часам уцякаюць ад жыцця ў чарку ці кляштар, а створаны Вабішчэвічам лірычны герой уцёк у келлю прыроды. Ён амаль пазбаўлены грамадзянскага тэмпераменту, які толькі зрэдчас выяўляецца ў патрыятычнай лозунгавасці, зрэшты, ненавязлівай. Увогуле, ён кранальны, далікатны і кемлівы *сузіральнік*, які, мабыць, па аўтарскай задуме з'яўляецца альтэрнатывай сённяшнім актыўным і нерахманым, не змучаным выгодамі і выдаткамі тэхнагеннай цывілізацыі мастацкім персанажам, якія ёсць дагератыпамі іх стваральнікаў.

Глядзець і глядзець на пейзаж. Не напіцца.
Жыве прыгажосць. Пралятаюць гады.
Бясконцы Сусвет. Чалавек. Таямніца.

Як бачым, тут не толькі эксперыментаванне з паэтычным сінтаксісам, але і яшчэ адна найважнейшая паэтава дэкларацыя ў вершы «За бярозавай Бярозаўкай». Прывёў гэтую назву не так сабе, а каб падмацаваць думку, што ў вершах Вабішчэвіча шмат вядомых паэтычных вынаходніцтваў, розных вобразна-выяўленчых штуковін. Акрэслю іх менавіта так, не абцяжарваючы чытачоў літаратуразнаўчай тэрміналогіяй. Не бяруся меркаваць, наколькі ўдала ўсе яны выконваюць пэўныя стылёвыя функцыі, але некаторыя з іх можна нават назваць *імпрэсіянісцкімі прыёмамі*.

Паэт наўмысна шмат высілкаў кладзе на разнастайванне рытмаў і гукавую арганізацыю паэтычнай мовы. Найчасцей ён выкарыстоўвае алітэрацыі. Так, у першым жа вершы зборніка «Чэрвеньскі вечар лагодны такі...» шматразовае паўтарэнне гукаў *ч* і *ц* сапраўды спрыяе стварэнню *ўражання* нейкага спакойнага вечаровага шапацення. Як не згадаць радок з хрэстаматыйнай «Завірухі» Максіма Багдановіча: «У бубны дахаў вецер б'е...». Вабішчэвіч невыпадкова прызнаецца, што Поль Верлен і аўтар слыннага «Вянка», найбольш блізкія яму ў творчых адносінах, мелі дачыненне да фарміравання яго «імпрэсіяністычнага светабачання». Аднак наўрад ці вершы сучаснага паэта можна назваць у прамым сэнсе наследаваннямі. Дарэчы, як і выкарыстанне адной

з любімых багдановічаўскіх форм — трыялета. Паўтаруся, у Вабішчэвіча натхненнем для *ўражанняў* не былі «Мадонны». Як водгулле верленаўскага «Музыка перш за ўсё» ўспрымаюцца многія вершы са зборніка «Уражанне» (напрыклад, «Мелодыя малітвы ручая»), а асабліва павышаная ўвага аўтара да змястоўных нюансаў, некалі прапагандаваных французскім паэтам.

Прывяду ўдалыя, на маю думку, радкі, аздобленыя не толькі алітэрацыяй, але і насычаныя нетрафарэтнай метафарычнасцю:

> Абры*с*аў *с*томленых рухома*с*ць.
> Паветра вольны вечны бег.
> У*с*ё імкнецца ў невядома*с*ць.
> *С*пакойна марыць *с*умны *с*нег.

Гэта з верша «Вясна схавалася ў пупышках…», у якім амаль кожны радок асобны сказ. Адвечнай тэме Паэта і Паэзіі прысвечаны верш «Прыгажосці не бывае лішняй…». Няцяжка здагадацца, што ў ім аўтар непасрэдна звяртаецца да свайго чытача (а можа, і крытыка?):

> Не ўшчувай, што ў казачнай краіне
> Гімны прыгажосці я пішу.

Вось яно, «мастацтва дзеля мастацтва» ў беларускай лірыцы пачатку XXI стагоддзя. Ніякай дысгармоніі, ні цяню разгубленасці, амаль поўная адсутнасць трывогі, пачуцця роспачы ці адчаю, ні кроплі драматызму, ніякіх сімвалаў трагічнасці паміранння. Лірыка спрэс мажорная і жыццесцвярджальная вызначае паэтычную свядомасць чарговай іпастасі творцы «Уражання». Дык хіба ж гэта дрэнна? Аўтар знайшоў супакаенне і нават наканаваную толькі яму асалоду ад паказу таго, што ён наважыўся маляваць зараз. Тым не менш засмучае адсутнасць жывога чалавека, з-за чаго адлюстраваныя, часам філігранна, пачуцці не лётаюць, як птушкі, а, здаецца, поўзаюць, як варожыя і абыякавыя да свету слімакі. Кожны мае права выбіраць уласны шлях для творчага існавання, калі дазволіце, выратавання, але часам знарочыста празмерна адухаўлёны плён чамусьці выглядае насамрэч нейкім надзіва бяздушным і па-мастацку сумным. Калі няма сумненняў і ўсё цудоўна, губляецца сам нерв прыцягальнасці Паэзіі. Яна можа стаць спажывай для нешматлікіх гурманаў, але найчасцей не выкліча палемікі, не стане аб'ектам увагі крытыкаў, як правіла, чуйных да розных інавацый. І не схаваешся ў шаты адраджэнца чагосьці даўнавата занядбанага, але вартага, не прыкрыешся відавочнай навязной кожнай чарговай кніжкі, не выратуешся ні спасылкамі на аўтарытэты, ні прыгожым настроем думак, ні ноткамі дзіцячага захаплення ўбачаным, ні нібыта глыбакадумнымі канстатацыямі:

> Я любуюся мілым пейзажам,
> Зіхаценнем у промнях расы.
> Як звычайна і суха мы кажам —
> Тут паэзія чыстай красы.
> *«Я не бачыў руанскіх сабораў…»*

Гучыць ці не гучыць? Ці адчуваецца тут майстэрства Вабішчэвіча-паэта, настолькі расплаўленае ў радку, што яго мусіш не заўважаць, як паветра, якім дыхаеш? А як жа народнае: «З хараства вады не нап'ешся?» Кожны няхай вырашае сам.

Вядома, калі гаворка заходзіць пра беларускую пейзажную лірыку, не варта зацыклівацца выключна на кананічным Багдановічу. Кінем вокам у мінулае XX стагоддзе. Да прыкладу, возьмем Уладзіміра Дубоўку, дзякуючы якому катэгорыя прыгожага так шырока культывавалася ў творчасці сяброў згуртавання «Узвышша». Краса і жаночая звабнасць паўстаюць як неаспрэчны абсалют у многіх вершах паэта 20-х гадоў. А значна пазней, праз дзесяцігоддзі, зведаўшы нявольніцтва ў Сібіры, Дубоўка напіша пра прыгажосць расійскай прыроды:

> Вадзіў праз горныя хрыбты,
> цераз Байкал і за Байкалам.
> А хараства, а пекнаты —
> аж цераз самы край бывала.
>
> Жыві хоць лішніх сто гадоў —
> красу праслвіць немагчыма.
> Патрэбна сотня мастакоў,
> ды ўсе каб з яснымі вачыма…
> *«Нам некалі*
> *са смуткам знацца» (1958)*

Крытык-узвышэнец Адам Бабарэка невыпадкова называў творы паэта *дзеяпеснямі*, бо ў іх заўсёды адлюстроўваліся глыбокія супярэчнасці, якія і кладліся ў аснову. Паўтару відавочнае: канфлікт мусіць быць у любым вершы, якім бы апісальна-сузіральным ён ні быў, якім бы мілосным душачкам ні быў іх лірычны герой. Ясна, што без канфлікту цяжка стварыць вобраз яркага героя, без якога нават праз наймацнейшы літаратуразнаўчы мікраскоп нялёгка ўбачыць аўтара,

незалежна ад таго, выступае ён адкрыта ці наўмысна хаваецца. Не раз у размовах з маладымі паэтамі даводзілася чуць: «А я прынцыпова нікога не чытаю, бо баюся сапсаваць уласны густ, страціць свой голас». А мне б хацелася параіць сучасным творцам, у тым ліку найноўшым «слоўным пейзажыстам», не саромецца чытаць папярэднікаў, а непасрэдна Вабішчэвічу — звярнуць увагу на дубоўкаўскі верш «Летуценнем пройдзем мы над краем» (1926):

Летуценнем пройдзем мы над краем
і загінем, быццам летуценне.
Для айчыны шчасце мы ствараем —
для свайго і новых пакаленняў.

Гэта не канстатацыя фатальнага, а канкрэтнае аўтарскае «Я», у няштучнасць прызнання якога верыцца.

Дарэчы згадаць і больш блізкага па часе Кастуся Кірэенку:

З усім наўкол душою зліцца,
Высока кронай зелянець,
І раптам — грымнуцца, зваліцца,
Каб непрыкметна спарахнець.

Што ж тут? Хіба злоўжыванне празаізмам існасці? Ці, можа, усё ж паэзія, насычаная пачуццём? Пад уражаннем звычайных карцін беларускай прыроды паэт патэтычна выгукне-падсумуе:

І станеш ты
такі багаты!
І зноў у восеньскай цішы
Адчуеш,
Што ўвайшоў у свята,
Дзе лёгка свеціцца душы!..
*«Запахне чорнымі груздамі...»*

Ці вось паэтычная дэкларацыя Міхася Калачынскага:

Роднае неба, палеткі, разлогі,
Слаўлю ваш ранак, і дзень, і сутонне.
Больш мне на свеце не трэба нічога —
Дыхаць бы вамі заўжды, як сягоння!
*«Параднёнасць»*

І гэта тыя, каго ўжо даўнавата няма з намі. А колькі сучасных паэтаў глядзяць на прыроду як на цуд? Не баючыся папроку ў празмернай гіпербалізацыі, адкажу: «Процьма!»

Але вернемся да эстэтычнай пазіцыі Віктара Вабішчэвіча. Канечне, можна проста канстатаваць, што прыўзнятасць, задушэўная шчырасць і сузіральнасць вызначаюць яе, з'яўляюцца нават творчым метадам адлюстравання жыцця ва «Уражанні». Але што можа даць такое паведамленне? І каму яно патрэбна? Хіба аўтару? Нешта сумняваюся, што ён апантаны ў цешанні ўласнага сябелюбства. Думаю, наўрад ці яго б вельмі парадавалі, дапусцім, такія стандартныя фразы: «Чарговы зборнік паэта вызначаецца ідэйнай і мастацкай цэласнасцю. На жыццё аўтар глядзіць з эстэтычнага, маральнага і філасофскага пунктаў гледжання...» І падобны *трафарэтнік* можна доўжыць бясконца. Але навошта? Пакінем гэтую ўдзячную справу некаторым нашым *прадуктыўным крытыкам*.

У сеціве змешчана «гутарка» Міхася Скоблы з аўтарам з нагоды выхаду чарговай кніжкі. Пасля знаёмства з «інтэрв'ю» чамусьці склалася *ўражанне*, што рэдактар зборніка ўсё ж так і не даў рады вабішчэвічаўскім «імпрэсіям». Ва ўсякім разе, не было гаворкі ні пра «добрую школу верша», ні пра музычнасць гукапісу ці адметнасць сінтаксісу, ні пра змену сутнасці паэтычных вобразаў у параўнанні з папярэднімі зборнікамі. Размаўлялі пра іншае. Напрыклад: «Скобла: «Паэты прыходзяць у свет, каб яго ўдасканаліць», — пішаце вы ва ўступным слове да кнігі. Якая канкрэтыка вам бачыцца за гэтымі агульнымі словамі?» Вабішчэвіч: «На маю думку, паэты ў сваіх творах павінны паказваць прыгожыя ўчынкі, прыгожае жыццё чалавека, якое чытачу хацелася б паўтарыць. Сёння нам бракуе любові, дабрыні, чалавечнасці — усяму гэтаму літаратура можа навучыць, можа іх неяк прышчапіць чалавеку. Ці ж гэта не ёсць удасканаленнем свету?» Мне ў сувязі з гэтым прыгадаліся ідэі рускага мысліцеля Фёдарава, філасофія мастацтва якога, падаецца, трымалася на неабходнасці вярнуць да жыцця памерлых. Як і калісьці, сёння маральныя каштоўнасці зняпраўдзіліся — добры спагадны чалавек памёр. Вось паэт і наважваецца яго ўваскрашаць, гарманізуючы сілаю ўласнага мастацкага слова. Хіба гэтак трэба разумець яго творчае крэда? Шкада, што далёка не заўсёды мы сутыкаемся з арганічнымі суадносінамі паміж творамі, іх чытацкім успрыняццем і аўтарскай задумай-намерам. Ды, на жаль, вельмі нярэдка таленавітыя паэты трансфармуюцца з часам у не лепшых філосафаў, а то і маралізатараў, якія мрояць пра нейкае «непасрэднае выхаванне» творчас-

цю. Вядома ж, ты яму «стрыжана», а ён табе «голена». І так не толькі ў школе з вучнямі, але і ў школе жыцця.

У наш час, калі так шмат з'яўляецца новых паэтычных зборнікаў і калі так мала гавораць пра сапраўдную паэзію, часам вельмі займальна разважна пачытаць анатацыі. Вось фрагмент з анатацыі да першага зборніка Вабішчэвіча «Чорны боль» (2003), выдадзенага «Мастацкай літаратурай» у серыі «Дэбют»: «Сціплы рамантык — такім словазлучэннем можна найбольш дакладна вызначыць характэрнае ў душы Віктара Вабішчэвіча… У яго паэзіі шмат рамантызму, узнёслага і балючага, шмат звычайнай (пабытовай) і «быційнай» трывогі за ўсё жывое… «Паэзія — дзівосная краіна, казачная зямля, — лічыць Віктар Вабішчэвіч, — але над гэтай зямлёй гараць зоркі майго трывожнага рэалізму…» Што хочаш, тое і думай. Нехта гаворыць пра «сціплы рамантызм», а сам аўтар тут жа спавядае «трывожны рэалізм». Ці не выдаткі гэта ўсеагульнай абавязковай адукацыі, калі эстэтычныя катэгорыі засвойваюцца настолькі павярхоўна, што кожны на справе ўкладае ў іх нейкі ўласны сэнс?

Дарэчы, са знаёмых мне кніжак серыі «Дэбют» найбольшае *ўражанне* пакінуў зборнік Наталлі Кучмель «Імгненні» (2005). Па-мойму, многія вершы паэткі ледзь не ўзорна імпрэсіяністычныя. Да прыкладу, гэты:

Май. Дождж ішоў. Цяжкі і вогкі пах
Цяжкіх і вогкіх выпарэнняў бэзу.
Асфальтам заліваны чорны шлях
Блішчыць спіной, як мокрае жалеза,
І на ільснiстай, маслiстай спіне
Ў бяздумнасць і спакой нясе мяне.

Здавалася б, і тут беспадзейнасць, і тут «невыразнасць» характару лірычнай гераіні… Але разам з тым… Якая вобразная энергетыка!.. Якое падзенне напружання ў апошнім радку!.. Якая здольнасць так «раскрыць» свае адчуванні, што яны натуральна «засвойваюцца» чытачом!.. Якое ўвасабленне завершанасці думкі!.. Хоць такая акварэлька-эскіз і адлюстроўвае вечную супярэчнасць паміж прыродным і чалавечым, аднак яны (свет і Я) нарэшце не варагуюць, а гарманізуюцца. Мастацкі свет паэта — рэч унікальная. Кожны па-свойму сінтэзуе ў вершах разумовае і эмацыянальнае. Але… Але навошта?

Бадай, на пачатку XXI стагоддзя становіцца ўсё больш відавочна, што сучасныя паэтычныя пошукі як заканамернасць вядуць да рэанімацыі многіх здабыткаў творчага стылю імпрэсіянізму. Ці выкрышталізуецца з гэтага неаімпрэсіянізм? Пакуль гаварыць не выпадае, бо наяўную тэндэнцыю трэба вывучаць не ў статыцы, а ў працэсе яе развіцця.

Аднак упэўнена магу сцвердзіць, што сучасныя палешукі маюць свайго цікавага песняра родных краявідаў. Праўда і тое, што вабішчэвічаўскае зачараванне наваколлем дужа шмат дзе ўспрымаецца як рэха іншых ранейшых галасоў. Прычым яно аформлена як, напрыклад, у Афанасія Фета, лірычны герой якога пачасту знаходзіўся ў стане не проста эстэтычнай захопленасці, а нейкай ледзь не хваравітай эйфарыі ад *обожаемой* прыроды. Хоць і не заўсёды веру ў шчырасць рускага лірыка, але люблю многія яго вершы. А Фет умеў *уразіць*. Немец па паходжанні, ён пісаў: «Но русский, в душе француз, англичанин или швейцарец, — явление уродливое. Он — ничто — мертвец; океан русской жизни должен выкинуть его вон». У асобе Віктара Вабішчэвіча мы маем палешука, у душы шчырага беларуса, а таксама даволі неардынарную і вартую ўвагі постаць у сучаснай беларускай паэтычнай культуры. Будзем спадзявацца, што з часам атрымаем больш: можа нават доўгачаканага беларускага Фета. Ва ўсякім разе, для гэтага ўжо ёсць вельмі многае.

Віктар Вабішчэвіч — ураджэнец Століншчыны. Ведаю, што столінцы — вельмі трывалыя і мужныя ў пераадоленні выпрабаванняў людзі. Таму без насцярогі падзяліўся сваімі *ўражаннямі*, не абцяжарваючы гэты водгук сакраментальнымі кампліментамі ў аўтарскі адрас.

Віктар Вабішчэвіч — сёлетні юбіляр, якога шчыра віншую з 50-годдзем і жадаю творчых поспехаў.

*Алесю НАВАРЫЧУ — 50!*

# СВОЙ ВЫБАР



Ёсць у кожным часе свае адметнасці. Яны дзеляцца на відавочныя і скрытыя, някідкія, зразумелыя далёка не ўсяму грамадству. Вось і пачатак XXI стагоддзя для беларускай літаратуры шмат у чым розніцца з часінамі ранейшымі. Прычын на тое нямала. Некаторыя — на паверхні, некаторыя — у глыбіні грамадскіх, сацыяльных працэсаў. Але не будзем звяртацца да іх аналізу і падрабязнага разгляду. Лепей давайце пагодзімся, што менавіта пачатак сённяшняга стагоддзя, яго першыя дзесяцігоддзі вымушаюць ад пісьменнікаў асаблівага погляду на рэчаіснасць — і сённяшнюю, і тую, што складвала, фарміравала беларускае грамадства ў апошняе стагоддзе. І, здаецца, такія рознахарактарныя, не падобныя адзін да аднаго, мастакі слова, як Алесь Наварыч, Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў, Барыс Пятровіч, Людміла Рублеўская, Алесь Бадак — і ёсць тая ўпэўненая ў сабе невялікая кагорта, здольная правесці агледзіны блізкага ўчора, каб і самім, і, адпаведна, чытачам мець магчымасць зазірнуць у заўтра.

І старанным, спакойным, сімпатычным у сваіх мастацкіх і грамадзянскіх перакананнях працаўніком вылучаецца ў гэтай «кагорце» **Алесь Наварыч.** Нарадзіўся на Століншчыне. У літаратуру прыйшоў праз студэнцтва ў медыцынскім інстытуце, што зусім не тыпова для беларускага прыгожага пісьменства. Першая нататка, надрукаваная ў газеце «Літаратура і мастацтва», — карэспандэнцыя пра выстаўку народнага мастака СССР Міхася Савіцкага. У пачатку дзевяностых Алесь Наварыч працуе ў часопісе «Вожык». Тады выходзяць і першыя яго кнігі — «Рабкова ноч» і «Ноч пацалункаў незалежнасці». Пасля была праца ў часопісе «Бярозка». Відаць, тады, з жадання расказаць дзецям пра родную прыроду па-беларуску, нарадзілася кніга апавяданняў «Звяры». «Мастацкая літа-

ратура» выдала яе не толькі ў арыгінале, а яшчэ і на рускай мове. Часта і цяпер кнігу згадваюць у дзіцячых і школьных бібліятэках, спадзеючыся, што яна будзе перавыдадзена. Падзеяй у літаратурным жыцці на пачатку новага тысячагоддзя і новага стагоддзя сталася публікацыя ў часопісе «Маладосць» рамана Алеся Наварыча «Літоўскі воўк». Пазней твор быў выдадзены асобнай кнігай. Але яшчэ за часопісную публікацыю рамана Алесь Наварыч быў адзначаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У рамане «Літоўскі воўк» пісьменнік паспрабаваў зазірнуць у часы паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Маючы перад вачыма «Каласы пад сярпом тваім» рамантыка Уладзіміра Караткевіча, адважыцца на такі крок было зусім не лёгка. Алесь Наварыч выбраў свой уласны накірунак. Невыпадкова ў адным з інтэрв'ю пасля выхаду рамана падкрэсліў словы аканома Урбановіча пра тое, што рэвалюцыя, бунт не што іншае, як хаос. А хіба гэта не так?.. На раман з'явіліся і вострыя рэцэнзіі, напісаныя, відавочна, не іначай як з вышынь сацыялістычнага рэалізму. А як іначай разумець такую вось прамалінейнасць у асэнсаванні рамана як мастацкага твора:

«…У рамана дзьве тэмы, дзьве маралі, два погляды. Гэта — мараль чалавечая і «мараль» ваўчыная. Чалавечая частка раману напісаная нібыта з пазіцыі ваўка — з драпежнай абыякавасьцю да людзей, якая ёсьць крыніцай аўтаравай іроніі. Людзі, маўляў, толькі й робяць, што дрыжаць за сваю чалавечую «скуру». Сымбаль такога чалавечага падыходу — рацыянальны «эканаміст» Урбановіч (дарэчы, адна з наймацнейшых сцэнаў — калі ён выганяе «паўстанцаў» з хаты: адзіны момант, калі нехта ў рамане рэальна змагаецца за сваю свабоду). Каронная фраза: «Мы вашых раманаў не чыталі». Затое воўк — ідэалізаванае стварэньне, для якога свабода — адзінае памкненьне, дзеля яе воўк гатовы на любыя ахвяры, а ў канцы раману помсьціць здраднікам за сваю няволю і прыніжэньне. Ваўчыная мараль выяўляецца ў выказваньні «Разумееш, ваяваць — гэта забіваць людзей. А гэтаму трэба ву-чыц-ца!». У таго ж ваўка (тут згадка пра чачэнскую ваўчыцу — таксама паказальная).

Аўтар прапануе чытачу выбраць паміж гэтымі двума падыходамі. Спроба сінтэзу ў асобе непераканаўчага Яся Кавальца, гэткага мужыцкага калі не Хрыста, то Гандзі, у лік ня йдзе. Які падыход бліжэйшы самому аўтару, ён далікатна замоўчвае, застаючыся «панад канфліктам». То бок, ён насамрэч «ні да чаго не заклікае беларуса», як заўважыў адзін з крытыкаў у часопісе «Архэ». Аднак гэта яшчэ не азначае, што тэкст не імплікуе нейкай высновы. А выснова такая: чалавек у прынцыпе ня можа быць свабодны — проста таму, што ён чалавек.

У непераадольнасьці вышэйзгаданай дылемы і ў залішняй сучаснасьці гэтай высновы якраз і выяўляецца агістарычнасьць раману. Паўстанцы 1863 году не маглі падзяляць такой высновы, як не маглі загадзя ведаць пра паразу паўстаньня. Яны сапраўды, у адрозьненьне ад аўтара, былі рамантыкамі — таму нават нягледзячы на паразу былі сапраўднымі героямі, у сапраўднасьць якіх аўтар ня верыць, таму імкнецца пераканаць у іхнай несапраўднасьці і чытача. Праўда, робіць ён гэта залішне няўмела, карыкатурна, апрыёры ператвараючы сваіх пэрсанажаў у лялькі <…>. Іхная памылка, даводзіць аўтар, была ў тым, што яны яшчэ верылі ў чалавека — як ні дзіўна, у таго ж мужыка — тым часам як нам застаецца верыць... Ува што? У нейкі цуд, пераўтварэньне ў ваўкалакаў, у няісную выспу свабоды пасярод Графскай пушчы, у папараць-кветку...

Факт паразы паўстаньня ператвараецца для аўтара ў сымбаль паразы вечнай…»

Можна падзякаваць рэцэнзенту за навуку, як пісаць гістарычныя раманы. Але навошта адбіраць у аўтара права на свой погляд?.. Ацэнкі рамана Алеся Наварыча нагадваюць сённяшнія развагі вакол новага гістарычнага твора Леаніда Дайнекі «Назаві сына Канстанцінам». Вядомага гістарычнага раманіста вучаць, як аглядаць мінуўшчыну, якую ацэнку даваць фактам далёкага ўчора. Не развіваючы гэтую думку, нагадаю неаднойчы ўжо выказанае: сучаснасці няма, яна — гэта ўчарашняе і будучае… Зазірніце, паважаныя рэцэнзенты, у гістарычныя хронікі, агледзьце гісторыю цалкам, — і вы, магчыма, пераканаецеся ў тым, што не рамантыка рухала і развівала супраціўленне, рэвалюцыі і войны. Вось і «Літоўскі воўк» — раман, які падштурхоўвае да істотных і патрэбных сённяшняму часу развагі, а зусім не «карцінка» паўстання з батальнымі сцэнамі.

Так, коратка аглядаючы шлях Алеся Наварыча ў беларускай прозе, можна выказаць шкадаванне, што не так часта сустракаецца чытач з яго творамі. Хіба што акрамя згаданых рэчаў можна назваць яшчэ і аповесць «Пакланюся Перуну, памалюся Вялесу…» — твор, адрасаваны дзецям, твор, дзе сышліся разам прыгоды, гісторыя і крыху неверагоднага. Але размовы пра плён, маштабы зробленага, відаць, не зусім карэктныя і не зусім да месца. Алесь Наварыч спакойна робіць сваю справу. І не выклікае ніякіх сумненняў, што мы яшчэ дачакаемся яго новых твораў. Чамусьці мне верыцца, што будзе ў іх шэрагу і новы гістарычны раман. Мо нават яшчэ і да паўстання Кастуся Каліноўскага вернецца празаік…

***Кастусь ЛЕШНІЦА***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ЛАГОЙСКІ РАЁН

**Вёска Селішча** Каменскага сельсавета

У 1895—1904 гг. сям'я Луцэвічаў жыла ў фальварку Селішча Гайна-Слабадской воласці Барысаўскага павета. Тут Янка перажыў цяжкую сямейную трагедыю — смерць бацькі, брата і дзвюх сясцёр. Напісаў першы верш на польскай мове, прысвечаны сястры Леакадзіі, і першы верш на беларускай мове «Мая доля». Адсюль пайшоў вучыцца ў Бяларуцкае народнае вучылішча. З восені 1897 да вясны 1898 г. за адзін навучальны сезон ён скончыў двухкласнае народнае вучылішча. Пазней пазнаёміўся з удзельнікам паўстання 1863 г. Сігізмундам Чаховічам, які жыў нелегальна ў маёнтку Бясяды. Ад будынка засталіся рэшткі падмурка. У 1902 г. Купала накіраваўся адсюль на заробкі ў Талачын, а маці ў 1904 г. — у Бараўцы Мінскага р-на.

**Вёска Сілічы** Знаменскага сельсавета

**Купала Янка** бываў тут у стрыечнай сястры Соф'і Белановіч. У час Першай сусветнай вайны дапамагаў ёй, чым мог.

**Вёска Слабада** Плешчаніцкага сельсавета

**Гілевіча Ніла** (н. 30.9.1931), народнага паэта Беларусі, радзіма. Скончыў БДУ (1956). У 1960—1980 гг. выкладчык кафедры беларускай літаратуры БДУ, у 1980—1989 гг. — першы сакратар праўлення СП БССР. Старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны (1990—1996). Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Івана Франка (2009). Друкуецца з 1946 г. Першая кніга — «Песня ў дарогу» (1957). Выдаў зборнікі лірыкі «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959), «Неспакой» (1961), «Бальшак» (1965), «Перазовы» (1967), «Лісце трыпутніку» (1968), «А дзе ж тая крынічанька?» (1972), «Запаветнае» (1975), «Актавы» (1976), гумару і сатыры «Да новых венікаў» (1963), «Ці грэх, ці два» (1970), «Як я вучыўся жыць» (1974), «У добрай згодзе» (лірыка, сатыра, гумар, 1979; паралельна з перакладчыцкай дзейнасцю Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы, 1980), «Начлег на буслянцы» (1980), раман у вершах «Родныя дзеці» (1985), кнігі «Повязь» (1987), «Незалежнасць» (1991), «Жыта, сосны і валуны» (1992), «На высокім алтары», «Талісман» (абедзве 1994), «Любоў праасветлая» (1996), аўтабіяграфічную аповесць «Перажыўшы вайну» (1988), кнігі вершаў для дзяцей «Зялёны востраў» (1963), «Дождж-грыбасей» (1966), «Загадкі» (1971), выбраных твораў у 2-х тамах (1981, 1991), «Выбраных твораў» (2009). Працуе ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, публіцыстыкі (кнігі «Акрыленая рэвалюцыяй (Паэзія «Маладняка»)», 1962; «У гэта веру», 1978; кнігі пра балгарскую паэзію «Верная вялікім запаветам», 1977;

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—10 за 2010 г.

«Удзячнасць і абавязак», 1982; «Покліч жыцця і часу», 1983; «Годнасць, сумленнасць, мужнасць», 1988; «Вяртанне і працяг», 1990; «Выбар», 1993), фалькларыстыкі («Наша родная песня», 1968; «З клопатам пра песні народа», 1970; «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», 1975; «Паэтыка беларускіх загадак», 1976; «Вусная народная творчасць і сучасная лірычная паэзія ўсходніх і паўднёвых славян», 1978). Падрыхтаваў да друку зборнікі беларускіх народных песень у сучасных запісах «Песні сямі вёсак», 1973; «Песні народных свят і абрадаў», 1974; «Лірычныя песні», 1976; «Лірыка беларускага вяселля», 1979). Перакладае на беларускую мову творы балгарскіх, славенскіх, украінскіх, польскіх, сербахарвацкіх аўтараў.

Любая сэрцу Лагойшчына,
Край маіх дум запаветных!
Ціша бароў партызанскіх,
Звонкая радасць крыніц,
Стужачкі рэчак бруістых,
Зелень узгоркаў прыветных —
Ведаю ўсё тут на памяць,
Дорага ўсё да драбніц!

*(Гілевіч Н. У добрай згодзе. — Мн., 1979, с. 51)*

**Гіля Міколы** (сапр. Гілевіча Міколы; н. 15.10.1936), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1959). Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў рэдактарам перадач для дзяцей на Мінскай студыі тэлебачання (1960—1961), з 1961 г. — у газеце «Літаратура і мастацтва» (у 1990—1996 гг. галоўны рэдактар); некаторы час загадваў аддзелам у рэдакцыі бюлетэня «Родная прырода» (1972), у 1972—1977 — у часопісе «Маладосць». Друкуецца з 1952 г. Першая кніга апавяданняў — «Ранішнія сны» (1973). Аўтар аповесцей «Слабодскі парламент» (1968), «Вяртанне» (1972), «Таццянін чэрвень» (1976), «Тэлеграма з Кавалевіч» (1981), «Пуд жыта» (1982), «Дзень пачаўся» (1984), «Камандзіроўка ў Вішанькі» (1987), «Кім і Валерыя» (1988) і інш. Піша для дзяцей («На лясной вуліцы», 1975; «Самы галоўны чалавек», 1980; «Ёсць на зямлі крыніца», 1983). Перакладаў на беларускую мову творы В. Бубніса, І. Эркеня, П. Лагерквіста.

У пачатку 1890-х гг., жывучы ў Прудзішчы, Луцэвічы аддалі свайго сына Івана, будучага паэта **Купалу Янку,** да свайго слабодкаўскага знаёмага Ляскоўскага, каб ён вучыўся ў вандроўнага настаўніка.

**Вёска Сліжына** Янушкавіцкага сельсавета

У пачатку XVIII ст. належала Бакам. Магчыма, тут нарадзіўся **Бака Юзаф,** пісьменнік-езуіт (1707—1780).

**Вёска Траянец** Нястанавіцкага сельсавета

**Максімовіча Валерыя** (н. 21.3.1962), літаратуразнаўца, крытыка, паэта, радзіма. Доктар філалагічных навук (2003). З сям’і калгаснікаў. Працаваў на заводзе «Інтэграл». У 1989 г. скончыў БДУ. З 1992 да 2003 гг. выкладаў у БДУ. Потым быў дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, намеснікам дырэктара Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі. Цяпер працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі. Аўтар манаграфій «Беларускі мадэрнізм: Эстэтычная самаідэнтыфікацыя літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2001), «Нацыянальны космас класікі: Дыялог традыцый і наватарства ў творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа» (2008), навучальных дапаможнікаў «Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2000), «Шыпшынавы край: Старонкі беларускай літаратуры 20—30-х гг. XX ст.» (2002), «Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя» (2006) і інш. На многія вершы В. Максімовіча напісаны песні. Лаўрэат прэміі НАН Беларусі (2003), стыпендыят Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2007).

**Вёска Хадакі** Крайскага сельсавета

Тут пахавана маці **Родзевіча Леапольда,** празаіка, публіцыста, паэта, драматурга, ураджэнца фальварка *Кур'янаўшчына* гэтага ж р-на.

**Вёска Харужанцы** Янушкавіцкага сельсавета

Тут часта бываў **Купала Янка**, прыязджаў сюды да маці, хадзіў на кірмашы, запісваў цікавае.

**Купалы Янкі літаратурнага музея філіял «Акопы»**

Знаходзіцца за будынкам крамы на поўдзень, каля логу. Заснаваны 5.9.1989 г. з цэнтрам у в. Харужанцы. Адкрыты 29.8.1992 г. Агульная плошча 6,64 га. Складаецца з літаратурна-мастацкай (в. Харужанцы) і мемарыяльнай (былы хутар Акопы) частак. У вёсцы адноўлена тыповая пабудова пачатку XX ст. (на месцы былога хутара Міхалішкі), у 5 залах якой размешчана літаратурна-мастацкая экспазіцыя (аўтары — мастакі Э. Агуновіч, А. Грачоў, У. Пратасеня). У ёй прадстаўлена больш за 230 экспанатаў, у тым ліку работы мастакоў, дакументы, фотаздымкі, кнігі і ўспаміны пра Я. Купалу, матэрыялы пра купалаўскія мясціны на Лагойшчыне і Міншчыне. Тут пастаўлены помнік «Малады Купала» (1992, скульптары А. Заспіцкі і Г. Мурамцаў), зроблена адкрытая эстрада для масавых мерапрыемстваў.

Побач з вёскай знаходзіўся **хутар Ляўшова.** Крайні дом злева ад дарогі пры ўездзе ў вёску пабудаваны на яго месцы. Захаваліся толькі падмуркі і ліпавыя прысады. Гаспадаром быў Франусь Аўлачынскі, прататып Пустарэвіча, апісаны Купалам у вершах «Страх», «Сват». Сын яго Ясь хадзіў у школу ў Бяларучах. За Яся выйшла замуж сястра Купалы Марыя. Жылі тут да высылкі ў 1929 г. Каля дома вузкая жвіровая дарога вядзе на поўдзень, да былога фальварка Акопы (каля 2 км).

**Вёска Церхавічы** Лагойскага пассавета

**Мікуліч Барыс**, пісьменнік, ураджэнец г. *Бабруйск* Магілёўскай вобл., з 1947 г., пасля вяртання з ссылкі, жыў у вёсцы, адкуль родам яго бацька. У 1949 г. быў арыштаваны паўторна і высланы ў Краснаярскі край.

**Вёска Юзафова,** не існуе

Тут нарадзілася сястра **Купалы Янкі** Луцэвіч (Аўлачынская) Марыя. Жыла разам з Купалам у Косіне, Сеніцы, Прудзішчы, Селішчы, Бараўцах. З дапамогай брата атрымала хатнюю адукацыю. Пасля таго, як у 1906 г. выйшла замуж, сустракалася з Купалам у Акопах, прыязджала ў Мінск, падтрымлівала з ім шчырыя сваяцкія адносіны. Апошняя сустрэча з братам адбылася ў чэрвені 1941 г., калі ён прыязджаў да яе ў Барысаў. З 1953 г. жыла ў Мінску разам з У. Луцэвіч. Выступала з успамінамі пра Я. Купалу. У Літаратурным музеі Янкі Купалы зберагаецца фанаграма ўспамінаў Аўлачынскай пра брата.

## ЛЮБАНСКІ РАЁН

### Горад Любань

**Вуліцы Горкага Максіма, Купалы Янкі, Пушкіна Аляксандра.**

**Вул. Калініна, 2а**

**Любанскі музей народнай славы**

Заснаваны ў 1968 г., адкрыты ў 1971 г. Плошча экспазіцыі 175,5 м$^2$, 9,4 тыс. адзінак асноўнага фонду (1999), сярод якіх матэрыялы пра дзеячаў літаратуры і навукі.

* * *

**Купала Янка** ў маі 1933 наведаў Любань па дарозе ў калгас імя Беларускай ваеннай акругі. У паэме «Над ракой Арэсай» упамінае як невялікае мястэчка, якім была Любань у той час.

**Маеўскай Ніны** (н. 4.12.1938), паэтэсы, празаіка, перакладчыцы, радзіма. З сям'і служачага. Закончыўшы сярэднюю школу, працавала піянерважатай у Соснаўскай сярэдняй школе. Пасля заканчэння БДУ (1963) — у мінскай раённай газеце, часопісе «Промышленность Белоруссии» (1970—1978), выдавецтве «Юнацтва» (1980—1984), у 1985—1992 — у часопісе «Беларусь». Друкуецца з 1955 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей «Агата» (1970), «Надзеевіч» (1983), «Такая позняя вясна» (1984), «Холад доннай вады» (1989), «Трывожна шумяць ясакары» (1993), «Арніка» (1993), кніжак паэзіі «Падаюць даспелыя ранеты» (2001) і «Мая ўлюбёная краіна» (2004), кнігі для дзяцей «Ляці, верабейка» (1969) і інш.

* * *

**Вёска Асавец,** цэнтр сельсавета

**Дзядзюлі Івана** (1918—?), разведчыка, пісьменніка, радзіма. Аўтар кніг «Лясная гвардыя», «Партызанскі фронт», аповесці «Незакончаны бой» і інш.

**Вёска Барыкоў** Сасноўскага сельсавета

У маі 1933 г. **Купала Янка** пабываў тут у час творчай камандзіроўкі па Любаншчыне.

**Вёска Баянічы** Соснаўскага сельсавета

З 2008 г. у Баянічах праходзіць свята народнага гумару.

**Вёска Дварэц** Малагарадзяніцкага сельсавета

Месца выдання падпольных газет «Звязда», «Чырвоная змена».

**Вёска Закальное** Рачэнскага сельсавета

**Мікуліча Мікалая** (н. 3.7.1960), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. З сям'і калгаснікаў. Закончыў Закальненскую СШ (1978), філфак БДУ (1982), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1986). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працаваў настаўнікам Рачэнскай СШ, выкладчыкам Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Цяпер — у Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Аўтар звыш 250 навуковых прац, у тым ліку кніг і брашур «Максім Танк і сучасная беларуская лірыка» (1994), «На зломе часу» (1993), «Паэзія рэчаіснасці» (2001), «Паэзія Казіміра Сваяка» (2005), «Паэзія Пятра Сеўрука» (2006) і інш.

**Вёска Замошша** Дарасінскага сельсавета

**Паўлава Уладзіміра** (н. 25.10.1935), пісьменніка, радзіма. Пасля заканчэння Дарасінскай сярэдняй школы працаваў у любанскай раённай газеце, служыў у Савецкай Арміі, паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ (скончыў у 1962 г.). Працаваў у рэдакцыях газеты «Чырвоная змена», кінабюлетэні «На экранах Беларусі», загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура», Саюзе беларускіх пісьменнікаў (1986—1998). Друкуецца з 1954 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Узлётная паласа» (1960), «Далягляд» (1964), «Светацені» (1967), «Начная балада» (1971), «Сонца купаецца» (1976), «Сляза на вейцы» (1982), «Каласы радкоў» (1979), «Гадавое кальцо» (1986), «Што было на Беларусі» (1994), «Чысты чацвер» (1995) і інш. Выдаў некалькі кніг аповесцей і апавяданняў, у 1986 г. выйшлі яго выбраныя творы ў 2 тамах. Аўтар кніг для дзяцей «Пажарніца» (1968), «Чуж-чужаніца» (1979), «Радзімкі» (1989), «Колькі гусей убачыў Яўсей?» (1994), «Хто знае — адгадае» (1997), «Дазор на Сухой Мілі» (1999). Літаратурная прэмія імя І. Мележа за аповесць «Пад схіленым дрэвам» (1997). Перакладае з рускай, украінскай, літоўскай, балгарскай, грузінскай і інш. моў. Родным мясцінам прысвяціў шэраг вершаў.

Вёсцы і Уладзіміру Паўлаву прысвяціў свой верш «Замошша» **Камейша Казімір.**

**Востраў Зыслаў.** Да 1961 г. у Малагарадзяцкім сельсавеце

Месца знаходжання Мінскага падпольнага абкама партыі — Штаба злучэння мінскіх партызан. Сюды ў 1943 г. **Астрэйка Анатоль,** паэт, перакладчык, ураджэнец в. *Пясочнае* Капыльскага р-на Мінскай вобл., быў закінуты на самалёце. Тут быў выдадзены яго зборнік «Слуцкі пояс».

**Вёска Камуна** (да 20-х гадоў XX ст. — в. Забалацце), цэнтр сельсавета

Камунараўская васьмігадовая школа імя **Купалы Янкі** (з 1957 г.).

Разам з П. Галавачом і У. Хадыкам **Янка Купала** ў маі-чэрвені 1933 г. знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы ў Камуне імя Беларускай ваеннай акругі (цяпер калгас імя БВА) на так званым Мар'інскім балотным масіве, які тады асушаўся камунарамі. На матэрыяле іх жыцця была напісана паэма «Над ракой Арэсай» (у чарнавым варыянце яна, відаць, нарадзілася яшчэ ў Камуне імя БВА). Купала таксама наведаў суседнія вёскі Нежын, Кузьмічы, Яромічы, пасёлкі Сосны, Опень і Барыкава.

**Савік Лідзіі (**н. 1.3.1936), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. Бацькі і брат Л. Савік сталі героямі паэмы Янкі Купалы «Над ракой Арэсай». З сялянскай сям'і. Пасля вызвалення Беларусі пачала вучыцца ў першым класе Любанскай СШ. У сувязі з пераводам айчыма на работу ў Барысаў, Заслаўе, Дзяржынск і пераездамі сям'і вучылася ў мясцовых школах. Дзесяцігодку скончыла ў Дзяржынску (1954). Працавала піянерважатай у Вязанскай СШ Дзяржынскага р-на (1954—1955), у Дзяржынскай СШ № 1 (1955—1959). У 1959 г. пераехала ў Мінск. Настаўнічала ў СШ № 62 г. Мінска (да 1966 г.), працавала ў Фундаментальнай бібліятэцы імя Якуба Коласа АН Беларусі (1966—1978). Скончыла філфак БДУ (1962), Інстытут удасканалення настаўнікаў (1964). З 1974 г. працавала ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, з 1993 г. — дацэнт Беларускага ўніверсітэта культуры. Друкуецца з 1974 г. Аўтар кніг «Адчуванне часу: тэма вёскі ў сучаснай беларускай прозе» (1981), «Каб не астыла цяпло зямлі (беларуская проза 70-х — пачатку 80-х гг.) (1984), «Пад мірным небам Бацькаўшчыны: нарыс творчасці Б. Сачанкі» (1986), «Вяртанне: жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта» (1993) і інш., шматлікіх артыкулаў. Адной з першых пачала даследаваць жыццёвы і творчы шлях беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

**Вёска Кузьмічы** Камунараўскага сельсавета

**Купала Янка** наведаў Кузьмічы ў маі 1933 г. з П. Галавачом і У. Хадыкам, калі быў у творчай камандзіроўцы на Палессі, у Камуне Беларускай ваеннай акругі і саўгасе «Дзесяцігоддзе БССР».

**Вёска Нежын** Камунараўскага сельсавета

**Купала Янка** наведаў вёску ў маі 1933 г., калі быў у творчай камандзіроўцы ў калгасе імя Беларускай ваеннай акругі.

**Вёска Сарачы,** цэнтр сельсавета

У музеі мясцовага калгаса «Чырвоная змена» ёсць зала, прысвечаная **Купалу Янку**, яго наведванню Любанскага раёна, рабоце над паэмай «Над ракой Арэсай».

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***



Клуб студэнцкага гумару

**Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА**

## ТРЭЦІ СЕМЕСТР

***(Пасяджэнне 5)***

# ВЯСЁЛАЕ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

***Пасяджэнне «Клуба студэнцкага гумару» сёння адбываецца пад зоркай Уладзіміра Караткевіча. А зорка гэтая была не толькі яркая, але і вясёлая. Гарэзлівая. Гумар ззяе ў кожным караткевічаўскім творы — рамане, казцы, вершы, нават трагедыі.***

***Караткевіч быў не толькі іранічны, але і самаіранічны. Аднойчы ён зняўся разам са сваім любімым дрэвам — амялой, што расце на бярозах, — і, падараваўшы фота сябру Рыгору Барадуліну, напісаў аўтограф: «Паразіт з паразітам». Кпіў і са свайго прозвішча — у вершы «Бог важдаецца з беларускімі прозвішчамі».***

***Дык, пэўне ж, і сёння, калі б яму споўнілася восемдзесят, ён з паблажлівай і хітрай усмешкай слухаў бы тое, што плятуць пра ягоныя творы на экзаменах і заліках!***

***Прозвішчы герояў... Як толькі не важдаюцца з імі студэнты. Жыў сабе гадоў чатырыста таму на Рагачоўшчыне шляхціц Гервасій Выліваха (што ў перакладзе з мясцовае гаворкі азначае «белая чапля»). Як толькі не здзекуюцца з гэтых ініцыялаў студэнты! То Тэрвасіем яго ахрысцяць, то Іеранімам, то Герасімам. «Дык вы ўжо і пра Муму кажыце», — іранізую я. Але паспрабуйце паспрачайцеся са знаўцамі!.. «А прозвішча ў яго было ці Налівайка, ці Вылівайка. Не, здаецца, Заліваха». — «Можа, усё-ткі не Заліваха?» — сумняваюся я. — «Як жа не Заліваха? Самы сапраўдны заліваха і ёсць».***

***От жа дасталося «Заліваху» ад студэнтаў! Дый не толькі яму...***

**Пятро Васючэнка,**
**дзяжурны па клубе**

## КАРАТКЕВІЧ УСМІХАЕЦЦА

☺ «Гервасій Выліваха быў дрэнны чалавек. Ён жа на ўсіх ругаўся».

☺ «Пра Гервасія Выліваху гаварылі, што ён шмат гуляе, мужыкам ужо глядзець на яго не было як. Ён і яго сябры любілі набраць гарэлкі, паехаць на прыроду і там засмажыць шашлыкі».

☺ «Гервасій Выліваха *паставіў на вушы ўсю дзяржаву*».

☺ «Гервасій Выліваха выпіваў і з жанчынамі… як бы гэта сказаць… словам, гуляў. І аднойчы напіўся і зваліўся пад куст, і тут да яго прыйшла Смерць».

☺ «Гервасій Выліваха трапляе на той свет. Там ён у Ладдзі Роспачы сустракае *некаторы* народ».

☺ «Гераіню аповесці Уладзіміра Караткевіча “Ладдзя Роспачы” звалі *Оля*».

☺ «Караткевіч стварыў гістарычны дэтэктыў, які называўся “Паляванне *дзікага караля* Стаха”».

☺ «Караткевіч уразіў мяне напісаннем аповесці “Паляванне *на караля Стаха*”».

☺ «Уладзімір Караткевіч напісаў цудоўны раман пра каханне са шматзначнай назвай “*Нельга зрабіць”»*.

☺ «Уладзімір Караткевіч стварыў вельмі *каларыйную* прозу».

## БІЛЕТ НУМАР ТРЫНАЦЦАЦЬ

*На экзамене забараняецца прысутнасць выпадковых асоб. Ды Караткевіч, парушаючы гэтае правіла, нябачны, слухае мае размовы з небаракамі, што выцягнулі трынаццаты білет, і голасна рагоча. І прысутнасць яго зусім не выпадковая.*

Дзяжурны па клубе

## ДАМА СМЕРЦІ

— Выліваха гуляў са Смерцю ў шахматы і змухляваў. Ён рукавом скінуў *даму* Смерці з шахматнай дошкі…

— Можа, не даму скінуў, а ладдзю?

— Можа, і ладдзю…

— Вы ў шахматы гуляеце?

— Не, я больш у карты…

## ТВОР, ЯКІ ТРЭБА ХАВАЦЬ АД МУЖА

— А мне гэтая аповесць зусім не спадабалася, — кажа студэнтка-завочніца пра «Ладдзю Роспачы».

— Чаму?

— Яе ад мужа трэба хаваць.

— Навошта?!

— Там герой непрыстойны, Выліваха. Ён і п’е, і гуляе... Муж прачытае і сам захоча так рабіць.

— Пачакайце, ён жа ў фінале выправіўся. Стаў сапраўдным рыцарам, ажаніўся з Бярозкай...

— Вось пабачыце, ён пажыве-пажыве з гэтай Бярозкай, а потым ізноў пойдзе «налева». Не веру я мужчынам, Пятро Васільевіч, яны аднолькавыя.

## ПОКАЗКІ СТАРЭНЬКАГА ПРАФЕСАРА

*Караткевіч любіў показкі і часцяком пераплаўляў іх у эпізоды сваіх твораў. Показка «Дэкан тоне», можа, трошкі і барадатая, затое належыць да эпохі Майстра, і сам Караткевіч, як быў студэнтам, смяяўся з яе...*

Дзяжурны па клубе

## ДЭКАН ТОНЕ

Хведзя — самы ўзорны студэнт. Іншы, можа, піва п’е, а можа, красуню праводзіць дахаты, а гэты сядзіць на лавачцы ў парку Горкага і грызе супрамат.

Раптам чуе жаласны енк:

— Ратуйце! Тану!

Каля гарбатага мастка цераз Свіслач хтось пялёхкаецца і вось-вось патоне.

Наш геройскі Хведзя, як быў, у падараваных мамай штоніках, кідаецца ў рэчку. Цяжка яму давялося, бо тапельцаў выцягваюць за валасы, а гэты быў лысы. Але нейк управіўся наш мужны Хведзя.

І вось у выратаваным ім лысым чалавеку пазнае Хведзя свайго дэкана Івана Іванавіча, таго самага, што Хведзю ўжо тройчы абяцаў выключыць. Такога ўзорнага студэнта. І за што? За нейкія там дробязі.

Іншы на яго месцы плюнуў бы ды адышоўся, а Хведзя дэкану штучнае дыханне робіць.

Вось Іван Іванавіч аддыхаўся і кажа:

— Ты, Хведзя, сапраўды ўзорны студэнт. Шкада, што я гэтага раней не ведаў. Кажы, як цябе ўзнагародзіць?

— Нічога не мне не трэба, — кажа сціплы Хведзя.

— Ну, я цябе цяпер не выключу, гэта ясна. А што яшчэ? Павышаную стыпендыю хочаш?

— Не.

— У Амерыку ў заробкі хочаш?

— Не...

— А хочаш, пра твой геройскі ўчынак мы напішам у часопіс «Маладосць»?

— Не!

— Ну дык якога ражна табе трэба? Кажы зараз жа, бо як раззлуюся, дык ізноў пачну цябе выключаць!

— Як так, дык толькі адна просьба і ёсць, Іван Іванавіч: не кажыце нікому, што я вас ратаваў, бо студэнты мяне заб’юць!